# Уводзіны

Сцежкамі дзядоў... У чыёй свядомасці не знойдзецца куточка, дзе хаваюцца прыемныя ўражанні, дзіцячыя ўспаміны аб сцяжынках, па якіх неаднаразова прыходзілася бегчы з лесу ці рэчкі да вёскі. Вось яна, пад гарою, серабрыцца над жоўтаю палоскай палеткаў сівізною старога, абмытага дажджамі і часам дрэва. Прысадзістыя пабудовы патанаюць у зеляніне садоў і векавых дрэў, якія бачны здалёк і служаць арыенцірамі на ўсю акругу. Сцяжынка мінае надзелы зялёнага бульбянішча, абнесеныя жэрдкавым плотам, і, мінуўшы студню са зграбным навесам, выбягае на вуліцу, уздоўж якой па абодва бакі размясціўся плот, які час ад часу перарываецца брамкай. Амаль каля кожнага двара — лавачка.

Зойдзем у адну з хат. З сяней павее прыемнай прахалодай, пахам хлеба, паранай бульбы. У невялічкай хаце светла ад пабеленай печы і сцен. Прыемны цёплы колер зашмальцаваных людскімі далонямі прыпечнага слупа, палічкі, драўлянага каўша, лаў. Тут пазнаёмяць вас з рознымі цікавымі рэчамі, якія змайстравалі самі, адчыняць старадаўні куфар з рознакаляровымі наміткамі, андаракамі, абрусамі. Калі добра папрасіць, вам раскажуць мноства цікавых старых паданняў, легенд і казак, успомняць пра даўнія звычаі і абрады, праспяваюць кранаючыя сваёй цеплынёй і меладычнасцю песні. Калі ж вас зацікавіць прозвішча гаспадароў, то вы са здзіўленнем адзначыце, што такіх у вёсцы амаль палавіна, а то і сама назва вёскі вытворная ад найбольш распаўсюджанага прозвішча, што з'яўляецца адной з галоўных прыкмет старажытнасці паселішча.

Сціпласць і прастата прадметаў даўняга быту прыдаюць ім асаблівую прыгажосць, такую ж, як і мазолістыя, пацямнелыя ад часу і працы рукі, гледзячы на якія забываеш аб часе; здаецца, што рэчы, якім 100-150 гадоў, зроблены не майстрам-прадзе- дам, а вось гэтымі рукамі, што працуюць на ніве новага сялянскага жыцця. Многія прылады даўніх рамёстваў страцілі сваё прызначэнне і апынуліся на гарышчы ці дажываюць век пад страхой, у павеці.

З цягам часу сталі заўважаць, што, напрыклад, на Палессі жылыя і гаспадарчыя пабудовы ставяць у рад, а ў Паазер'і і Падняпроўі — кругам. Ганчарныя вырабы майстроў Магілёўшчыны адрозніваюцца ад такіх жа з-пад Пружан, а палескі касцюм адрозніваецца ад панёманскага і г. д. Адзначаныя асаблівасці, уласцівыя пэўным абласцям, з'яўляюцца ўстойлівымі рысамі быту, здольнымі перадавацца з пакалення ў пакаленне,— традыцыямі. Фарміраванне апошніх у многім залежыць ад устойлівых норм паводзін- звычаяў. Гэтая так званая

традыцыйна-бытавая культура адыгрывае вялікую ролю ў фарміраванні індывідуальных асаблівасцей народа і з'яўляецца важнейшай састаўной часткай этнаграфіі. Народ — гістарычная супольнасць людзей, і этнаграфію цікавяць тыя рысы гэтай супольнасці, якія захоўваюцца на працягу стагоддзяў. Народ у гэтым сэнсе слова называюць у этнаграфіі этнасам. Народ-этнас мае пэўныя прыкметы: самасвядомасць, г. зн. здольнасць адрозніць сябе сярод іншых; мову — сродак зносін; тэрыторыю, якая адыгрывае важную ролю ў гаспадарчым развіцці; традыцыйна-бытавую культуру.

Этнічная супольнасць, як катэгорыя гістарычная, звязана з сацыяльна-палітычным развіццём грамадства. У першабытную эпоху гэта супольнасць утварае такія этнасацыяльныя арганізмы, як род, племя, саюз плямёнаў. У рабаўладальніцкую і феадальную эпоху фарміруецца новая этнічная супольнасць — народнасць. Далейшае развіццё гаспадаркі, нацыянальнага рынку прыводзіць да ўтварэння супольнасці, характэрнай для капіталістычнай эпохі,— нацыі. Развіццё сацыялістычных нацый нашай краіны ў адзінай сям'і стварыла ўмовы для новых этнічных працэсаў і галоўнага з іх — працэсу росквіту і збліжэння, які прывёў да стварэння новай гістарычнай супольнасці людзей,— савецкага народа.

Каб усебакова даследаваць жыццё, быт і культуру народаў, этнаграфія звяртаецца да паслуг іншых навук. Звесткі аб далёкім мінулым народаў яна чэрпае з археалогіі; апісанне тэрыторыі і прыроды, гаспадаркі краін дае геаграфія; развіццё народаў у часе і прасторы вывучае гісторыя. Шмат неабходных звестак этнаграфіі даюць фалькларыстыка, сацыялогія, псіхалогія, антрапалогія, мастацтвазнаўства і іншыя навукі.

Крыніцамі вывучэння жыцця народаў былі летапісы, літаратурныя помнікі, запіскі падарожнікаў.

У Расіі ў 1845 г. ствараецца геаграфічнае таварыства. Яго ўдзельнікі шмат увагі надавалі вывучэнню народаў Расіі. «Ведаць сваю айчыну ва ўсіх яе межах»,— было галоўным дэвізам таварыства.

У 1867 г. у геаграфічным таварыстве ствараецца Паўночна-заходні аддзел, які шмат зрабіў па вывучэнню Беларусі. З'яўляюцца працы па этнаграфіі нашага краю.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачынаецца новы перыяд у этнаграфіі. Ствараюцца буйныя навукова-даследчыя ўстановы: Інстытут этнаграфіі імя М. М. Міклухі-Маклая АН СССР, Этнаграфічны музей народаў СССР у Ленінградзе. Адпаведныя ўстановы з'яўляюцца і ў Беларусі: Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН

БССР (1957 г.), Дзяржаўны музей БССР. Зараз ствараецца Белдзярж-музей народнай архітэктуры і быту.

Каб свядома ўспрымаць спадчыну, што дасталася нам ад дзядоў, даць ёй ацэнку, вызначыць яе карыснасць, трэба ведаць гісторыю свайго краю.

Каля 40 тысяч гадоў назад на тэрыторыі сучаснай Беларусі была эпоха старажытнага каменнага веку — палеаліт. У дрымучых лясах і неабсяжных балотах поўдня тэрыторыі Беларусі жылі першабытныя паляўнічыя. Галоўным аб'ектам палявання быў мамант, косткі якога служылі будаўнічым матэрыялам і палівам, а скура — адзеннем. Паўночныя вобласці былі пакрыты ледавіком, які знік толькі 12 тыс. гадоў назад у эпоху сярэдняга каменнага веку — мезаліту. Прыродныя ўмовы паступова становяцца падобнымі да сучасных, людзі асвойваюць вызваленыя ад ледавіка тэрыторыі, палююць на птушак, асвойваюць рыбалоўства, збіраюць сёе-тое з раслін. Галоўнае паляўнічае прыстасаванне — лук. У новым каменным веку — неаліце паляўнічыя карыстаюцца сілком і сеткамі, лодкамі-чаўнамі. Распаўсюджваецца кераміка. Пачынаюць акрэсліваецца яе асаблівасці, характэрныя для Палесся, Падняпроўя, Паазер'я.

У VII-VI стст. да н. э. нашы продкі заўважылі, што пры моцнай цеплавой апрацоўцы балотнай руды з яе атрымліваецца матэрыял, больш трывалы, чым камень. Так пачаўся век жалеза.

Калі вам трапіцца вёска з назвай Рудня, ведайце, што тут, магчыма, было старажытнае паселішча. Распаўсюджваюцца больш дасканалыя, жалезныя прылады працы, якія выклікалі ворнае земляробства.

У другой палове I тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларусі пачынае фарміравацца аднатыпная культура. Працэс яе развіцця ішоў паралельна з распадам першабытнаабшчыннага ладу.

З VI-VII стст. н. э. пачынаецца славянскі этап у гісторыі Беларусі. Асаблівасці гаспадаркі і культуры папярэдніх плямёнаў увайшлі ў культуру ўсходнеславянскіх этнічных супольнасцей, назвы якіх упершыню ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых часоў». З яе мы даведваемся, што большасць паўднёвай і частку цэнтральнай Беларусі займалі дрыгавічы, паміж Дняпром і Дзясной жылі радзімічы, у Наддзвінні — крывічы.

Гэтыя этнічныя супольнасці ўжо добра ведалі ворнае земляробства, саху, плуг, жалезную сякеру; карысталіся сярпамі і косамі-гарбушамі; мелі развітое ганчарства. Рамяство тады аддзяляецца ад земляробства. З'яўляюцца катэгорыі працаўнікоў, якія не займаюцца земляробствам, а цалкам з дня ў дзень робяць розныя рамесныя

вырабы. Яны селяцца паблізу буйных шляхоў. Узнікаюць цэнтры рамяства і гандлю — гарады.

Фарміруецца палітычная арганізацыя грамадства, на чале якой становіцца князь; яму дапамагаюць дружыннікі, зборшчыкі даніны. У гаспадарча-экана- мічных зносінах з'яўляюцца грошы. Гэта былі першыя крокі пераўтварэння племянных этнічных супольнасцей у народнасці раннекласавага грамадства. У IX-X стст. дрыгавічы, радзімічы і крывічы разам з іншымі ўсходнеславянскімі плямёнамі аб'ядноўваюцца вакол гаспадарча-палітычнага цэнтра палян — Кіева. Узнікае раннефеадальная дзяржава — Кіеўская Русь, якая адыграла вялікую ролю ў гісторыі братніх рускага, украінскага і беларускага народаў.

Развіваецца гаспадарка: двухполле выцясняе падсечна-агнявое земляробства, развіваецца садоўніцтва, з'яўляецца ганчарны круг, а з ім масавая вытворчасць ганчарных вырабаў на продаж.

У старажытнарускай дзяржаве фарміруюцца агульныя рысы мовы, узнікае агульны ўсходнеславянскі фальклор, агульныя рысы ў вераваннях, звычаях, абрадах. З'яўляюцца першыя пісьмовыя помнікі. У свядомасці людзей фарміруецца ўяўленне аб агульнай этнічнай тэрыторыі — Рускай зямлі. Яны адрозніваюць сябе ад іншых народаў, узнікае саманазва (этнонім) — рускія. Кіеўская Русь была буйнейшай раннефеадальнай дзяржавай Еўропы, мела шырокія міжнародныя палітычныя, гандлёвыя і культурныя сувязі.

З XIII ст. пачынаецца эпоха феадальнай раздробленасці. Узмацняюцца лакальныя адрозненні ў куль- турна-гаспадарчым адзінстве старажытнарускай народнасці. Расшырэнне прыгонніцтва, развіццё гаспадаркі (з'яўленне трохполля) спрыяюць умацаванню княстваў, працэсу этнічнай адасобленасці. У Паўднёва-ўсходнюю Русь уварваліся татара-манголы; землі, у якіх складваліся і развіваліся ўкраінская і беларуская народнасці, апынуліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а пазней — Рэчы Паспалітай. К гэтаму часу ў насельніцтва Беларусі склаліся ўстойлівыя асаблівасці ў матэрыяльнай культуры, мове. З'яўляецца назва тэрыторыі — Белая Русь (Беларусь). Этнонім «Русь» дае ўсведамленне адзінства ўсходнеславянскіх народаў. К другой палове XVI ст. канчаткова фарміруюцца гаспадарчыя, культурныя, бытавыя і моўныя асаблівасці беларусаў. Так узнікае беларускі народ.

У XVII-XVIII стст. у Беларусі з'яўляюцца мануфактуры. Крызіс феадалізму ўзмацняе класавую барацьбу. Яе дапаўняюць сілы, што змагаюцца супраць нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту. К канцу XVIII ст. Рэч Паспалітая, як дзяржава, прыходзіць у заняпад. Пасля

падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь увaходзіць у склад Расіі, якая ў сярэдзіне XIX ст. выходзіць на капіталістычны шлях развіцця.

Узмацняюцца сувязі паміж асобнымі абласцямі Беларусі, яе эканоміка збліжаецца з эканомікай усёй Расіі. Беларускі нацыянальны рынак развіваецца як частка ўсерасійскага. Працэс падзелу працы вядзе да росту мануфактур, фабрык, заводаў. Земляробства спецыялізуецца на вытворчасці таварных культур. Усходняе Палессе пастаўляе каноплі, Міншчына — збожжа, Паазер'е — лён. У Беларусі з'яўляюцца чыгункі, шасэйныя дарогі, развіваецца рачное суднаходства. Фарміруюцца класы буржуазіі і пралетарыяту. Буржуазныя адносіны пранікаюць ва ўсе бакі жыцця. Прамысловыя тавары выцясняюць традыцыйнае адзенне, прылады працы, абсталяванне быту. Усё менш адчуваюцца традыцыі духоўнай культуры, звязаныя з легендамі, міфалогіяй і г. д.

І вось новы этап у гісторыі Беларусі — Кастрычнік 1917 г. У 1919 г. узнікае нацыянальная беларуская дзяржава. Будуецца новая, сацыялістычная сістэма гаспадарання ў горадзе і вёсцы. У 1939 г. пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі канчаткова фарміруецца этнічная тэрыторыя. Завяршаецца кансалідацыя беларускага народа ў новую этнічную супольнасць — сацыялістычную нацыю.

След кожнай эпохі бачны на зямлі. Зразумела, не проста заўважыць старажытны курган, знайсці каменную сякеру. У гэтых старажытных рэчах захапляе подых далёкага мінулага, а вось драўляны коўш, гляк, ільняны абрус, здаецца, не так уражваюць. Дарэмна. У іх таксама адчуваецца напластаванне часу. Уявіце, колькі стагоддзяў салярнаму ўзору, вядомаму ў народнай разьбе па дрэву. А паглядзіце ўважліва на ўзоры слуцкіх паясоў. У прыгожым малюнку вы адчуеце залацістыя фарбы жытніх палёў, пяшчотную гаму палявых кветак. Ці дзівосныя вырабы івянецкіх ганчароў! Гэта ж цэлая скарбніца народных казак. Тут і гумар, і весялосць, і кемлівасць. Увесь народны характар знайшоў сваё ўвасабленне! А касцюмы Неглюбкі з іх непаўторнымі ўзорамі, фарбамі квітнеючых садоў Пасожжа. Гледзячы на гэтыя творы народнага мастацтва, мы адчуваем, што народных умельцаў натхняла любоў да роднага краю. Яе яны завяшчалі і нам.

# 1 Мастацва народных дойлідаў

## Гістарычны лёс будаўніцтва

Цікавасць да народнага дойлідства ўзнікла разам з нараджэннем этнаграфіі, калі вёска становіцца аб'ектам этнаграфічнага вывучэння, а сялянскія пабудовы пачынаюць дэманстравацца на этнаграфічных выстаўках.

Як жа складваўся лёс народнага дойлідства? Спачатку чалавек карыстаўся сховішчамі, што давала яму прырода,— пячорамі. Першыя пабудовы з'явіліся, калі прылады працы сталі больш-менш дасканалымі. На стаянках часоў неаліту ў Бердыжы і Юравічах, што на Гомельшчыне, археолагі выявілі збудаванні, сцены якіх былі зроблены з касцей буйных жывёл (мамантаў, насарогаў), а страха на драўляных слупах накрывалася скурамі. У эпоху мезаліту жыллём вандроўных паляўнічых былі буданы, якія нагадвалі пераносныя чумы паўночных народаў. Такія пабудовы лёгка збіраліся і пераносіліся ў час вандравання.

У эпоху неаліту з'яўляюцца больш складаныя збудаванні — свайныя. У эпоху бронзы будаўніцтва ўзнялося на новы ўзровень. Прычынай таму было распаўсюджванне жывёлагадоўлі. Каб трымаць зімой жывёлу і маладняк ва ўмовах суровага клімату, патрэбны былі цёплыя пабудовы і па памерах значна большыя за шалашы-зямлянкі. Сцены пачалі класці з бярвенняў, якія апрацоўваліся пэўным чынам па канцах і застаўляліся ў пазы вертыкальных слупоў-шул. Накрывалася пабудова двухсхільнай страхой, якая, у сваю чаргу, мацавалася на стойках,— сохах (слупах з разгалінаваннем уверсе). Так з'явілася слупавая канструкцыя. Хутчэй будаўніцтва развівалася на поўдні Беларусі, дзе намеціўся пераход ад патрыярхальна-родавай да суседскай абшчыны (першая вызначалася кроўным радством членаў, другая — іх суседствам). Тыпы жылых пабудоў, характэрныя для Паўднёвай і Паўночнай Беларусі, ясна вызначаліся ўжо ў жалезным веку.

Пабудовы Паўночнай Беларусі ўяўлялі сабой доўгія будыніны слупавой канструкцыі, раздзеленыя на асобныя памяшканні плошчай 20-25 м$^2$. Жылыя памяшканні адрозніваліся ад гаспадарчых тым, што ў іх былі ачагі. Такія дамы мелі часам значныя памеры (12Х12, 17Х8 м). Магчыма, што ўжо ў пачатку нашай эры будаўнікі ўмелі злучаць бярвенні пры дапамозе драўляных замкоў у зруб. Пабудова часта дзялілася напалам падоўжанай сцяной большай вышыні, на якую абапіраўся грэбень двухсхільнай страхі. Вялікія шматкамерныя

пабудовы Сярэдняй і Паўночнай Беларусі адпавядалі гаспадарчаму і грамадскаму быту вялікай патрыярхальнай сям'і. Сем'і, што пачалі аддзяляцца, жылі ў асобных памяшканнях агульнага дома і сваёй гаспадаркі не вялі.

Зусім інакш будавалі на поўдні Беларусі, дзе ў гэты час жылі плямёны мілаградскай і зарубінецкай культур. Тут у асноўную гаспадарчую адзінку вылучылася невялікая самастойная сям'я, што прывяло да з'яўлення невялічкіх пабудоў. Яны мелі іншы раз круглую ў плане форму, дыяметрам да 6 м. У такім разе сцены з бярвенняў зрабіць было немагчыма і іх рабілі плеценымі. Страха мела форму шатра, які накрываўся чаротам альбо саломай і ў цэнтры падтрымліваўся слупам. К сярэдзіне першага тысячагоддзя н. э. на тэрыторыі сучаснай Беларусі пачынаюць распаўсюджвацца зрубныя аднакамерныя (адно памяшканне) пабудовы, што сведчыла аб распадзе па- трыярхальна-родавага ладу. Аднак зрубная канструкцыя, як больш дасканалая, усё ж не выцесніла слупавую; яны працягвалі суіснаваць і на многія стагоддзі сталі асноўнымі ў народным дойлідстве. Яны зрабілі рашаючы ўплыў на фарміраванне традыцыйных форм.

У другой палове I тысячагоддзя н. э. славяне прыносяць з сабой новы тып жылля паўзямлянячнай ці зямлянячнай будовы з глінабітнай ці каменнай печчу. Заглыбленне ў зямлю магло быць даволі значным — 1-2 м. Памеры будынка былі невялікія — 4Х5 м. Традыцыі зямлянак і паўзямлянак, прынесеныя славянамі, змешваіся з будаўнічымі традыцыямі папярэдніх плямён і развіваліся далей, выпрацоўваючы якасці і рысы, адпаведныя ўмовам жыцця ў лясной паласе.

У часы Кіеўскай Русі зрубная тэхніка на тэрыторыі Беларусі становіцца пануючай. Фарміруецца старажытнарускі тып аднакамернага жылля з двухсхільнай страхой, крытай саломай альбо дранкай (колатыя шчэпы). З'яўляюцца і двухкамерныя хаты. У старажытным Бярэсці на некаторых сядзібах знойдзена па два зрубы, звернутыя ўваходам адзін да аднаго. Магчыма, яны былі злучаны сенямі. Асвятлялася жыллё невялічкім акенцам, якое магло мець абалонку са слюды альбо шкла. У плане жылога памяшкання печ перамясцілася з дальняга вугла бліжэй да ўваходу. Печ рабілася глінабітнай з верхам накшталт патэльні, што дазваляла выкарыстоўваць яе як пліту. У XIV-XV стст. будаўнічая тэхніка ўдасканальваецца. Будынкі рубяць не толькі з кругляка, але і з цёсаных бярвенняў, брусоў, злучаючы іх у вугал без астатку,— «чысты вугал». Сцены звонку пачынаюць шаляваць. Да вядомых матэрыялаў пакрыцця страхі — чароту, саломы, дранкі — далучаецца гонта. К гэтаму часу сфарміраваліся асноўныя

асаблівасці і рысы народнага дойлідства, будаўнічай тэхнікі. На іх аснове склалася архітэктурнае аблічча пабудоў сялянскага двара, хаты, што дайшлі да нас з глыбіні сівых стагоддзяў.

## Паселішчы

Паселішчы ўзніклі на зары развіцця чалавечага грамадства і цесна звязаны з той ці іншай яго формай. Напрыклад, чалавечаму грамадству каменнага веку адпавядаюць паселішчы, якія вучоныя называюць стаянкамі. Размяшчаліся яны на ўзвышаных месцах. Стаянкі былі невялікімі і існавалі нядоўга, бо першабытныя паляўнічыя пастаянна вандравалі. І толькі ў неаліце пачынаюць з'яўляцца на тэрыторыі сучаснага Палесся паселішчы буйных памераў з больш-менш аседлым ладам жыцця. Вучоныя лічаць, што ў канцы неаліту адбыўся дэмаграфічны выбух, у выніку якога насельніцтва павялічылася прыкладна ў 6 разоў. Так, калі ў мезалітычную эпоху адна стаянка ад другой знаходзілася на адлегласці 12-15 км, то зараз на 1-1,5 км. Памеры і рост старажытных паселішчаў абмяжоўваліся. Рабілася гэта таму, што буйное паселішча з цяжкасцю магло сябе пракарміць.

Першыя ўмацаваныя паселішчы — гарадзішчы з'яўляюцца на тэрыторыі Беларусі ў жалезным веку. Гэта паселішчы вялікіх патрыярхальных сем'яў, у руках якіх ішло накапленне матэрыяльных каштоўнасцей: пагалоўя жывёлы, прадуктаў земляробства. Для будаўніцтва гарадзішча выбіралі надпойменныя мысы, узгоркі. Калі такія асаблівасці рэльефу адсутнічалі, то гарадзішча будавалі пасярод балотнай нізіны. Таму і адрозніваюць два тыпы гарадзішчаў — мысавыя і балотныя. Гарадзішча абносілася адным альбо некалькімі зямельнымі валамі. Вышыня вала дасягала 5 метраў. Часам валу папярэднічаў драўляны тын. Жылыя дамы размяшчаліся за валам у адну ці дзве лініі. У доме жыла патрыярхальная сям'я з 10-12 чалавек. Крыху далей стаяла паветка для жывёлы, вытворчыя будынiны.

Нізкі ўзровень вытворчых сіл вымушаў людзей да пэўнага часу жыць вялікімі сем'ямі. Але прылады працы паступова ўдасканальваліся, людзі навучыліся выплаўляць не толькі жалеза, але і сталь. Гэта прывяло да павелічэння колькасці прадуктаў. Да таго ж людзі пачынаюць займацца ў асноўным земляробствам, якое давала больш прадуктаў і дазваляла трымаць хатнюю жывёлу. У такіх умовах нават невялікая сям'я стала здольнай пракарміць сябе. Патрыярхальна-родавая абшчына пачынае распадацца. На змену ёй прыходзіць абшчына тэрытарыяльная, якая складаецца з роднасных невялікіх

сем'яў, што жывуць на агульнай тэрыторыі. Зразумела, што ў такім разе гарадзішча, як тып паселішча, перастае адпавядаць грамадскім патрабаванням. На змену яму ў сярэдзіне І тысячагоддзя прыходзяць неўмацаваныя селішчы. Часта яны будуюцца недалёка ад старога гарадзішча, якое цяпер выконвае ролю сховішча на небяспечны час. Нярэдка такія гарадзішчы ў мірны час выкарыстоўваліся для сходаў, ігрышчаў, рытуалаў і абрадаў. Часта тут збіраліся жанчыны, пралі кудзелю, ткалі, спявалі песні.

У мінулым земляробства было падсеяным. Людзі выкарчоўвалі ў лесе пляцоўку, спальвалі тое, што заставалася непатрэбным, попел ішоў на ўгнаенне. Такія дзялянкі зямлі ў старажытнасці называліся лядам. Да нашага часу гэту назву носяць многія беларускія вёскі (напрыклад, вёскі Ляды ў Слуцкім, Старадарожскім і іншых раёнах). З атрыманага лесаматэрыялу будавалі селішча. Але праз некалькі год пляцоўка спусташалася, яе прыходзілася кідаць і пераходзіць на новае месца. Такі спосаб апрацоўкі зямлі называўся пералогам. Гэта прыводзіла да вандравання цэлых селішчаў, асабліва на Палессі. Развіццё вытворчых сіл прывяло, як вядома, да аддзялення рамяства ад земляробства і жывёлагадоўлі. Рамеснік гандляваў гаршкамі, упрыгожваннямі, зброяй, прыладамі працы. Ды і сяліўся ён там, дзе была вялікая дарога ці прыстань, там, дзе збіраліся людзі зблізку і здалёку і дзе можна было знайсці на свае вырабы пакупніка. Так адбыўся гістарычны падзел паселішчаў на гандлёва-прамысловыя і земляробчыя. З першых пачалі хутка развівацца гарады, другія сталі сельскімі паселішчамі.

Гарады старажытнай Беларусі былі драўлянымі. Вузкія вуліцы масціліся насцілам з бярвенняў. З цягам часу насціл зношваўся і зверху насцілалі новую маставую. Звычайна маставую аднаўлялі разы чатыры за сто гадоў. Хаты шчыльна ляпіліся адна да другой. Таму іншы раз хату рубілі за горадам і толькі потым перавозілі на сваё месца.

Кварталы з хацінамі рамеснікаў у старажытнарускіх гарадах называліся пасадам. Звычайна яны размяшчаліся вакол умацаванай часткі горада — дзядзінца. Калі вуліцы ад дзядзінца адыходзілі радыяльна, то іх яшчэ называлі канцамі. У эпоху Кіеўскай Русі, ды і ў больш познія часы паняцце горада звязвалася з яго ўмацаванай часткай. Асноўным відам умацаванняў былі рубленыя сцены і вежы. Такія ўмацаваныя гарадкі на Беларусі размяшчаліся праз 30-50 кіламетраў. Умацаванне звычайна акружалася ровам, праз які перакідваўся насупраць варот мост. За ровам перад сценамі ставілі надаўбні і рагаткі — абрубкі бярвенняў ці завостраныя калы. Па грэбні вала ішлі

сцены. Іх складалі два паралельныя рады з папярочнымі перарубкамі. Завяршаліся сцены адным ці двума ярусамі байніц і страхой, на схілах якой замацоўваліся бярвенні, што ў час штурму скідваліся на нападаючых. Каб сцены былі мацнейшыя, унутраную прастору засыпалі зямлёй ці каменнямі (Віцебск, Барысаў). А каб засцерагчы ад пажару, абмазвалі глінай і бялілі (Крычаў). Для трываласці сцены часта рубілі ў два, а то і ў тры бервяны (Полацк, XVI ст.; Віцебск, Дзісна, XVII ст.). У найбольш адказных месцах ставілі вежы. Колькасць ярусаў вагалася ад аднаго да чатырох, і таму гавораць, што вежа магла мець да чатырох баёў: ніжні, сярэдні і два верхнія — гарматны і мушкетны. Менавіта ў вежах размяшчалася артылерыя. Вежы мелі востраверхія стрэхі з вежкамі для назіральнікаў. Драўляныя ўмацаванні беларускіх гарадоў часта былі непрыступнымі для захопнікаў. Так, у XIV ст. не аднойчы нямецкія рыцары беспаспяхова штурмавалі сцены Полацка. Беларускія гарады былі ўмацаваны ў поўнай адпаведнасці з узроўнем тагачаснай ваеннай навукі і ваеннай тэхнікі.

Вёскі земляробаў будаваліся без усялякай сістэмы. Групы прысадзістых хацінак туліліся там-сям пад высокімі дрэвамі на палянах і ўзлесках, агароджаных жэрдкамі. Двары сваякоў ставіліся побач, утвараючы як бы гнёзды. Таму такую вёску называюць яшчэ гнездавой. Сем'і, сваяцтва якіх заключалася ў паходжанні ад агульнага продка, насілі адно прозвішча. У многіх вёсках Цэнтральнай Беларусі адгалоскі гэтай з'явы дайшлі да нашага часу. Напрыклад, у вёсках Слуцкага, Старадарожскага, Любанскага, Капыльскага і іншых раёнаў сустракаецца значная колькасць людзей з аднолькавымі прозвішчамі.

Традыцыі бессістэмнай гнездавой вёскі не зніклі разам з пералогам. Бессістэмная вёска захавалася на многія стагоддзі аж да пачатку нашага веку, асабліва на Паазер'і, дзе складаны рэльеф са шматлікімі азёрамі, рэчкамі не даваў магчымасці ствараць значныя палеткі. Зямлю прыходзілася апрацоўваць невялікімі раскіданымі ўчасткамі, што выклікала і раскіданы, бессістэмны характар вёсак. К пачатку ўтварэння Кіеўскай Русі тэхніка земляробства значна ўдасканалілася, што спыніла вандраванне земляробаў, павялічыла плошчы апрацоўваемых зямель, упарадкавала характар селішчаў.

Пачынаюць распаўсюджвацца лінейныя вёскі. Яны стаялі ўздоўж берага ракі альбо дарогі, што натуральна вызначала такую планіроўку. Аднак лічыць, што лінейная вёска і сучасная нам вулічная адно і тое ж,— памылка, бо звычайны рад хат з вуліцай у поўным сэнсе слова нічога агульнага не меў. У старажытнасці лінейныя вёскі маглі складацца з 3- 5 ліній.

Вулічная вёска шырока пачала распаўсюджвацца пасля зямельнай рэформы 1557 г. («Устава на валокі»). Да гэтай рэформы зямля вёскі належала ўсім яе жыхарам — абшчыннікам. Адзінкай феадальнай павіннасці былі сем'і, што жылі ў асобных хатах,— дымы (падымная павіннасць). Пасля рэформы адзінкай феадальнай павіннасці стала ўся вёска. Так з'явіліся вёскі цяглыя, асадныя і іншыя, у залежнасці ад выпаўшай на іх долю павіннасці. Карэнным чынам змянілася і планіроўка.

Абшчынная зямля дзялілася на тры палі (трохполле). Праз сярэдняе поле пракладвалася вуліца, упоперак якой наразаліся надзелы,— валокі. Гаспадар, які браў цэлую валоку, павінен быў з аднаго боку вуліцы будаваць хату і клеці, а хлявы і гумно — з другога. Калі валоку бралі два гаспадары, то кожны з іх будаваўся цалкам толькі з аднаго боку вуліцы. Развіццё такой вёскі магло ісці шляхам ушчыльнення. З цягам часу сядзіба бацькі дзялілася паміж сынамі і ўнукамі і станавілася ўсё вузейшай. Па гэтай жа прычыне знікалі і сядзібы з двухбаковай забудовай: спачатку да цёплых пабудоў пераносілі хлявы, а затым і гумны, вызвалены ўчастак забудоўваўся новым гаспадаром. Калі і гэтыя магчымасці для развіцця вычэрпваліся, пачыналі забудоўваць прыгуменні. Утваралася вуліца, паралельная галоўнай. Так аднавулічныя вёскі пераўтвараліся ў шматвулічныя. Найбольш поўна валочная рэформа была праведзена ў заходніх раёнах Беларусі, дзе і зараз вёскі носяць ярка выражаны лінейны характар.

На фарміраванне пасяленняў значна ўплывалі фактары адміністрацыйнага падпарадкавання. Вёскі ўваходзілі ў склад пэўнай сельскай акругі — вотчыны феадала. Паселішча, якое прымыкала да феадальнага маёнтка, лічылася цэнтрам уладання. У часы Кіеўскай Русі такія цэнтры называліся пагостамі. Тут звычайна знаходзілася царква, сюды паступала і даніна князю. Існуе думка, што пагосты існавалі яшчэ раней, як цэнтры тэрытарыяльных абшчын. Тут знаходзіліся абшчынныя могілкі, цэнтральныя капішчы, месца сходаў, судоў, гульбішчаў, свят, трызнаў.

З цягам часу на змену пагосту як цэнтру абшчыны альбо маёнтка прыходзіць сяло. Сёлы характэрны для буйнога феадальнага землеўладання, яны становяцца тэрытарыяльна-адміністрацыйнымі цэнтрамі ў феадальнай дзяржаве. На Беларусі сёлы выконвалі ў XVIII-XIX стст. функцыю цэнтра воласці. У гэты час у сяле, акрамя царквы, з'яўляецца шэраг адміністрацыйных і грамадскіх будынкаў: валасная ўправа, царкоўнапрыходская школа, карчма, грамадскі амбар (магазін).

У мінулым феадал, каб зацікавіць сялян у асваенні новых ворных зямель, вызваляў ад подацей і чыншу тых, хто сяліўся на новых месцах з неўрадлівымі землямі. Іх пасяленні атрымалі назву слабод. Асабліва шмат іх было на Пінскім Палессі. Там яны называліся Волямі, Вулькамі.

Былі на Беларусі і паселішчы іншага характару — саслоўна-класавага. Адно з іх, засценак, узнікла як прамое параджэнне валочнай формы. Паміж палеткамі трохпольнага севазвароту заставаліся адрэзкі, засценкі (ад слова «сценка» — мяжа). Яны здаваліся звычайна ў арэнду дробнай шляхце, якая сялілася тут сваімі дварамі. Узнікшыя пасяленні атрымалі назву засценкаў, а іх жыхары зваліся засцянковай шляхтай.

Другім такога ж роду тыпам паселішча шляхты была ваколіца. Назва паходзіць ад агульнаславянскага «околоти», што значыць абкружаць, агароджваць, пазней — наваколле, агароджа вакол вёскі. Ваколіцы будаваліся непадалёку ад вёскі і абносіліся плотам. Шляхта імкнулася выдзеліцца ад сялян, падкрэсліць сваё высакароднае паходжанне. Калі селянін памылкова называў ваколіцу сялом, шляхціц успрымаў гэта як абразу.

Часта ў гістарычнай літаратуры можна сустрэць такую назву паселішча, як фальварак. Калісьці так называлі феадальную гаспадарку, якая выраблялa хлеб на продаж. Пазней фальваркамі называлі пасяленне, размешчанае непадалёку ад маёнтка арандатара,— уладальніка фальварка. Звычайна фальварак складаўся з 3-5 двароў.

Такімі ж маладворнымі пасяленнямі былі і хутары. Распаўсюджвацца яны пачалі пасля адмены прыгоннага права, калі асобныя гаспадары пачалі выходзіць з сельскай абшчыны. Гэты працэс паскорыўся ў пачатку XX ст. асабліва ў Паазер'і і Падняпроўі. Гаспадароў-хутаран падтрымліваў урад, які бачыў у іх будучых сельскіх буржуа,— кулакоў. Масавае рассяленне на хутары пачалося ў час сталыпінскай рэформы, якую У. І. Ленін ахарактарызаваў «...як буйны крок масавага насілля над сялянствам у інтарэсах капіталізму».

Па сваіх памерах паселішчы Беларусі ў раннефеадальны перыяд былі самымі разнастайнымі: ад 1-3 двароў да некалькіх кіламетраў даўжыні. Рост феадальнага землеўладання, закабаленне вольных сялян-абшчыннікаў вядзе да маладворнасці паселішчаў, якая застаецца характэрнай рысай беларускіх вёсак і на працягу XVII і XVIII стст. Маладворнасці спрыялі спусташальныя войны, якія выклікалі непамернае разарэнне краю, бегства насельніцтва за межы Беларусі. Да сярэдзіны XIX ст. рост вёсак ішоў за лік натуральнага прыросту насельніцтва. Толькі пасля адмены прыгоннага права, у выніку раз-

бурэння капіталістычнымі адносінамі сельскай абшчыны, паскараецца працэс падзелу сем'яў.

У гады Савецкай улады, дзякуючы ўсталяванню калгаснай сістэмы, істотным зменам у землекарыстанні і эканамічных адносінах, пачынаецца новы этап у развіцці вёсак. Яны растуць, прыгажэюць, становяцца шматвулічнымі, бо сучасная тэхніка дае магчымасць стварыць добрую вёску ў любой мясцовасці, любых геаграфічных умовах.

## У старым мястэчку

У даўнія часы мястэчкам называлі кожны невялікі гарадок, бо само слова «мястэчка» з'яўляецца памяншальнай формай ад агульнаславянскага «место» (горад). Фарміравацца на тэрыторыі Беларусі мястэчкі пачалі ў XV-XVI стст. У гэты час каля прыватнаўладальніцкіх маёнткаў пачынаюць узнікаць таргі, што было выклікана патрэбамі ўнутранага рынку. Справа ў тым, што сяляне павінны былі плаціць частку падаткаў грашыма (грашовая рэнта). Таму яны вымушаны былі прадаваць частку прадуктаў і вырабаў. Таргі паступова пачалі пераўтварацца ў паселішчы, міжгарадскія гандлёва-рамесніцкія цэнтры, якія ўцягвалі ў сферу гандлю насельніцтва больш аддаленых раёнаў. За продаж тавараў бралі падатак у карысць казны, таму спачатку феадалам забаранялася ствараць прыватнаўладальніцкія мястэчкі, яны маглі ўзнікаць толькі з дазволу Вялікага князя (у часы Вялікага княства Літоўскага). Каб паборы з гандлю траплялі пераважна ў каралеўскую казну (часы Рэчы Паспалітай), «Уставай на валокі» забаранялася ствараць таргі бліжэй чым за тры мілі ад каралеўскіх мястэчак. Толькі ў 1588 г. шляхта дабілася скасавання абмежаванняў на будаўніцтва прыватнаўладальніцкіх мястэчак. Таму большасць з іх і ўзнікла ў перыяд з канца XVI да пачатку XVII ст.

Найбольш старажытнымі з'яўляюцца мястэчкі, што ўзніклі каля замкаў: Іказнь (1499 г.), Дзісна (1566 г.). Нямала мястэчак было заснавана каля манастыроў, на царкоўных землях (Жыровічы Слонімскага раёна, 1643 г.). Многія вёскі з цягам часу пераўтварыліся ў мястэчкі (Моталь Іванаўскага, 1544, Дзівін Кобрынскага, 1566 г., Станькава Дзяржынскага раёна, 1588 г.). Шмат мястэчак было пабудавана на буйных шляхах (Нача Воранаўскага, Барань Аршанскага, Старобін Салігорскага раёнаў). Прычым у абавязак іх жыхароў уваходзіла абслугоўванне праезджых купцоў і будаўніцтва корчмаў і пастаялых двароў.

Мястэчка мела даволі складаны сацыяльны склад насельніцтва. Сяляне мястэчка (мяшчане) не заўсёды карысталіся статусам гараджан. Яны неслі розныя павіннасці, мелі гаспадарку, двор. У іх абавязак уваходзіла ездзіць з падводамі ў бліжэйшыя гарады за таварамі для гандляроў. Значную частку насельніцтва мястэчка складалі рамеснікі, гандляры. Жылі, як правіла, у цэнтры, каля гандлёвай плошчы.

У мінулым на фарміраванне структуры мястэчка значны ўплыў рабілі прыродныя фактары. Найбольш спрыяльнымі з іх была наяўнасць вады, якая была шляхам зносін, давала ежу (рыба, птушкі), а таксама дапамагала арганізаваць абарону. З гэтай прычыны найбольш старажытныя мястэчкі будаваліся ў нізкіх месцах, часам забалочаных. Таму іх адносяць да балотнага тыпу (Валкалата Докшыцкага, Дзівін Кобрынскага, Моталь Іванаўскага раёнаў і іншыя).

Пазней мястэчкі пачалі будаваць на граніцах заліўных тэрас, мысах і водападзелах (Нягневічы Навагрудскага, Рубяжэвічы Стаўбцоўскага, Дзярэчын Зэльвенскага, Юрацішкі Іўеўскага раёнаў). Іх адносяць да сухадольнага тыпу. Структураўтвараючую ролю ў тыя часы адыгрывалі камунікацыі: водныя шляхі, дарогі. Мястэчкі, што фарміраваліся каля іх, звычайна былі аднавулічнымі альбо двух-, трохвулічнымі.

Галоўнай прыкметай мястэчка была плошча. Спачатку гэта было простае пашырэнне вуліцы. Навакольнае асяроддзе адыгрывала важную структураўтвараючую ролю ў групе так званых партовых мястэчак, што стаялі на берагах буйных рэк ці каля азёр. Напрыклад, Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна на Нёмане, Друя Верхнядзвінскага раёна на Заходняй Дзвіне, Браслаў, што прытуліўся ў нізіне сярод пяці азёр.

У мястэчках, на структуру якіх не аказвалі рашаючага ўплыву навакольнае асяроддзе ці шляхі зносін, складвалася своеасаблівая планіроўка. З другога боку, якога-небудзь агульнага плана для іх забудовы таксама не было. Такія мястэчкі прынята называць «пазакласіфікацыйнымі». Да іх адносяцца Слонім, Астрына і іншыя.

У асобную групу аб'ядноўваюцца мястэчкі, структура якіх фарміравалася на аснове мэтанакіраванай дзейнасці чалавека. Дзейнасць гэта цесна была звязана з пэўнымі культурна-гістарычнымі эпохамі. Адной з такіх эпох, што пакінула велізарны след у гісторыі і культуры сярэднявечча, была эпоха готыкі. Гатычныя мястэчкі Заходняй Еўропы вызначаліся асаблівай якасцю ў планіроўцы — рэгулярнасцю. Гэта рэгулярнасць суседнічала з кампактнасцю забудовы, радыяльным напрамкам вуліц у адносінах да плошчы.

Гатычныя мястэчкі Беларусі, якія фарміраваліся значна пазней, маюць істотныя адрозненні. У іх планіроўцы пераважае лінейны характар. Дынамізм ліній супрацьпастаўляецца статыцы круга. Ідэальнай схемай беларускага гатычнага мястэчка з'яўляецца плошча, ад вуглоў якой папарна разыходзяцца вуліцы, Многія каралеўскія і прыватнаўладальніцкія мястэчкі доўгі час будаваліся на аснове гэтых прынцыпаў: Пінск, Скідаль, Астрына і іншыя.

У XVII-XVIII стст. будуюцца пышныя палацы; інтэр'еры і мэбля перапоўнены незвычайнымі, часам вычурнымі формамі. Пачынаецца эпоха барока.

У мястэчках барочнага перыяду асноўным кампазіцыйным ядром становіцца ці размешчаная побач, ці ў самім мястэчку магнацкая сядзіба. Прыкладамі такіх мястэчак у Беларусі могуць быць Шчучын, Паставы, Жалудок і іншыя. Барочная забудова мястэчка Паставы была распачата ў XVIII ст. На плошчы, вакол якой ляпіліся ў беспарадку драўляныя хаціны і лаўкі, былі пабудаваны каменныя будынкі характэрнай барочнай архітэктуры, якія стварылі своеасаблівы ансамбль, частка якога захавалася да нашага часу.

У XVIII-XIX стст. у Расіі выходзіць некалькі ўказаў, якія прадугледжваюць як перабудову вёсак (у тым ліку для барацьбы з пажарамі), так і перабудову невялічкіх гарадоў і мястэчак. Забудова пачынае прымаць рэгулярна-прамавугольны характар, які часам называюць ампірным, па назве архітэктурнага стылю, які ў той час панаваў у рускім дойлідстве. Некалькі мястэчак з ярка выражанай квартальнай планіроўкай было пабудавана і ў Беларусі. Гэта Баранавічы і Вілейка.

Што ж уяўляла сабой забудова мястэчак? Звычайна на плошчы размяшчаліся гандлёвыя рады: працяглая будыніна з галерэяй з аднаго ці з усіх чатырох бакоў. Яна складалася з гандлёвых лавак і памяшканняў для захоўвання тавараў. Калі гандлёвых радоў у мястэчку не было, то ў час кірмашу гандлявалі прама на плошчы з калёс. У цэнтры плошчы мог быць таксама калодзеж. На супрацьлеглых баках плошчы стаялі царква і касцёл. Часам да іх далучалася сінагога, а то і мячэць. Калі мястэчка мела права самакіравання (Магдэбургскае права), то на плошчы стаяў будынак з вежай,— ратуша. На плошчы маглі стаяць і іншыя ўстановы ўлады: валасная ці павятовая ўправа, гміна. Магла стаяць і школа. І ўжо абавязкова быў пастаялы двор. Калі заставалася месца, то на плошчу выходзілі крамы ці майстэрні. Ад плошчы ў розныя бакі адыходзілі вуліцы. Бліжэй да плошчы яны былі забудаваны лаўкамі і крамамі. Прычым так, што будынкі дакраналіся стрэхамі, а тратуар ішоў ледзь не па ганку.

Дом-лаўка ўяўляў сабой будову, якая складалася з жылых пакояў гаспадара, яго майстэрні і лаўкі ці крамы. Часам дамы-лаўкі былі двухпавярховымі: першы паверх часцей быў каменным, у ім былі майстэрня ці крама, а на другім, драўляным паверху,— жыллё гаспадара. Дамы-лаўкі выдзяляліся архітэктурай: часта мелі галерэю-падсень, балкончык ці мансарду, складаную вальмавую страху, разьбу на шчыце, ліштвах і аканіцах.

У дамах-лаўках жылі шаўцы, краўцы, цесляры, шапавалы, крупадзёры, ганчары, пекары, цырульнікі, аптэкары і г. д. Далей, у глыбіні двара, магла стаяць клець, пара хлеўчукоў (многія гандляры і рамеснікі трымалі коз). У мястэчку маглі быць і вытворчыя пабудовы: млыны, конныя крупадзёркі, майстэрні па вырабу цэглы-сырца, кузні.

Прыкметным збудаваннем у мястэчку была пажарная каланча. Такія каланчы захаваліся да нашага часу ў Нясвіжы, Докшыцах і іншых былых мястэчках. Далей ад цэнтра, на ўскраінах, жылі сяляне. Часцей за ўсё яны наймаліся да гандляроў, вазілі ім дровы, вадзілі абозы з таварамі. Калі такіх не было, то гандляры наймалі сялян з суседніх вёсак. Плошча мястэчка і галоўная вуліца брукаваліся. Часта на ўездзе і выездзе былі заставы: паласатая будка і шлагбаум. Купец, які прыязджаў у мястэчка, перш чым заехаць у яго, павінен быў заплаціць пошліну.

Такі характар забудовы мястэчка быў больш характэрны для заходніх абласцей Беларусі. Ва ўсходніх раёнах пераважалі мястэчкі іншага тыпу. Вось адно з іх. У Бярэзінскім раёне, у пяці кіламетрах ад левага берага Бярэзіны, знаходзіцца старое мястэчка Сяліба. Доўгая вуліца цягнецца праз лагчыну. На адным канцы яе жылі сяляне, на другім — гандляры- рамеснікі. Мястэчка было прыватнаўласніцкім і належала памешчыкам Пармяковым. Да канца мінулага стагоддзя тут жыло 750 гандляроў-рамеснікаў. Акрамя звычайных майстэрань і лавак традыцыйнага характару, тут мелася кавярня, дзве аптэкі, ветраны млын. Гандаль у час кірмашоў і свят ішоў з калёс, якія стаялі ўздоўж вуліцы. Тратуары былі вымашчаны драўлянымі брускамі. Сяляне вадзілі абозы з таварамі: з Мінска прывозілі сукно, з Бабруйска — камень, цэглу, соль, з Магілёва — прамысловыя вырабы. Частка тавараў дастаўлялася па рацэ з Барысава.

Гэта мястэчка больш сціплае па сваёй будове, што характэрна для большасці старадаўніх, асабліва прыватнаўладальніцкіх мястэчак усходняй Беларусі. У большасці яны — аднавулічныя, радзей двух,-трохвулічныя. Адсутнічае плошча. Яе замяняе альбо пашырэнне вуліцы, альбо проста тупіковае перакрыжаванне вуліц. Значна меншая

колькасць грамадскіх і культавых пабудоў. Адсутнічаюць касцёл, гандлёвыя рады. Не заўсёды быў і пастаялы двор. Госці, павячэраўшы ў карчме, ішлі начаваць да арандатараў. Дамы-лаўкі рамеснікаў і гандляроў, як правіла, былі аднапавярховымі. Агульнымі асаблівасцямі з'яўляюцца ярка выражаны драўляны характар забудовы, а таксама адсутнасць брукаваных вуліц. Каменныя будынкі сустракаліся рэдка. Больш рэзка, чым у мястэчках заходніх раёнаў, тут было выражана сацыяльнае расслаенне жыхароў. Гандляры і сяляне жывуць на розных канцах вуліц, альбо першыя — у цэнтры, другія — на ўскраіне.

У наш час былыя мястэчкі — гэта гарады, пасёлкі гарадскога тыпу альбо вёскі. Размеркаванне іх па гэтых катэгорыях было зроблена на аснове Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 27 верасня 1958 г. «Аб класіфікацыі населеных пунктаў Беларускай ССР». Сто адно пасяленне местачковага тыпу было аднесена да дзвюх першых катэгорый.

## Грамадскія пабудовы вёскі

Па меры далейшага развіцця грамадскіх адносін у вёсках пачалі з'яўляцца розныя грамадскія пабудовы. Вышэй ужо ішла гаворка пра старадаўнія капішчы, плошчы для вечавых сходаў, дамы, дзе праходзілі нарады кіраўнікоў абшчыны, і г. д. Для захавання грамадскіх запасаў збожжа вядомы з даўніх часоў свірны. Пасля прыняцця хрысціянства спачатку ў пагостах, а потым у сёлах з'яўляюцца цэрквы, а з XVI ст., пасля ўз'яднання Вялікага княства Літоўскага з Польшчай,— касцёлы. З пашырэннем гандлю, развіццём шляхоў зносін, распаўсюджваннем кірмашоў у буйных вёсках і сёлах з'яўляецца карчма. З пераўтварэннем буйных сёл у адміністрацыйна-тэрытарыяльныя цэнтры ў іх з'яўляюцца будынкі ўстаноў кіравання: валасная ўправа, гміна, будынкі земскага сходу. Феадалы не клапаціліся аб тым, каб сяляне ведалі грамату. Таму царкоўнапрыходскія і народныя школы з'яўляюцца даволі позна, у XIX ст. Да гэтага часу настаўнік проста хадзіў па хатах.

Вясковая царква па сваіх будаўнічых асаблівасцях узыходзіць да часоў рытуальных і культавых пабудоў дахрысціянскага перыяду. Па меры распаўсюджвання хрысціянства аблічча царквы паступова канізавалася, прымала ўстойлівыя традыцыйныя формы. Складалася яна звычайна з уваходнага памяшкання — прытвора, рытуальнага памяшкання — нефа, сховішча свяшчэнных атрыбутаў — апсіды і памяшканняў для свяшчэнніка і яго памочнікаў — сакрысцяў.

Канструктыўнай асновай царквы быў зруб. Па колькасці зрубаў, злучаных паміж сабой у гарызантальным напрамку (у плане), цэрквы дзяліліся на адна-, двух- і трохзрубныя. Часцей такія цэрквы сустракаліся на Палессі, многія захаваліся і да нашых дзён: царква XVII ст. у Давыд-Гарадку, царква ў вёсцы Сынкавічы (Лунінецкі раён, XVII-XVIII стст.).

Страха рабілася двухсхільнай ці чатырохсхільнай. У алтарнай частцы яна заканчвалася купалам у выглядзе рубленага чацверыка ці васьмерыка з невялікай главкай. Узыходзячы сваімі вытокамі да раннесярэднявечных цэркваў Кіеўскай Русі, купалы і главкі па сваёй канструкцыі былі цесна звязаны з іншымі вежападобнымі збудаваннямі народнага дойлідства: надваротнымі вежамі (у гарадзішчах, умацаваных пасадах).

Існавала і другая традыцыя ў архітэктуры царквы, калі на асноўны зруб нефа ставілі два-тры зрубы шасці — васьміграннай формы. Апошні заканчваўся купалам, Такія цэрквы былі больш высокімі, выцягнутымі ўверх. Царква мела свой двор, абнесены плотам з бярвення, браму са званіцай. Самыя простыя званіцы ўяўлялі сабой пару слупоў са званамі.

У Заходняй Беларусі, якая доўгі час уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, у вёсках будавалі касцёлы. Драўляныя касцёлы мелі адну ці дзве высокія вежы і выцягнуты неф з апсідай і сакрысцямі (напрыклад, у вёсцы Дуды Іўеўскага, у вёсках Кемелішкі і Клюшчаны Астравецкага, у вёсцы Руда Яварская Дзятлаўскага раёнаў). У канцы касцельнага двара ці побач з ім будавалася жыллё ксяндза — «плебань». У мінулым у вёсцы іншы раз можна было ўбачыць і мячэць. Справа ў тым, што ў асобных раёнах яшчэ з сярэднявечнай пары асядалі палонныя крымскія татары, што рабілі набегі на землі Вялікага княства Літоўскага, а таксама служылыя ў княжацкім войску. Так, у пачатку XV ст. князь Вітаўт рассяліў у княстве некалькі тысяч палонных татар, у прыватнасці ў Нясвіжы, Міры і іншых мястэчках. Асобныя мячэці захаваліся да нашага часу (у г. п. Іўе, вёсцы Доўбучкі Смаргонскага раёна).

У былыя часы на прасёлку можна было ўбачыць прыдарожную каплічку — невялікую пабудову з драўлянай фігурай Хрыста. Капліčкі сваімі вытокамі ўзыходзяць да язычаскіх часоў, калі на ўездзе ў вёску ставілі фігуру драўлянага ідала. З прыходам хрысціянства ідал быў заменены фігурай Хрыста. Будаваліся капліčкі і ў лесе каля ручая, на могілках. Часта, як культавы знак, заклікаваны абараніць чалавека ад гора, ставіўся крыж. У даўнія часы крыж ставіўся каля ўезду ў вёску,

на скрыжаванні дарог. У часы ліхалецця, вайны ці эпідэміі, крыж ставіўся ў цэнтры вёскі ці проста ў двары.

У адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні губерні ў мінулым выдзяляліся паветы і воласці. Воласць аб'ядноўвала некалькі бліжэйшых пасяленняў пэўнай часткі павета. Цэнтрамі воласці былі, як правіла, сёлы, мястэчкі. Валаснoe начальства засядала ў спецыяльным будынку — валаснoй управе ці гміне. Валасная ўправа адрознівалася ад хаты большымі памерамі, шырокім ганкам, высокай страхой, вялікімі вокнамі. Яна мела шырокі двор, на якім стаялі брычкі і павозкі, а ўнутры мела доўгі калідор з пакоямі на два бакі — кабінетамі чыноўнікаў. Будынак валаснoй управы захаваўся ў вёсцы Лань Нясвіжскага раёна. Пасля адмены прыгоннага права (1861 г.) адбыліся ваенная, судовая школьная і земская рэформы. У выніку земскай рэформы былі створаны мясцовыя саслоўна-прадстаўнічыя арганізацыі — земствы, якія павінны былі вырашаць судова-адміністрацыйныя пытанні мясцовага значэння. У земства выбіраліся прадстаўнікі ад усіх саслоўяў, якія пражывалі ў адной мясцовасці: памешчыкаў, купцоў, прадпрыемцаў (буржуазіі), сялян. Большасць дэпутатаў былі памешчыкамі, купцамі і кулакамі. Земстваў было нямнога, часта адно земства на некалькі валасцей. На чале земства стаяў земскі суддзя, які непасрэдна падпарадкоўваўся віцэ-губернатару. Дамы земстваў будаваліся ў буйных вёсках, сёлах і мястэчках. Адрозніваліся яны ад валасных упраў тым, што ў іх часта былі жылыя пакоі, а на двары маглі стаяць гаспадарчыя пабудовы.

У XIX ст. існавалі два тыпы школ: царкоўнапрыходская і так званая народная. Царкоўнапрыходская школа стаяла звычайна побач з царкоўным дваром, а то і наогул дзеці прыходзілі ў царкву. Царкоўнапрыходская школа мела адно-два класныя памяшканні, камору і кладоўку для рознага школьнага скарбу. Народная школа адрознівалася большым наборам памяшканняў, бо была разлічана на вялікую колькасць вучняў, што прыходзілі з суседніх вёсак і хутароў. Звычайна побач з класамі знаходзілася жыллё настаўніка. На двары стаяў калодзеж і хлеў з дрывотняй. Часта архітэктарам школы, якая будавалася, быў сам настаўнік.

Амаль у кожнай буйной вёсцы з XVIII ст. будаваліся будынкі для захоўвання запасаў прадуктаў «на выпадак дапамогі людзям у бядзе». Абшчынныя свірны атрымалі ў народзе назву «магазінаў». Кожны жыхар абшчыны павінен быў засыпаць у засекі «магазіна» гарнец жыта, ячменю, гароху ці іншых збожжавых. Для вызначэння меры звычайна служылі спецыяльныя рэйкі з меткамі. Асновай «магазінаў» з'яўляўся скразны праезд, па абодва бакі якога размяшчаліся засекі.

Над праездам уздоўж засекаў рабіўся памост — галерэя, на якую падаваліся мяхі са збожжам.

У XVIII ст. грамадскія збудаванні вёсак, мястэчак пачынаюць узводзіцца па тыпавых праектах. Тыпавое праектаванне распаўсюджваецца і на «магазіны». У аснову праектаў кладуцца прынцыпы пламіроўкі і архітэктуры, што існавалі ў народным дойлідстве.

Нямногія з гэтых помнікаў народнага будаўнічага мастацтва захаваліся да нашых дзён. Бадай, адным з найбольш цікавых з'яўляецца «магазін» у вёсцы Касарычы Глускага раёна, перавезены зараз у музей пад адкрытым небам, што будуецца пад Мінскам.

## Двор, сядзіба і тыпы двара

У мінулым у сялянскім двары пабудоў было больш, чым цяпер. Гэта: клець, хлеў для каня, валоў, каровы, загон для авечак, паветка для шматлікіх прылад працы, інструментаў (калёсаў, саней, сахі, бараны і г. д.), дрывотнік, сяннік, гумно, дзе ішоў абмалот і сушка збожжа, захоўвалася салома. Гэтыя пабудовы гавораць аб тым, што ў тыя часы паўсямесна панавала натуральная гаспадарка.

Пабудовы сялянскага двара разам з зямельным участкам утваралі сядзібу. У асобую групу аб'ядноўваліся жылыя пабудовы і пабудовы для захоўвання прадуктаў і іншага каштоўнага скарбу: хата, сені, істопка (варыўня), клець. Частка двара, на якім гэтыя пабудовы размяшчаліся разам з брамай і палісаднікам, называлася чыстым дваром. Пабудовы для жывёлы, птушкі, гаспадарчага інвентару (хлявы, вазоўні, паветкі), аб'ядноўваліся ў гаспадарчы двор. Абгароджаная плотам тэрыторыя дзенніка служыла загонам для жывёлы. Чысты двор і дзяннік называліся разам проста дваром. Астатняя частка сядзібы называлася гумнішчам.

Ва ўсходніх славян сфарміравалася тры асноўныя тыпы сядзібнай забудовы: а) з крытым дваром, які шчыльна прымыкае да жылля, б) з адкрытым зверху, замкнутым у плане дваром і з адкрытым зверху і незамкнутым дваром.

Першы тып распаўсюджаны ад берагоў Ледавітага акіяна да паўднёвай Украіны і ляснога Заволжа. Другі тып распаўсюдзіўся ад Беларусі праз Смаленскую і Маскоўскую вобласці да Сярэдняга Паволжа і далей на ўсход. Усе пабудовы ўтвараюць чатырохкутнік. Апошні тып распасціраецца па паўднёвай ускраіне лесастэпу і на стэпавым поўдні Усходне-Еўрапейскай раўніны.

Тып беларускага двара ў некаторым сэнсе стаіць асабняком. Праўда, ён мае прыкметы, якія родняць яго з апошнімі вышэйназ-

ванымі двума тыпамі. Своеасаблівасці беларускага двара знайшлі сваё выражэнне ў двух асноўных відах сядзібнай забудовы: вянечнай і пагоннай. У бессістэмнай вёсцы кожны двор адрозніваўся адноснай самастойнасцю. Гэта вызначыла і характар забудовы: хата, клеці і хлявы ставіліся, утвараючы замкнёны чатырохвугольнік; прамежкі паміж імі закрываліся высокім глухім бярвенчатым плотам — «замётам». Трапіць у двор можна было праз веснічкі ў браме з цяжкімі дубовымі варотамі. Гэта быў двор-крэпасць, які атрымаў у народзе назву «вяночнага двара».

Абарончы характар вянка ўзыходзіць сваімі карэннямі да часоў старажытных гарадзішчаў. Расстаўленыя чатырохвугольнікам пабудовы раздзяляліся хатай і сенцамі на дзве часткі — чысты двор і дзяннік. Першы быў з боку хатніх акон, другі знаходзіўся з боку глухой сцяны. Абодва двары мелі самастойныя ўваходы і выхады і злучаліся паміж сабой праз сені. Цікавыя па сваёй будове вянкі можна ўбачыць у вёсках Янукі і Будзічы Докшыцкага, вёсцы Акелы Пастаўскага раёнаў.

З выцясненнем бессістэмнай вёскі вулічнай, традыцыя вяночнай забудовы не знікла. Напрыклад, на Магілёўшчыне, дзе былі распаўсюджаны вяночныя двары, пры правядзенні валочнай рэформы, сталі з'яўляцца вулічныя вёскі, забудаваныя вянкамі, якія змыкаліся адзін з адным, так што трапіць у вёску можна было толькі праз браму, што стаяла на ўездзе. З развіццём новых тыпаў забудовы і скарачэннем колькасці пабудоў «вянкі» пачалі распадацца. З'явіліся пераходныя тыпы П-падобнага і Г-падобнага двароў з вялікай адноснай свабодай асобных пабудоў. У азёрным краі ўзгорыстая мясцовасць, чаргаванне ўзлескаў з палянамі, рачнымі поймамі і ціхімі берагамі азёраў садзейнічалі больш свабоднай арганізацыі забудовы паселішчаў, стваралі натуральныя ўмовы для адасаблення сядзібы, а значыць, да больш працяглага жыцця «вянкоў».

Шырока распаўсюджаным старадаўнім тыпам была радавая, ці лінейная, забудова, якая ў народзе атрымала назву «пагоннага двара». Такі двор уяўляў сабой рад жылых і гаспадарчых пабудоў, злучаных адна з другой у рад пад агульным дахам. Хата, сені, камора (варыўня), клець, паветка, сяннік (дрывотнік), вазоўня, хлеў цягнуліся ўздоўж вузкай палоскі сядзібы. Пагонная забудова як нельга лепш адпавядала падворнай форме земляробства, якая ўступіла ў сілу пасля рэформы 1557 г. Драбленне ўчасткаў (валок), іх звужэнне таксама прымушала селяніна будаваць ў даўжыню і садзейнічала распаўсюджванню пагонаў.

Пагонная забудова была эканамічнай, бо пагон уяўляў сабой адзінае збудаванне, падзеленае папярочнымі сценамі на шэраг памяшканняў. Скарачалася, напрыклад, у параўнанні з вяночным дваром, колькасць сцен. А калі ўлічыць, што будаўнічы лес селяніну трэба было купляць у феадала, такая эканомія мела вялікае значэнне. Вобласць распаўсюджвання пагоннай забудовы ахоплівае ўсю паўднёвую і паўднёва-заходнюю частку Беларусі. Традыцыі радавалі забудовы добра захаваліся да нашых дзён.

У першыя гады валочнай рэформы было шмат вёсак, у якіх жылыя пабудовы стаялі з аднаго боку вуліцы, а гаспадарчыя — з другога. Гэта традыцыя захавалася ў забудове вёскі Нізок Уздзенскага раёна. Старыя сядзібы гэтай вёскі маюць рады жылых і гаспадарчых пабудоў, пастаўленых з розных бакоў вуліцы. Калі сялянская сядзіба была аднабаковай, то сыны будавалі свае пагоны следам за бацькоўскім у глыбіню двара.

Доўгія, у 50-70 сажняў, двары мелі свае недахопы. Многія гаспадарчыя пабудовы былі далёка ад жылля, што было нязручна, да таго ж забудоўвалася значная частка зямельнага надзелу. Таму пагон мог расці ў даўжыню да пэўных памераў. Ставіць новыя збудаванні далёка на сядзібе было немэтазгодна, і гаспадар пачынаў будаваць другі рад. У вёсцы Радунь Карэліцкага раёна захаваўся двор, па забудове якога можна бачыць, як гэта адбывалася. Першы рад даўжынёй каля 50 м вычарпаў свае магчымасці для далейшага развіцця. Таму новыя пабудовы пастаўлены невялікім другім радам — атрымаўся двухрадны пагон.

Шырокае распаўсюджванне двухраднай забудовы ў Панямонні дае падставы меркаваць, што яе з'яўленне не сведчыць аб якасным развіцці аднараднага двара, а мае больш сур'ёзныя гістарычныя заканамернасці. Двухрадны пагон уяўляе сабой своеасаблівы прамежкавы тып паміж аднараднай і вяночнай забудовай. Гэта быццам раскрыты «вянок», ступень развіцця П-падобнага двара. Дастаткова адзначыць, што Е. Р. Раманаў у сваіх «Матэрыялах» прыводзіць прыклады двухрадных пагонаў, злучаных паміж сабой у канцы скразной павеццю. Двухрадны двор больш кампактны, больш абаронены, больш рацыянальна займае тэрыторыю сядзібы. У пачатку абодвух радоў стаяць жылыя і блізкія да іх пабудовы — хата з сенямі і клець. Клець часта стаяла адасоблена, была буйнейшая памерамі, мацнейшая за іншыя пабудовы. Абмежаваны двума паралельнымі радамі пабудоў, чысты двор брукаваўся, каля ўезду будавалася брама, што лішні раз нагадвае аб сувязі з традыцыямі вяночнай забудовы. Шмат

двухрадных двароў у Іўеўскім, Навагрудскім, Дзятлаўскім, Карэліцкім і іншых раёнах.

Развіццё двухраднага пагона як якаснае пераўтварэнне аднараднага двара і вынік распаду вянечнага, разам з існаваннем П- і Г-падобных тыпаў гаворыць аб тым, што эвалюцыя лінейнага двара і вянка мае сустрэчны характар. Двухрадны двор узнік недзе на сярэдзіне шляху гэтай эвалюцыі. Пачатак яе ўзыходзіць да агульнага тыпу,— адкрытага двара, з якога вылучыліся разнавіднасці — замкнуты і незамкнуты. Першы даў жыццё вянку, другі — пагону. Нездарма паміж імі шмат агульнага, асабліва ў будове. Абодва складаюцца з аднолькавых спалучэнняў памяшканняў (звенняў), якія злучаюцца ў розныя прасторавыя структуры (замкнутую, вяночную і незамкнутую, пагонную).

Пашырэнне функцыі сялянскай гаспадаркі, асабліва ва ўмовах капіталізму, развіццё шматвулічных вёсак са шчыльнай забудовай, барацьба з пажарамі патрабавалі ад дваровай забудовы большай свабоды, рухомасці, зручнасці і эканамічнасці. Абарончыя рысы вянкоў даўно страцілі сэнс, ды і недахопы пагонаў пачалі адчувацца мацней. У XIX — пачатку XX ст. пачынае распаўсюджвацца новы тып двара. Гэта было завяршэнне эвалюцыі пагонаў і вянкоў.

## «Ужо хата новая гатова!..»

Яшчэ задоўга да часоў Кіеўскай Русі на Усходне- Еўрапейскай раўніне склаліся два асноўныя тыпы жылля: паўзямлянка ў стэпавай і лесастэпавай паласе і наземнае зрубнае жыллё ў лясной паласе. Аднак з цягам часу старажытнае наземнае жыллё перастала адпавядаць жыццёвым патрэбам. Зімой нізкую хату заносіла снегам, увесну залівала талай вадой. Прыходзілася паднімаць жыллё вышэй над халоднай вільготнай зямлёй. Хатні зруб-клець ставіўся на другі зруб — падклець, у якой можна было трымаць хатнюю жывёлу і птушак. Так у лясной паласе з'явілася хата з драўлянай падлогай, якую будавалі над нежылым паверхам, што выкарыстоўваўся як хлеў, камора, пограб і г. д. У лесастэпавых і стэпавых раёнах атрымала распаўсюджванне наземнае жыллё — хата з сенямі, якія мелі глінабітную падлогу. Граніца паміж гэтымі асноўнымі тыпамі праходзіць недзе праз сярэднюю паласу Расіі. Чым далей на поўнач, тым вышэй над зямлёй паднімаецца падлога. Хаты на поўначы Расіі, як правіла, двух- і нават трохпавярховыя. Беларусь і Украіна цалкам адносяцца да зоны распаўсюджвання наземнай хаты. Выключэнне складаюць балоцістыя раёны Беларусі, дзе з даўніх часоў у хатах не толькі рабілі

падлогу, але і паднімалі гэтыя хаты над зямлёй на сваях. Часта ў такіх вёсках вуліцы рабіліся ў выглядзе масткоў на сваях, якія называліся лавамі. І зараз у многіх вёсках паўднёва- заходняй Беларусі вуліцы носяць гэту назву.

Першапачаткова хата ўяўляла сабой прымітыўны зруб — чатыры сцяны, накрытыя страхой. Нават коміна не было, хаты былі курныя. Дым выходзіў праз дзверы ці адтуліну ў сцяне ў сені. Курныя хаты захоўваліся вельмі доўга, толькі ў XIX ст. пачалі шырока распаўсюджвацца чыстыя хаты, з печчу і дымаходам.

З клопатам і ўвагай ставіўся селянін да пабудовы хаты. Лес для яе рубіўся з палавіны снежня да палавіны студзеня, калі дрэвы былі мёрзлымі і смалістымі. Месца падбіралася роўнае, каб пад падлогу не бегла вада. На выбраную пляцоўку з тоўстых дубовых бяр- венняў клаўся вянец-падруб. Пад вугал клалі манету, каб у хаце вадзіліся грошы, быў дастатак. На балоцістых землях Палесся замест падрубу ў зямлю ўкопвалі кароткія слупы ці сваі — штандары. На Паазер'і і Панямонні часта рабілі фундамент з каменняў. Затым пачыналі рубіць зруб. На Палессі яго рубілі з расколатых папалам бярвенняў — дыляў. Гэта было магчыма таму, што клімат тут быў крыху цяплейшы і не было неабходнасці ў сценах значнай таўшчыні. Адначасова атрымлівалася эканомія драўніны. Пры параўнальна невялікай таўшчыні дылі маглі быць вельмі шырокімі, такімі, што з шасці-сямі часам атрымоўвалася ўся сцяна, у той час як звычайна для гэтага патрэбна было 13-15 бярвенняў.

На Панямонні зруб клалі з чэсаных брусоў. У астатніх рэгіёнах хаты рубілі з кругляка, іншы раз сцены абчэсвалі з сярэдзіны. Рэгіянальныя адрозненні мела і канструкцыя вугла. Найбольш просты вугал бытуе ў Цэнтральнай Беларусі, Паазер'і і Падняпроўі. Самая складаная канструкцыя заходнепалескага вугла з патайным шыпам. Калі рубіліся сцены, то рабіўся паз ці «драчка», якая забяспечвала шчыльнае злучэнне бярвенняў, засцерагала ад пападання ў пазы вады.

У ходзе кладкі зрубу выразаліся праёмы для акон. У курнай хаце вокны былі нізка над зямлёй, вышынёю не болей дыяметра бервяна. Такія вокны не мелі шыб і закрываліся засаўкай, завалакваліся (валакавыя). У чыстай хаце часцей за ўсё рабілася тры вакны: адно ў вулічнай і два ў дваровай сценах. Мінімальная колькасць вокнаў і іх малыя памеры абумоўліваліся жаданнем не дапусціць лішніх цеплавых страт. Пазней на вулічным фасадзе пачалі рабіць два вакны. Рэдка рабілася акно ў сцяне, што прымыкала да печы. Селянін не павінен быў бачыць, што робіцца ў двары суседа. Гэта няпісанае пра-

віла пераўтварылася ў традыцыю. Зрабіць такое акно можна было толькі са згоды абшчыны і мясцовага пана. Пасля ўзвядзення зруба пачыналі рабіць столь. У курнай хаце столі не было, паколькі патрэбна была дадатковая прастора, каб дым паднімаўся вышэй над падлогай. Страха рабілася скляпеністай, з бярвенняў; аднак з цягам часу яна робіцца больш плоскай. Сярэдняя пра- дольная бэлька называлася «трамам» і выходзіла на вулічны фасад. Іншы раз выпускалі на фасад усе тры бэлькі. Прадольныя бэлькі дазвалялі накрываць столь кароткімі дошкамі. Калі наладзілася прамысловая вытворчасць дошак, бэлькі пачалі класці ўпоперак. Столь уцяплялася мохам і пяском.

Адна з самых старажытных канструкцый страхі — канструкцыя «на сохах». У разгалінаванне сох клалася доўгае бервяно — прагон, на які чапляліся жэрдкі,— ключы. Да ключоў прывязваліся вымачанымі бярозавымі пруткамі латы, да якіх у сваю чаргу мацавалася салома.

У часы свайных пабудоў страха «на сохах» лёгка давала магчымасць пазбавіць нетрывалыя сцены паловы нагрузкі. З распаўсюджваннем рубленых сцен, здольных несці цалкам вагу страхі, з'яўляюцца зусім новыя канструкцыі. Пазней з'явілася беспра- гонння кроквенная сістэма. Асновай яе была пара кроквaў, урубленых у верхні вянец і злучаных заццяжкай. Часам ніжнія канцы кроквaў мелі сук, якім і ўпіраліся ў верхняе бервяно сцяны. Бытавала і яшчэ адна старажытная канструкцыя страхі. Яна ўзыходзіла да скляпеністых перакрыццяў курных хат. Скляпеністае перакрыццё выконвалася ў канструктыўным адзінстве са сценамі і шчытамі (франтонамі), якія таксама рабіліся з бярвенняў і злучаліся праз замок з бярвеннямі перакрыцця, утвараючымі суцэльны шчыльны звод. Са знікненнем курнай хаты знікла неабходнасць рабіць складаную і груваcткую страху. Бярвенні скляпення пачалі ўкладваць радзей. Іх называлі «свалокамі». Звычайна іх было пяць — адна на грэбні і па дзве на схілах. Па «свалоках» укладваліся жэрдкі з коранем, загнутым унізе,— какошыны. Па іх уздоўж страхі ішлі дошкі, на якія накладваўся слой бяросты, а па ёй, у напрамку схілаў, драніца ці цёс. Слой гэты абапіраўся на доўгую дошку, укладзеную на крукі какошын. Каб вада не працякала цераз грэбень, цёс аднаго са схілаў выпускаўся на паўметра, ці клалася так званае ахлуп- ное бервяно. Хаты з такімі стрэхамі шырока бытавалі ў басейне Бярэзіны, Друці, Пцічы. Адна з іх, пабудаваная ў 1887 г. у вёсцы Майсеевічы Асіповіцкага раёна, захавалася да нашых дзён.

Заканчвалася будаўніцтва пакрыццём страхі. Найбольш распаўсюджаным было саламянае пакрыццё. Снапкамі салома прывязвалася да лат, прыціскалася жэрдкамі. На грабяні рабіліся рожкі-козлікі, тарцы схілаў закрываліся дошкамі-закрылінамі. Добра «спрацаваная»

саламяная страха магла прастаяць паўстагоддзя. Круцізна страхі рабілася з улікам не толькі хуткага адводу вады, але і некаторай яе затрымкі. Захаванне пэўнай вільготнасці павялічвала тэрмін службы саломы, бо перасушаная хутчэй зношвалася. Важную ролю ў архітэктуры хаты адыгрывала форма страхі. Найбольш старажытнымі былі чатырохсхільныя стрэхі, якія адпавядалі амаль квадратным у плане аднazрубным (аднакамерным) хатам. З прыбудовай да хаты сяней (двухкамерная хата) план яе выцягнуўся і чатырохсхільная страха стала не зусім зручнай. Змяненні ў чатырохсхільнай страсе адбываліся паступова. Спачатку ўразалася верхняя частка схілу над вулічным фасадам. Астатняя частка называлася «прычолкам» і абараняла сцяну ад касога дажджу. Пазней знік і прычолак, саступіўшы месца шчыту-франтону, унізе якога ішоў невялікі грэбень-застрэшак. Іншы раз уразалася ніжняя частка схілу. У такім разе ўнізе атрымліваўся шчыт, а верхняя частка схілу называлася «залобка». Стрэхі з залобкамі і прычолкамі мелі выразную форму, надавалі аблічччу хаты прывабліваcць, разнастайнасць. Аднак з павелічэннем памераў хаты і паддашша эканамічнай і зручней было будаваць двухсхільную страху, якая і пачала хутка распаўсюджвацца.

У хаце рабілася падлога з гліны ці з дошак, прыбітых да падвалін. Вокны ўстаўляліся на чатыры — шэсць невялікіх шыбак. Вешаліся дзверы, каля парога клалася некалькі вялікіх камянёў ці стары жорнаў. Звонку іншы раз хату бялілі. Багатыя сяляне рабілі шалёўку.

Ужо хата новая гатова,
Прыбраны трэскі ўжо і дровы;
Над белым дахам, як карона,
Красуе комінак чырвоны;
Прыветна вокны пазіраюць,
Бы вас у госці запрашаюць.

Так з цеплынёй і захапленнем піша аб сялянскай хаце Якуб Колас у «Новай зямлі».

### У сялянскай хаце мінулага

Сцены і скляпенне курнай хаты — закапцелыя. Нізка над глінабітнай падлогай адно-два валаковыя акенцы. Над дзвярыма — шчыліна для дыму, закрытая мяшком з саломай. У вуглу — печ з каменняў і адтулінай у чаране для выхаду дыму. Уздоўж сцяны — пол з дошак, месца адпачынку. Вышэй на сценах жэрдкі з сухімі дровамі. Колькі вякоў жылі сяляне ў такіх хатах! Не вельмі ўтульна сядзець тут на падлозе ў час топкі печы, каб не надыхацца дымам, які адводзіўся ў

сені праз падвешаную над чараном плеценую і абмазаную глінай выцяжку.

Печ пачыналі будаваць з укопвання ў зямлю штандараў. На іх клалі два-тры вянцы і атрымоўваўся падруб-аснова печы. Падруб насцілалі гарбылямі. Іншы раз на месцы хатняга вугла печы ўкопваўся так званы пячны слуп. У яго на паўметровай вышыні ўрубаліся бярвенні-падрубы, якія супрацьлеглымі канцамі замацоўваліся ў сцены.

На гарбылі клалі каменні і абмазвалі іх глінай. Гэта быў «под» печы. Пад падрубай печы зімою трымалі курэй. На сярэдзіне поду наладжвалі трывалую апалубку, у якую потым набівалі гліну, паступова ствараючы суцэльны гліняны масіў. Верх гэтага масіва ўтвараў чарон. Калі гліна высыхала, апалубку здымалі і выразалі вусце печы. Перад вусцем звычайна была частка падрубы, якую называлі прыпечкам. Гэта — зручнае месца для посуду. Замураваная паляніца дроў спальвалася і... глінабітная печ гатова. Над прыпечкам узводзіўся комін. Вопытны пячнік рабіў яго са шматлікімі хадамі-люфтамі, каб лепш выкарыстаць цяпло дыму. Часта паміж печчу і сцяной пакідалася прастора — схрон, якая закрывалася засланкай.

У бакавую сцяну печы ўмуроўвалі два-тры гарш- кі. Тут сушылі розныя невялікія рэчы, насенне і г. д. На выступаючыя бярвенні падрубы клалася дошка, утвараючы палок. У верхняй частцы над печчу знаходзілася доўгая жэрдка — біла (ашостак). Пад прыпечкам складваліся дровы: побач, у куце, стаялі вілы, чапяла, качарга. Насупраць услончык для Бёдраў ці замацаваны да бэлькі крук, на які вешалі вядро. На сцяне вісела палічка з посудам, ручнікамі-ўціральнікамі. А над дзвярамі ва ўсю шырыню сцяны ішлі паліцы з глякамі, збанкамі, міскамі. Такім чынам, печ арганізоўвала частку прасторы хаты — кухонную зону. Месца і памеры гэтай зоны вызначаліся арыентацыяй вусця. Разварот вусця да ўваходу характэрны для Беларусі, Літвы, Украіны, захаду Расіі. У паўночных раёнах Расіі, а таксама Паволжы, вядома арыентацыя вусця і ўглыб хаты.

Па дыяганалі ад печы знаходзіўся чырвоны кут, ганаровае месца ў хаце. Тут стаяў стол, накрыты настольнікам, на ім — салонка. Па баках уздоўж сцен — лавы, шырокія, колатыя плахі на калодах ці суках, замацаваных у сцяне. Лавы часта былі месцам працы, таму ў іх рабілі адтуліны і зажымы для пралаз часальных грэбняў, вінтоў, ціскоў для сталярных і іншых работ. У куце — упрыгожаныя ручнікамі абразы. Чырвоны кут — месца збору сям'і. Чынна за стол садзіўся бацька, побач члены сям'і, госці. На драўляную міску клаўся бохан, накрыты ручніком, маці ставіла гаршчок наварыстага баршчу... Тут

святкаваліся святы, ішлі сямейныя нарады. На покуце клалі і нябожчыка. Чырвоны кут быў своеасаблівым хатнім алтаром.

Уздоўж глухой сцяны, ад печы, ішоў пол — насціл з дошак, месца адпачынку сям'і. Гэта частка хаты функцыянальна выдзялялася яшчэ і білам, на якое вешаўся полаг. Хата тады быццам дзялілася на два пакоі. Над полам часта рабіліся яшчэ і палаці, насціл, які адным канцом абапіраўся на печ, а другі падвязваўся да бэлькі. У куце адпачынку мацавалася на гнуткім пруце да бэлькі дзіцячая люлька-калыска.

Паміж полам і чырвоным кутом было рабочае месца хаты. Тут устанаўлівалі сноўніцу, кросны; шавец тут ставіў свой услон з ціскамі для шыцця хамутоў і г. д.

Важным элементам у абстаноўцы хаты была крыніца святла — лучнік (светач). У адных месцах гэта была драўляная калода, у якую замацоўвалася стойка, у расшчэпленым канцы якой трымалася лучына. Увечары лучнік ставілі пасярэдзіне хаты, на дзень адсоўвалі да печы. Абгарэлае вугалле лучыны падала ў начоўкі з вадой. У Заходнім Палессі і Панямонні лучыну палілі на палічцы, зробленай у месцы дотыку печы да сцяны сеняў. Палічка і частка сцяны абмазваліся глінай, каб прадухіліць няшчасны выпадак,— пажар. Крыніцай святла былі кавалачкі кары, трэскі. На Палессі былі вядомы і пераносныя лучнікі, замацаваныя на крыжавіне. Лучнікам мог быць і проста плоскі камень, на якім спальвалі лучыну. Дым выходзіў праз адтуліну ў столі, над якой на гарышчы ўстанаўліваўся дымаход, ствол дрэва з выдаленым асяродкам. Бытавалі і падвясныя лучнікі з дымаходам, зробленым з лазы ці лубу, абмазаных глінай. Вядомы былі і палатняныя гнуткія дымаходы, якія на дзень скручваліся і хаваліся пад бэльку.

Вядомы выпадкі выкарыстання для спальвання лучыны вугла печы з адводам дыму праз спецыяль- чы дымаход, сумешчаны з комінам.

У старыну амаль у кожнай хаце ткалі, таму так часта даводзілася бачыць кросны. Вырабы ганчара стаялі ў хаце на шырокіх паліцах уздоўж сцен. Глякі і жбаны чапляліся за вушка да драўляных цвікоў, забітых у бэлькі. Хата майстра-рэзчыка была адметнай і звонку, і з сярэдзіны: дзвярныя вушакі, бэлькі, лавы скрозь упрыгожваліся разьбой. У майстра плесці сені былі застаўлены кашамі, плятухамі, карабамі. Над печчу віселі маткі лыка.

Жыллёва-бытавыя функцыі хаты дапаўнялі сені. Найбольш простыя з іх сустракаліся на Палессі. Гэта — невялікае плеценае памяшканне. У іншых месцах бытавалі каркасна-дашчатыя, невялікія па

памерах, з аднасхільнай цёсавай страхой. Роля сяней значна ўзрастае, калі яны становяцца зрубным памяшканнем, злучаным з хатай праз шулы: сені-тры- сценак. Такія сені на Палессі называліся ляцёнам — летнім жыллём, кухняй.

У хаце рамесніка сені — гэта майстэрня, дзе стаяць сталярныя, бандарныя прылады. Інтэр'ер сяней дапаўняўся бочкамі, даўбёнкамі, куфрамі са збожжам і прадуктамі, іншымі рэчамі. На сценах шматлікія паліцы з посудам, у вуглах збруя, інструменты. Часта ў сенях была рубленая камора, а то і клець. Некаторыя вучоныя лічаць, што ў мінулым, калі сяней не было, хата і клець стаялі насупраць. Потым з'явіліся сені і злучылі іх у адну пабудову.

У міжрэччы Бярэзіны і Дняпра, а таксама ў сярэднім цячэнні Пцічы шырока распаўсюджаны хаты на дзве палавіны. Тут атрымліваецца схема: хата — сені — хата. Кожная хата мела сваю печ, сені выконвалі ролю звязваючага памяшкання. Такі функцыяналь- напланіровачны тып атрымаў развіццё там, дзе сені па сваёй архітэктуры і абсталяванню былі блізкія да хаты.

Унутранае абсталяванне сялянскага жылля ў розных рэгіёнах Беларусі мае свае асаблівасці. Невялікім па памерах хаткам Палесся ўласцівы глінабітная печ, што займае $^1/_6$-$^1/_4$ плошчы жылля, нізкая столь на «траме», токавая падлога. Асаблівасцю з'яўляюцца абмазаныя і пабеленыя сцены, што ствараюць колеравы кантраст з цёмнай прадымленай столлю і падлогай. Прыземістыя маленькія акенцы, плеценыя сені...

На Падняпроўі з канца XIX ст. пачынаюць распаўсюджвацца хаты з высокай столлю, дашчатай падлогай, абгабляванымі знутры сценамі, якія мыліся. Распаўсюджваецца печ з цэглы, вялікага памеру вокны. Хутка хату будуюць на дзве палавіны.

У Паазер'і хата ў выніку традыцый забудовы знаходзіцца ў цесным адзінстве з гаспадарчымі пабудовамі. Узрастае роля сяней: яны — і цёплае зімовае жыллё і летні праход для жывёлы.

Своеасаблівае развіццё назіраецца ў жыллі Панямоння. Ужо ў Баранавіцкім і Ляхавіцкім раёнах звяртае на сябе ўвагу складаная планіроўка хаты. Перагародкай аддзяляецца кухонная зона. Нярэдка і яна дзеліцца на пакой каля печы — кухню і пакой за печчу — сталовую. У астатняй частцы хаты, у агульным пакоі, ставілася грубка і дадатковая перагародка, што выдзяляла спальню. Выдзяляюцца не толькі асобныя пакоі ў хаце, але і з'яўляюцца новыя прадметы абсталявання: ложкі замест пола, канапы замест лаў, крэслы местачковага ўзору.

## Цудоўныя карункі

Закрыліны, узорчатыя франтоны, спляценні арнаменту аконных ліштваў, упрыгожаныя веснічкі і вароты нікога не могуць пакінуць абыякавым. У гэтых узорах ёсць нешта ад казак і паданняў, песень і легенд старых гусляроў. У іх адлюстравана прыгажосць роднага краю, яго лугоў і палёў, лясоў і азёраў.

Прыгажосць прыроды, наваколля пачала атрымліваць адлюстраванне ў свядомасці чалавека вельмі даўно. Чалавек навучыўся працаваць, ствараць усё неабходнае для жыцця. Стварэнне ішло ў пастаянным пошуку, у жаданні спасцігнуць таямніцы акружаючага, якое было невычарпальнай крыніцай для творчасці, для зараджэння ў свядомасці вобразаў. Многія з'явы прыроды атрымлівалі ў свядомасці чалавека фантастычнае адлюстраванне, і гэта неадкладна праяўлялася ў мастацкай творчасці. Усім добра вядомы такі элемент страхі, як канёк. Але нямногія, напэўна, ведаюць, адкуль пайшла назва гэтага элемента. Справа ў тым, што ў дагістарычныя часы існавала павер'е, быццам для таго, каб адагнаць ад жылля злых духаў, дастаткова павесіць на франтон хаты чэрап вала ці каня. Ішоў час, традыцыя некалькі трансфармавалася. Рогі і профілі жывёл пачалі сімвалічна выразаць на закрылках, назва ж «канёк» захавалася разам з традыцыяй.

Раслінны і зааморфны, з правобразамі жывёл і птушак, арнаменты атрымалі ў народным дэкоры вельмі шырокае распаўсюджанне. І гэта не дзіўна, што ўяўленні аб прыгажосці ў старажытнага рэзчыка былі звязаны з кветкамі, пялёсткамі і галінамі, з галубамі і куніцамі. У мінулым шырока бытавалі традыцыі ўпрыгожваць двары і брамы галінамі, кветкамі.

З цягам часу ў развіцці дэкору пачаў развівацца працэс стылізацыі, сімволікі, а таксама працэс пераходу да стварэння абстрактных вобразаў. Пачынае нараджацца геаметрычны від арнаменту: кругі, квадраты, ромбы, спалучэнні ліній і плоскасцей.

Дэкор жылля непасрэдна звязаны з яго канструкцыяй. Ён робіць больш высакародным канкрэтныя канструктыўныя элементы, падкрэсліваючы іх характар у пабудове. Калі гэта нясучыя канструкцыі, напрыклад кроквы ці кансолі, стойкі ці апоры, то пры дапамозе разьбы больш рэзка выяўляецца, больш дакладна падкрэсліваецца пругкасць, напружанасць іх работы. Калі ж гэта агараджальныя элементы, напрыклад франтон, сцены, то яны ўпрыгожваюцца накладнымі дэкаратыўнымі элементамі; сцены шалююцца. Многія элементы

ў архітэктуры хаты страцілі сваю канкрэтную функцыянальную ролю і нясуць чыста дэкаратыўную функцыю. Напрыклад, аканіцы вокнаў.

Выразным элементам фасаду любой хаты з'яўляюцца закрыліны. Верхняя іх частка — месца перасячэння -— называецца вільчыкам і часцей за ўсё мае форму, якая нагадвае профілі птушак ці рогі. Верхняя кромка часта выконвалася ў выглядзе хвалістай лініі. Узор аздаблення шчыта (франтона) ствараўся размяшчэннем дошак ці то ў елачку, ці то ў выглядзе ромбаў або квадратаў, ці то накшталт сонечных промняў, сіметрычна размешчанымі разеткамі. Важную дэкаратыўную ролю адыгрывала паддахавае акно. Часцей за ўсё яно выконвалася ў выглядзе круглай адтуліны, у форме ромбіка ці крыжыка. Ніжняя частка франтона пераходзіла ў казырок — застрэшак, які ўпрыгожваўся тонкай разьбой па ўсёй даўжыні.

Вокны, як правіла, багата ўпрыгожваліся. Элементы акна — надаконнік, падаконнік, аканіцы маюць пэўнае функцыянальнае прызначэнне. Напрыклад, надаконная дошка прыкрывае асадачную шчыліну. Са з'яўленнем шыб і аконнай рамы з'явіліся ліштвы. Іх арнамент, як правіла,— сціплы; часта гэта быў толькі тонкі ланцужок зубчыкаў на надаконнай дошцы. Аканіц не было ці рабілася адна, што надавала акну асіметрычную кампазіцыю.

Развіццё дэкору пачалося з ростам памераў акна. Найбольш прыгожы элемент — надаконная дошка; яна дэкарыравалася больш за іншыя элементы профільнай праразной разьбой ці іх спалучэннем. Форма надаконнай дошкі сустракаецца самая разнастайная: у выглядзе прамавугольніка, трохвугольніка, сегмента і г. д. У сярэдняй частцы дошкі размяшчаецца элемент, які з'яўляецца цэнтрам усёй дэкаратыўнай кампазіцыі. Звычайна гэта стылізаваная кветка. Да яе сыходзяцца ўсе мудрагелістыя спляценні фігур і ліній. Але ў многіх выпадках такі кампазіцыйны цэнтр адсутнічае, ён прысутнічае там, дзе найбольш напружаны лініі ўзораў, дзе больш шчыльны і складаны сам узор, ці дзе проста праходзіць вось сіметрыі. Аканіцы таксама з'яўляюцца важным дэкаратыўным элементам. Запаўняючы прасценкі паміж вокнамі, яны ўтвараюць суцэльны дэкаратыўны пояс.

Важную дэкаратыўную ролю адыгрывае шалёўка. Захоўваючы зруб ад атмасферных уздзеянняў, яна з'яўляецца і прадметам шырокай мастацкай апрацоўкі; часта выконваецца ў выглядзе паясоў, якія акружаюць зруб. Верхні пояс складаецца з кароткіх вертыкальных дошак, завершаных у ніжняй частцы арнаментам. Сярэдні гарызантальна зашываецца дошкамі, ці яны размяшчаюцца ў выглядзе ромбаў або квадратаў. Ніжні пояс выконваецца з вертыкальных дошак вышынёй на адну трэць зруба і прыкрытых зверху

нешырокім карнізам. Гэта забяспечвае хуткі адвод вады, што сцякае ўздоўж валокнаў драўніны.

Важным мастацкім элементам былі акаваныя дзверы, шалёваныя ў елачку і ў іншыя геаметрычныя ўзоры.

Традыцыі разнога дэкору з'яўляюцца пацвярджэннем высокай мастацкай вынаходлівасці і майстэрства селяніна-працаўніка, яго разумення прыгажосці.

## Клець

Кожны, хто жыве ў вёсцы, напэўна бачыў мноства самых разнастайных клецей, свірнаў. Зруб клеці крыху падняты над зямлёй на штандарах ці расстаўленых па вуглах каменнях. Страха двухсхільная ці чатырохсхільная. Падоўжныя бярвенні ніжняга вянца выступаюць на метр, на іх кладзецца парог з дошак, над якім навесам спускаецца страха, прыклетак ці галерэя. Страху падтрымліваюць дзве-чатыры стойкі. Часам над прыклетнікам, калі клець была двух'ярусная, рабіўся балкончык. Дзверы — з тоўстых дубовых дошак. У ніжняй іх частцы невялікая адтуліна, каб унутр магла прайсці кошка. Унутры клець мела падлогу з дошак, прычым дошкі падганяліся так шчыльна, што праз іх не магло праваліцца дробнае зерне. Акрамя таго, месцы магчымых пазней шчылін прамазваліся глінай, змешанай з пяском.

Перакрыццё клеці, як правіла, рабілася закотам; па верху — саламяная ці дашчатая страха. У двух'яруснай клеці пад'ём наверх ажыццяўляўся па лесвіцах-драбінах.

Унутраная прастора клеці падзялялася на засекі. У іх захоўвалася збожжа. Клеці Віцебшчыны выдзяляюцца вальмавымі стрэхамі. На Вілейшчыне і Мядзельшчыне клеці звычайна як адна-, так і двух'ярусныя, з перакрыццем закотам, у Нясвіжскім і Клецкім раёнах сустракаюцца з чатырохсхільнымі стрэхамі. Клеці Палесся — прысадзістыя, больш выразных прапорцый. У Панямонні — двух'ярусныя, часам з вялікімі прыметнікамі на стойках.

Гісторыя з'яўлення і развіцця клеці ідзе сваімі вытокамі ў глыбокую старажытнасць. Гэта вельмі простая пабудова ставілася, магчыма, з адным толькі ачагом, які саграваў сям'ю, што жыла ў ім. З часам з'явілася збудаванне, якое ацяплялася з дапамогай печы і называлася істопкаю. Відавочна, клець была некалі прамежкавай формай жылля, паміж хацінай- зямлянкай і хатай. Магчыма з першай і сфарміравалася клець, асабліва пры пераходзе ад слупавай канструкцыі да зрубнай (клетка, клець).

Цяжка сказаць, калі і як хата, як новая форма жылля, пачала выцясняць клець. У адных выпадках клець прыстасоўвалі для гаспадарчых патрэб ці пакідалі для патрэб летняга часу, у іншых — новае жыллё прыбудоўвалі да старога. Хата прыбудоўвалася да клеці, пры гэтым, як ужо гаварылася, сені служылі звязваючым звяном. Прыклады захаваліся да нашага часу. У вёсцы Ісерна Слуцкага раёна адна з хат мае ў сенях двух'ярусную клець са скляпеністай столлю. У вёсцы Цвіклічы Гродзенскага раёна пагон мае клець з пограбам, прыбудаваную да вулічнага фасада.

З развіццём хаты роля клеці ў народным быце істотна змянілася. У дварах багатых сялян будавалася некалькі клецей. У іх жылі да замужжа дочкі гаспадара, захоўвалася маёмасць. Калі ў яго было некалькі жанатых сыноў, то кожны з іх будаваў сваю клець. З клеццю цесным чынам звязана народная вясельная абраднасць. Тут захоўваўся пасаг нявесты; аж да замаразкаў жылі маладыя. Вобраз гэтай пабудовы цесна ўплецены ў паэтычную тканіну многіх народных абрадавых песень. У творах фальклору клець апяваецца як скарбніца, як сімвал дабрабыту сям'і. Гэта пацвярджае і прыклад, які прыводзіць Е. Раманаў у кнізе «Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні». Ён піша, што ў дварах беднякоў іконы вешаліся не ў хаце, а ў клеці.

Цікавым пацвярджэннем таго, што клець з'яўлялася летнім жыллём, служыць існаваўшы ў мінулым звычай на благавешчанне спальваць зімовыя матрацы і перабірацца ў клець (25 сакавіка па старому стылю).

Складаная функцыянальная эвалюцыя клеці несумненна зрабіла ўплыў на яе архітэктуру. Завершанасць прапорцый, багацце і разнастайнасць форм, пры вялікай рацыянальнасці кожнага элемента, мінімум дэкору надаюць ёй выключную мастацкую выразнасць.

## Пагрaбы, істопкі, лазні

Нароўні з клеццю, з жыллём суседнічае і шэраг іншых збудаванняў.

Прасцейшыя з іх для захоўвання караняплодаў — бульбяныя ямы. Будаваліся яны на схілах узгоркаў, на ўскрайках лесу, дзе грунты былі пясчанымі і ўзровень грунтавых вод нізкім. Яма накрывалася невысокай страхой накшталт шатра. Адзін гаспадар мог мець да дзесяці такіх сховішчаў.

Вялікую групу прадстаўляюць паграбы, якія будуюцца ў падполлі хаты, у сенях; прыбудоўваюцца да хаты. Выкарыстанне ў якасці сховішча для бульбы хатняга падполля вядома не толькі беларусам,

але і іншым славянскім народам, у прыватнасці рускім. Падпольныя паграбы шырока распаўсюджаны ва ўсходніх раёнах Беларусі.

Паграбы ў сенях будаваліся ва ўсіх раёнах Беларусі, асабліва ў заходніх. Сцены іх выкладваліся каменнем ці бярвеннямі. Калі хата і сені былі на высокім каменным фундаменце, трапіць у пограб можна было праз зроблены ў фундаменце праём.

Часам паграбы рабіліся ў выглядзе прыбудовы да хаты, часцей да тарцовага фасада. Прычым зрубная надбудова — паграбня магла ставіцца як па восі хаты (вёска Загор'е Валожынскага раёна), так і ўпоперак яе (вёска Садавічы Капыльскага раёна). Такія паграбы, як правіла, мелі два ўваходы: адзін з вуліцы і другі з хаты, праз люк у падлозе.

На захадзе Беларусі клеці часта будаваліся на высокім каменным фундаменце — падклеці, якая выкарыстоўвалася як пограб. Падклець рабілі каменнай. З аднаго боку, гэта тлумачыцца тым, што гэты будаўнічы матэрыял ёсць у Панямонні ў дастатковай колькасці (камяністыя глебы), а з другога — таму, што яе сцены з'яўляліся апорай, фундаментам для самой клеці. Уваход у падклець ажыццяўляўся праз каменную прыбудову з двухсхільнай страхой па земляных прыступках.

Пограб, як самастойная пабудова, распаўсюджаны шырока і вызначаецца вялікай разнастайнасцю ў архітэктуры. Складаецца з падземнага памяшкання з перакрыццём і люкам і зручнай надбудовы над ім — паграбні. Даследчыкі пачатку стагоддзя апісваюць паграбы з плоскай страхой, крытай цёсам па слою бяросты (Пухавіцкі, Асіповіцкі, Бабруйскі, Мазырскі раёны). Ва ўсходняй частцы рэспублікі пераважаюць паграбы з бярвенчатай паграбнёй з двухсхільнай страхой з саломы, цёсу ці дранкі. Уваход у пограб ажыццяўляецца праз люк, засыпка бульбы праз адтуліну з драўляным жолабам. Сцены ўласна пограба пераважна пакідаліся землянымі ці ўмацоўваліся драўлянымі плахамі. Прастора дзялілася перагародкамі на засекі.

На захадзе Беларусі ў архітэктуры паграбоў вялікую ролю адыгрываў камень. Ім умацоўваліся сцены, а часам з каменю ўзводзілася паграбня (Зэльвенскі, Ваўкавыскі, Мастоўскі раёны). Перакрыццё пограба рабілася ў выглядзе каменнага зводу, таму ўваход ажыццяўляўся не праз люк, а па прыступках. Каменнае скляпенне пограба закрыта зямлёй і дзёрнам, і толькі ўзвышаецца ўваход. Уваход таксама абкладаецца каменнем.

Выкапаць пограб не заўсёды было магчыма, асабліва ў нізінных і балоцістых месцах. У гэтым выпадку для захавання караняплодаў будаваліся істопкі — адно з самых старажытных збудаванняў сялян-

скай гаспадаркі, якое разам з клеццю і сенямі прымала ўдзел у эвалюцыі жылля. У былыя часы істопка служыла не толькі для захавання бульбы і буракоў. Летам яна выкарыстоўвалася як жыллё і нават трапезная. Этнографы прыводзяць прыклады, калі істопка пераабсталёўвалася ў жылую хату. Адбывалася гэта з прычыны росту сям'і ці непрыгоднасці хаты.

Істопка — памяшканне ацяпляемае (ад дзеяслова «істапіць»). Ацяплялася яна, як правіла, невялікай печкай-каменкай. Часта замест печы рабіўся невялікі ачаг, у які засыпаліся гарачыя вуголлі. Калі істопка прымыкала непасрэдна да хаты, яна магла абагравацца сцяной печы, якая гранічыла паміж ёй і хатай. Пазней з'явіліся істопкі з цаглянай печчу і трубой. Істопкамі маглі быць і старыя хаты, якія выкарыстоўваліся для гаспадарчых патрэб.

Шырока распаўсюджана істопка і як самастойная пабудова. У гэтым выпадку яна, як правіла, заўсёды мае прыістопку.

У раёнах басейна Заходняй Дзвіны, вярхоўях Дняпра і Сожа часта можна сустрэць невялічкую пабудову — лазню. Граніца яе распаўсюджання з усходу на захад праходзіць прыкладна па Бярэзіне. Будаўніцтва лазняў — своеасаблівая этнічная традыцыя гэтых месц. Ставіліся лазні групамі на беразе ракі ці возера. Даўней у асабістым карыстанні лазню мелі толькі заможныя гаспадары. Бяднейшыя будавалі лазні «ў складчыну».

Лазня абагравалася печчу-каменкай, якая палілася па-чорнаму. У печ умуроўвалі некалькі вялікіх камянёў для атрымання пары. Падлога ў лазні была драўляная, уздоўж сцен стаялі лавы. Уздоўж сцяны, бліжэй да печы, рабіўся палок. Столь з жэрдак ці гарбылёў уцяплялася слоем лісця ці кастры, прысыпаных пяском. Страха звычайна двухсхільная, крытая саломай альбо цёсам. Перад уваходам у лазню рабілася невялічкае памяшканне — прылазнік. Сціплая пабудоўка мела адно (рэдка два) акенцы на паўбервяна. Тутэйшыя сяляне будуюць традыцыйныя лазні і зараз.

## На дзенніку і прыгуменні

Асаблівае месца ў комплексе гаспадарчых пабудоў займаюць хлявы. Хлеў як канструкцыйна-функ- цыянальная гаспадарчая адзінка сфарміраваўся ў перыяд пачатковага развіцця земляробства, калі чалавек адначасова быў і жывёлаводам. Доказам старажытнага паходжання хлява з'яўляецца наяўнасць гэтага слова ў мовах розных славянскіх народаў. Лічаць, што хляву папярэднічалі розныя загоны і павеці, якія шырока бытуюць і зараз у паўднёвых славян. Для кароў,

валоў і коней будаваліся капітальныя хлявы з загародкамі, стойламі, загонамі. У пагоннай забудове хлявы для буйной жывёлы рабіліся адразу за сенямі. У дварах з незвязанымі пабудовамі хлявы ўзводзіліся як самастойныя збудаванні з вугламі рубленай канструкцыі і прасценкамі, злучанымі праз шулы з-за даўжыні сцен. Страха рабілася на «дзядках» ці «сохах». Унутры часта рабілася столь з жэрдкавага накату, куды закідвалася частка сена на зіму, ці салома для корму, падсцілкі і ўцяплення хлява. У буйных вяночных дварах хлявы прымыкалі да падольнай сцяны жылых збудаванняў, хаты і сеняў, праз якія праганялася жывёла. Гэта было рацыянальна, зручна і з пункту гледжання захавання цяпла, і з пункту гледжання расходу лесаматэрыялаў.

Пабудовы для дробнай жывёлы, аўчарні, цялятнікі і г. д. у аднараднай забудове ўяўлялі сабой шэраг памяшканняў, якія працягвалі хлеў для кароў і коней. У двухраднай забудове яны звычайна размяшчаліся ў другім радзе, чым і тлумачацца яго больш сціплыя памеры. У небагатых гаспадарках дробную жывёлу часта трымалі ў сенях, а зімой і наогул у хаце. Гэта традыцыя, трэба думаць, прывяла да з'яўлення вузкага і доўгага памяшкання, якое ідзе ўздоўж глухой сцяны хаты. Трапіць у яго можна было з сяней. Такая каморка абагравалася задняй сценкай печы; у ёй, як правіла, трымалі авечак. Прыклады такіх хат захаваліся да нашых дзён у заходніх раёнах рэспублікі (вёска Ляхавічы Зэльвенскага, вёска Рэдупля Мядзельскага раёнаў).

Птушнік звычайна размяшчаўся ў самым канцы забудовы. У аднарадным пагоне гэта невялікая прырубка. Трэба адзначыць, што, акрамя глухіх дзвярэй, птушнік яшчэ меў і дзверы ў выглядзе рашоткі, выкананых з карэнняў ці тонкіх планак. У Мастоўскім раёне можна сустрэць цікавыя адкрытыя птушнікі, якія па канструкцыі нагадваюць грыбок.

Пад грыбком у радыяльным напрамку размяшчалася седала, падняцца на якое куры маглі па невялікай лесвіцы, што на ноч прыбіралася. Варта сказаць пару слоў аб канструкцыі дзвярэй у пабудовах для жывёлы і птушкі. Найбольш распаўсюджанымі былі дзверы на Бораце, аснову якіх складала частка ствала з сукам. Ствол выконваў ролю дзвярной восі, а да аднаго ці двух адгалінаваных сукоў мацаваліся дошкі.

Пабудовы для захоўвання дроў і інвентару (паветкі, дрывотні) у аднараднай забудове з'яўляліся звязваючымі паміж хлявамі і хатай, у двухраднай іншы раз злучалі паралельныя рады. Транспартныя сродкі, калёсы, вазкі таксама звычайна захоўваліся пад паветкай. Больш багатыя гаспадары будавалі для гэтай мэты вазоўню. На Палессі, у

час паводак, вада трапляла ў хлявы, таму вазоўні тут рабіліся з падлогай,— накатам з жэрдак ці тонкіх бярвенняў.

На сялянскім прыгуменні заўсёды было шмат самых разнастайных збудаванняў. Гэта: азяроды і пярэплаты; страха-абарога над мінулагоднім стажком і старая пуня са страхой, якая спаўзла да зямлі, і, вядома, гумно, што стаіць крыху воддаль. Усё абнесена тонкім жардзяным плоцікам, там-сям, у канцы надзелу, стаяць стажкі сена.

Пабудовы сялянскага прыгумення па свайму прызначэнню і канструкцыі падзяляюцца на дзве групы: каркасна-жэрдкавыя і зрубныя. Да першых можна далучыць нават стог, канструктыўнай асновай якога з'яўляецца вертыкальная жэрдка. А таксама азяроды і пярэплаты, абарогі і сцірты. Гэтыя збудаванні прызначаны для прасушвання і захоўвання сена, саломы, бульбоўніку. Да зрубных адносяцца сеннікі, пуні, гумны з мякіннікамі, токам і асеццю. Зона распаўсюджання азяродаў ідзе шырокай паласой з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход рэспублікі. Пачынаючыся ў глыбінях Паазер'я, яна выходзіць на Вілейшчыну і далей — у міжрэчча Друці і Дняпра, да месца іх зліцця. Абарогі распаўсюджаны шырэй. На Палессі яны робяцца на сваях, каб захаваць сена ад намакання ў час паводкі; зверху накрываюцца шапкай з галін ці саломы. На Віцебшчыне сустракаюцца сеннікі ў выглядзе двухсхільнага навесу без сцен, на слупах. Часам сцены ў пунях і сенніках рабіліся плеценымі з галін. На Барысаўшчыне і ў Бярэзінскім раёне будавалі пуні, а побач рабілі адкрытую глінабітную пляцоўку — ток; усё гэта разам тут называлі гумном.

У залежнасці ад спосабу сушкі снапоў гумны дзеляцца на дзве групы. У першую аб'ядноўваюцца гумны з асеццю і ёўняй. Сушка снапоў у асеці ці ёўні робіцца гарачым паветрам, якое падаграваецца печчу-каменкай. Гэты спосаб называецца агнявой сушкай і распаўсюджаны ў паўночна-ўсходняй частцы рэспублікі. Рэгіён распаўсюджання гумнаў з агнявой сушкай супадае з рэгіёнам бытавання лазняў.

Да другой групы адносяцца гумны, у якіх снапы прасушваюцца побач з гумном, на сонцы. Гумны гэтай групы распаўсюджаны на Палессі, у цэнтральных раёнах і на Гродзеншчыне. Гумны першай групы адзначаюцца вялікімі памерамі; маюць, як правіла, высокую страху. Гумны другой групы, функцыянальны працэс у якіх спрошчаны з-за адсутнасці асеці,— меншых памераў, больш прысадзістыя. У плане яны — блізкія да квадрата.

Важнае месца ў гумне займаў ток. На ім цапамі малацілі зерне. Часам выкарыстоўвалі і конную малацілa. У такім выпадку побач з

гумном будаваўся навес для малацілкі — манеж. Па баках тока рабіліся засекі — «стаўпы» для захоўвання снапоў.

Архітэктуру гумна, яго прыгажосць вызначала страха: чатырохсхільная шатровая, двухсхільная, высокая вальмавая.

Часам да сцен гумна рабіліся невялікія прыбудовы для захоўвання мякіны. Іх так і называлі мякіннік. Побач з мякіннікам, звычайна стаяла сячкарня.

## Стаіць гоман каля студні...

У пейзажы вясковай вуліцы шмат пабудоў, невялікіх па сваіх памерах і прывабных разнастайнасцю. Гэта: агароджы, брамы, лавачкі, весніцы, мемарыяльныя знакі, калодзежы. Абавязкова ўбачыш там-сям высокія «жураўлі», няхітрыя навесы над калодзежамі-калаўротамі.

Рака, ручай, крыніца адыгрывалі важную ролю ў жыцці селяніна. Там, дзе яны былі, узнікалі паселішчы, вёскі, хутары. У Беларусі можна сустрэць нямала вёсак, дзе сяляне здабываюць ваду з падземных крыніц. Калі селянін знаходзіў крыніцу недзе на лясной сцяжынцы ці каля дарогі, ён клапатліва абносіў яе невысокім зрубам, рабіў побач лаўку з навесам. Іншы раз чыстая крыніца проста акуратна абкладвалася каменнем. Месца, дзе яна знаходзілася, імкнуліся выдзеліць, каб чалавек мог яе заўважыць, напіцца чыстай вады, адпачыць.

Там, дзе прыродных крыніц паблізу не было, будавалі калодзежы. Самыя простыя з іх — калодзежы-кайдубы. У выкапаны ў зямлі праём заганялі выдзеўбаны з сярэдзіны ствол тоўстага дуба даўжынёй тры- чатыры метры. Рабілі гэта ў тых месцах, дзе ўзровень залягання грунтавых вод быў невялікім. Набрынялае вільгаццю дрэва захоўвала на працягу многіх дзесяцігоддзяў сваю трываласць.

Калодзежы з дрэва былі распаўсюджаны па ўсёй Беларусі. Канструкцыя іх драўляных праёмаў сустракаецца самая разнастайная. Самая простая ўяўляе сабой некалькі ярусаў вертыкальна размешчаных плах. Больш удасканаленымі з'яўляюцца калодзежы з гарызантальным размяшчэннем плах. На ўсю глыбіню праёма па чатырох вуглах забіваліся сваі, паміж якімі закідваліся гарызантальныя плахі-брусы. Найбольш дасканалай з'яўляецца зрубная канструкцыя, калі ўвесь калодзежны праём рабіўся з брусоў, бяр- венняў, ці дыляў.

На Панямонні калодзежныя праёмы іншы раз вы- і кладвалі з каменняў.

Цікавая і разнастайная па сваёй архітэктуры тая частка калодзежа, якая з'яўляецца механізмам для пад'ёму вады. Тут мы маем справу з «жураўлямі» і «калаўротамі». «Журавель» — гэта высокая стойка — «саха», у разгаліну якой замацоўваецца доўгая жэрдка з процівагай на камлявым канцы. Да тонкага канца мацуецца спецыяльны шост з прыстасаваннем для зачэпа вядра — вочап. У найбольш старых «жураўлях» вочап меў на канцы звычайны сук, на які і чаплялася вядро. Калаўрот замацоўваецца ў двух вертыкальных стойках, над якімі ўзводзіцца двухсхільны навес. Такія навесы часта ўпрыгожваюцца шчытом, арнаментам па краях, тарцы зашываюцца дошкамі. У Нясвіжскім, Стаўбцоўскім, Дзяржынскім і многіх іншых раёнах распаўсюджаны калодзежы- «калаўроты» з вежападобнай надбудовай, часта ўпрыгожанай флюгерам. Прыгожы калодзеж знаходзіцца ў г. Браславе. Выгін кансоляў лёгка падхоплівае высокі шатровы навес, крыты дранкай. Дзякуючы фантазіі і вынаходлівасці народных майстроў, простае збудаванне стала архітэктурным помнікам.

Цяжка ўявіць сабе старую беларускую вёску без плятня, тонкай нітачкі жэрдак, што цягнуцца за ваколіцу; без плоту з расшчэпленых папалам, завостраных зверху плах. Агароджы адыгрывалі ў абліччы вёскі, сядзібы вялікую ролю. Яны акрэслівалі контуры вуліц, двароў, надаючы ім то звілістую, маляўнічую, то дакладную і строгую формы.

Самай простай і маляўнічай з'яўляецца жывая агароджа — палоска кустоў, густая сетка павойнай зеляніны. Такая агароджа цяпер становіцца ў вёсцы ўсё больш папулярнай.

Пляцень сустракаецца ў розных раёнах Беларусі, але шырэй за ўсё на Палессі. Звычайна гэта тры гарызантальныя жэрдкі, заплеценыя прутамі па вертыкалі. Часам такі пляцень меў вышыню да трох метраў. Былі агароджы, у якіх пляценне рабілася гарызантальна. Даўней плятні рабілі з хлыстоў, вырваных з зямлі з карэннем; зараз іх часцей робяць з яловых галін.

Жэрдкавыя агароджы выкарыстоўваліся ў асноўным на прыгуменнях, хаця часам сустракаюцца і на вуліцах, асабліва ў вёсках, дзе насупраць хат, на процілеглым баку, стаялі хлявы і гумны. У зямлю ўрываліся невялікія паўсошкі, у разгалінаванне ўкладваліся жэрдкі і прывязваліся галінкамі лазы. Пазней з'явіліся агароджы з жэрдкамі ў некалькі радоў. Для мацавання жэрдак выкарыстоўвалі стойкі з сукамі ці дзве-тры ўкапаныя побач стойкі. Паміж апошнімі жэрдкі заціскаліся і прывязваліся.

Распаўсюджанне агароджы з плах ці дошак, завостраных зверху, тлумачыцца прастатой узвядзення і вялікай надзейнасцю. Агароджы з тоўстых, расколатых папалам завостраных жэрдак, умацаваных на-

кшталт частаколу, сустракаліся ў вёсках Старадарожчыны, Асіповіцкім і Пухавіцкім раёнах. З цягам часу, калі ўяўленне аб сялянскім двары, як аб крэпасці, пачало паступова адыходзіць, функцыянальная роля такіх агародж знізілася. Іх сталі рабіць з дошак, прыбітых да гарызантальных жэрдак, упрыгожваць разьбой, карнізамі, бяліць вапнай.

Вялікую цікавасць уяўляюць агароджы вяночных двароў — замёты, платы. Іх рабілі з бярвення, закінутага ў вертыкальныя шулы. Замёт выкарыстоўваўся не толькі для агароджы двара, ім абносілі, напрыклад, пасекі, размешчаныя на значнай адлегласці ад сядзібы.

У Ваўкавыскім, Зэльвенскім і Мастоўскім раёнах можна ўбачыць агароджу, выкладзеную з каменняў.

Любая агароджа мела праезд ці праход на двор, гумнішча — браму. У старажытныя часы брамы будаваліся і на ўездзе і выездзе з вёскі. Побач звычайна ставіўся крыж, часам драўляная скульптура. Самая простая брама ўяўляла сабой тры вушакі, весніцу і вароты (аднастворчатыя і двухстворчатыя).

Брама ў многім уплывала на знешні выгляд сядзібы. Таму яна ўпрыгожвалася дэкорам: разнымі карнізамі; вароты і весніца — шалёўкай. Весніцы і вароты мелі каваныя клямкі. У раёнах, дзе агароджы мелі лёгкую канструкцыю, брамы былі больш простымі, без страхі-навеса, не мелі высокіх і глухіх варот і весніц. Страху замяняла гарызантальная перакладзіна, вароты і весніцы — з разрэджаных гарызантальных дошак.

Цікавым помнікам народнага дойлідства з'яўляецца мемарыяльны слуп, які ўзводзіў гаспадар каля брамы ў памяць свайго бацькі і продкаў. Такія мемарыяльныя знакі сустракаюцца ў Панямонні. Гэта ж традыцыя шырока бытуе ў суседняй Літве. Слуп вышынёй 2-4 метры завяршаецца невялікай вежкай, каплічкай, упрыгожанай разьбой і дэкорам.

Разнастайныя мемарыяльныя знакі ставіліся на сельскіх могілках. Многія з іх нясуць на сабе адбітак дахрысціянскіх часоў. Гэта драўляныя пірамідальныя помнікі — невялічкія зрубныя надбудоўкі над магілай (вёска Шэйкі Крупскага раёна). Шырока былі распаўсюджаны раней драўляныя надмагільныя слупы. На абчэсанай грані выразаўся крыж, прозвішча памёршага і гады яго жыцця (вёска Агароднікі Слуцкага раёна). Сціплыя крыжыкі з кругляшак, крыжы, упрыгожаныя разьбой і разнымі распяццямі, магутныя крыжы з тоўстых брусоў вышэй чалавечага росту можна і сёння ўбачыць на старых вясковых могілках. Ставіліся даўней і помнікі-каменні. Кавальскія крыжы і агароджы, а таксама крыжы, адлітыя з чыгуну, былі

больш характэрны для мястачковых могілак і часта спалучалі ў сабе народныя элементы з элементамі мастацкіх стыляў пэўнага часу, напрыклад, барока, эклектыкі, ампіру.

## Крылатыя пабудовы

Якую прыгажосць надавалі беларускаму пейзажу ветракі! Стаялі яны на ўзгорках, дзе добра дзьмуў вецер, у адзіночку ці нават па некалькі; былі добра бачны здалёк, служылі своеасаблівымі арыенцірамі падарожніку.

Патрэба ў прыстасаваннях для памолу збожжа ўзнікла даўно. На ранніх этапах развіцця земляробства карысталіся прымітыўнымі цёркамі і ступамі. Працаваць з імі было цяжка і марудна, ды і не надта многа мукі можна было атрымаць. Больш дасканалай прыладай сталі жорны. З іх з'яўленнем мукамолле вылучаецца ў асобную вытворчасць, здольную забяспечыць не толькі патрэбы сям'і, але і рынку. Жорны будаваліся розных памераў. І такія, што прыводзіліся ў рух рукамі млынара, і якія магла скрануць з месца толькі значная сіла (конны млын) ці вада, якая падае з плаціны на кола (вадзяны млын), альбо моцны парыў ветру (ветраны млын). Выкарыстанне гэтых сіл прыроды ўпершыню пачалося за многа вякоў да нашай эры ў Егіпце і краінах Блізкага Усходу. Гістарычныя крыніцы даюць нам уяўленне аб ветраках Егіпта часоў арабскага халіфата, ветраках еўрапейскіх краін раманскай эпохі. Канкрэтна не высветлена, як з'явіліся ветракі ў Еўропе. Існуе думка, што ўпершыню еўрапейцы пазнаёміліся з імі ў часы крыжовых паходаў. Аднак многія гісторыкі лічаць, што ветракі былі вядомы еўрапейцам раней. Дзесьці ў XV ст. яны з'явіліся ў Беларусі.

На Беларусі атрымалі распаўсюджанне ветракі двух тыпаў: казловы і шатровы. Першы найбольш старажытны. Асновай яго з'яўляецца вертыкальны слуп-вось, трывала замацаваны ў крыжавіне (козлах). Млын свабодна паварочваецца вакол слупа-восі ў залежнасці ад напрамку ветру пры дапамозе дышла. Такія млыны шырока распаўсюдзіліся ў заходняй палове рэспублікі. Іх яшчэ і сёння можна ўбачыць у вёсках Мядзельскага, Маладзечанскага, Клецкага, Нясвіжскага, Капыльскага і іншых раёнаў.

Шатровыя ветракі характарны для народаў паўночнага захаду і захаду Еўропы. Нездарма іх яшчэ называюць галандскімі. З'явіліся яны на Беларусі пазней. Шатровы вятрак складаецца з нерухомага корпуса, завужанага ўверсе, і рухомай вежы (шатра), якая паварочваецца ў залежнасці ад напрамку ветру. Пэўная тэхнічная даска-

наласць адбілася і на больш зграбным знешнім выглядзе. Шатровыя ветракі часцей сустракаюцца ва ўсходняй палове рэспублікі — у Мсціслаўскім, Хоцімскім, Бу- да-Кашалёўскім раёнах.

У вёсках Віцебшчыны можна сустрэць шмат разнастайных маленькіх ветракоў. Звычайна ветракі будаваліся на цэлую акругу і абслугоўваў іх млынар, для якога млынарства было промыслам. А што рабіць земляробу, які жыве на хутары альбо ў вёсачцы з 10-16 двароў? Вось і будаваў ён невялічкі млынок, разлічаны на некалькі пудоў збожжа. Відаць, з гэтай прычыны будаваліся і ветрачкі на колах. Гаспадар запрагаў каня і вывозіў млынок на пагорак, дзе дзьмуў вецер.

Вадзяныя млыны былі вядомы ў Беларусі двух тыпаў: запрудныя і наплаўныя. Першыя працавалі ад энергіі падаючай з плаціны вады. Адначасова разам з плацінай будаваўся мост. Наплаўныя вадзяныя млыны працавалі ад энергіі бягучай вады. Таму яны будаваліся пасярэдзіне ракі на спецыяльна замацаваным плоце (на плаву).

Будынак млына рубілі з брусоў ці круглякоў на два-тры паверхі. У самым ніжнім размяшчаліся розныя механізмы, часам ён выкладваўся з камення. Наверсе стаялі жорны. Тут быў уласны млын і падсобныя памяшканні: пад'язная пляцоўка, месца для разгрузкі, розныя засекі і г. д. У адным комплексе з млынам часта рабілася жыллё млынара са сваім уласным уваходам. Побач стаялі і іншыя пабудовы, якія ўтваралі хутар млынара. Цікавыя вадзяныя млыны захаваліся ў вёсцы Іжа Вілейскага, вёсцы Дварэц Дзятлаўскага, вёсцы Маркава Маладзечанскага раёнаў і ў іншых месцах. Існавалі розныя вытворчыя збудаванні, якія выкарыстоўвалі для сваёй работы энергію вады: сукнавальні (фолюшы, валюшкі), воўначасальны лесапільні.

Цікавымі пабудовамі былі конныя манежы. Звычайна манеж будаваўся ў адным комплексе з пуняй ці гумном. У манежы размяшчаўся механізм, аснову якога складала драўлянае зубчатае кола вялікага дыяметра, звычайна 3-4 м. Гэта кола прыводзілася ў рух запрэжаным канём, які хадзіў па кругу. Пры дапамозе розных прыстасаванняў, выкананых таксама з дрэва, рух ад кола перадаваўся малатарні, размешчанай у пуні ці гумне. Часта кола злучалася з жорнамі і такім чынам атрымліваўся конны млын. Такія млыны былі распаўсюджаны на Палессі, Гродзеншчыне і Наддзвінні. Часцей за ўсё сяляне будавалі адзін манеж на ўсю вёску. У вёсцы Янукі Докшыцкага раёна старажылы расказвалі аб перасоўным манежы, які меў калёсы і яго перавозілі ад гумна да гумна. Нярэдка манеж прыстасоўвалі і для вытворчасці дранкі. Кола манежа ставілі ў цэнтры, а на некаторай адлегласці ад яго па кругу замацоўвалі ка-

лоды-загатоўкі. Да аднаго канца манежнага вала прымацоўваўся цяжкі востры нож, другі цягнуў па кругу конь, пры гэтым нож акуратна зразаў з кожнай з калодак па палосцы дранкі.

Народныя вытворчыя збудаванні ўжо даўно страцілі сваё значэнне. Груваскія драўляныя механізмы замянілі машыны, конскую цягу — электрычнасць. На сённяшні дзень ветракі, вадзяныя млыны — гэта помнікі тэхнічнай творчасці народа.

## Асаблівасці архітэктуры фальваркаў

Забудова фальваркаў і невялікіх маёнткаў па тыпу пабудоў і характару іх размяшчэння значна адрозніваюцца ад сялянскіх двароў. Гэта былі двары, сядзібы арандатараў, упраўляючых, дробных паноў, гандляроў, шляхты. Яны будаваліся побач з вёскай, часам на ўзгорку. Пабудовы хаваліся ў зеляніне парку, акружанага плотам з брамай і высокімі варотамі, над якімі ўзвышалася дашчатая вежа. Брама з тынам захавалася ў вёсцы Харомцы Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці. За брамай, перад маёнткам, была плошча з кветнікам — курданер. Тут спыняліся брычкі, гаспадар сустракаў гасцей. Іншы раз насупраць панскага дома стаяў сонечны гадзіннік на дубовым слупе з двума новымі ступенямі і свінцовым шчытом з выгравіраваным арлом. У дом гаспадара вёў ганак з прыступкамі і двума-чатырма калонамі. Далей ішлі сені, паабапал якіх знаходзіліся жылыя пакоі, гасціная (свяцёлка, горніцы) і г. д. Сені мелі скразны праход, які вёў у двор. Дом крыўся высокай вальмавай страхой (з дранкі), а нярэдка і з саломы. Побач з домам звычайна знаходзіліся пабудовы для захавання маёмасці. Хлявы, канюшні, гумны будаваліся далей. Злева ці справа ад брамы звычайна стаяў двух'ярусны свіран з кругавой галерэяй на ўзроўні другога яруса, лесвіцай, чатырохсхільнай страхой — лямус або скарбец. Першы ярус нярэдка рабіўся каменны, у ім размяшчаліся жылыя пакоі прыслугі. На другім захоўвалі зерне, муку. Нярэдка замест аднаго лямуса стаяла чатыры-пяць невялічкіх свірнаў. За лямусам стаяла пабудова для сушкі сыроў — сырніца.

За сырніцай стаяла пабудова накшталт сялянскай істопкі для захавання гародніны. Складалася яна з заглыбленага ў зямлю зруба і невялічкай надбудовы накшталт паграбні. Далей ішла капцільня — каркасная будова, цалкам абшытая дранкай. Узводзілася гэта вежападобная пабудова на каменным фундаменце. Зразумела, былі ў яе вокны — адтуліны для дыму. Халадзільнікаў раней не было. Для захоўвання прадуктаў улетку будавалі леднікі з двайнымі сценамі,

прамежак паміж якімі запаўняўся лёдам, які мог захоўвацца ледзь не да наступнай зімы. На дварэ было шмат іншых дробных збудаванняў (насціл для тынкоўкі капусты, калодзеж з сасновым зрубам і іншыя). На беразе сажалкі — скрыня для рыбы. Крыху воддаль, звычайна з другога боку маёнтка, стаяла афіцына — збудаванне, у якім жылі батракі, прыслуга.

Асобна стаяў скотны двор, вялізны «вянок» з дваром пасярэдзіне. Тут было шмат памяшканняў (для коней, кароў, цялят). Памяшканні для свіней і птушкі часам рабілі плеценымі. Нярэдка двор быў крытым.

Фальварак меў значнае гумнішча, на якім было некалькі гумнаў, звычайна значных памераў.

Фальварачная архітэктура цалкам абапіралася на традыцыі народнага дойлідства. Дробнапамесная шляхта, арандатары ў сацыяльным сэнсе не вельмі высока ўзнімаліся над сялянамі, таму рэдка мелі маёнткі, спраектаваныя з улікам модных архітэктурных стыляў.

## Сённяшні дзень вясковай хаты

Новая эпоха ў народным дойлідстве пачалася пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Знішчэнне залежнасці ад памешчыкаў і кулакоў, замена аднаасобнай гаспадаркі калектыўнай прывялі да нябачанага павышэння прадукцыйнасці сельскай працы, паляпшэння матэрыяльных і культурных умоў жыцця сельскага працаўніка. Новы, сацыялістычны ўклад змяніў аблічча не толькі сялянскай хаты, але і вёскі ў цэлым. Сельсавет і праўленне калгаса прыходзяць на змену земству і валаснай управе, на змену касцёлу і царкве прыходзяць хата-чытальня і сельскі клуб, лаўку гандляра замяняе магазін, будуецца школа, пазней з'яўляюцца дзіцячыя сады, яслі.

Працэс дыферэнцыяцыі ў планіроўцы хаты, які пачаўся ў пачатку стагоддзя, цяпер працягвае развіццё на якасна новай аснове ў сувязі з паляпшэннем архітэктуры сельскага дома ў цэлым. Усё часцей дом будуецца на каменным фундаменце, павялічваюцца яго памеры, страха з саломы і чароту замяняецца дахам з гонты, дом шалюецца, упрыгожваецца разнымі ліштвамі, аканіцамі, закрылкамі.

Дашчаная падлога, высокая столь, павялічаная плошча даюць магчымасць раздзяліць дом на пакоі капітальнымі сценамі. Як вынік паляпшэння санітарна-гігіенічных умоў выдзяляецца кухня, ствараецца чысты пакой, дзе можна прыняць гасцей, адпачыць. Значна мяняецца хатняя абстаноўка. На змену лавам прыходзяць канапы, дываны; палок замяняецца ложкам; куфар уступае месца шафе; з'яўляецца

паліца для кніг; а на стале — накрыты ручнікам радыёпрыёмнік, крыху пазней і тэлевізар, на сцяне — гадзіннік. Падлогу пачынаюць фарбаваць, сцены бяліць, аклейваць шпалерамі, на вокнах з'яўляюцца шторы і фіранкі. Адбываецца выдзяленне з агульнага пакоя спальні, што з'явілася вынікам росту культуры быту на вёсцы, патрэбай выдзеліць інтымную частку жылля. Выхаванне дзяцей розных палоў вядзе да падзелу спальні. Спалучэнне традыцый сямейнага адзінства з павагай індывідуальнасці кожнага з яе членаў — важнае сацыялістычнае дасягненне ў развіцці культуры быту сялянскай сям'і. У дзіцячай спальні на змену калысцы прыходзіць зручны ложак.

Развіваюцца і дапаможныя памяшканні. З'яўляецца веранда, летняя кухня. Далейшае развіццё планіроўкі жылля ўсё больш цесна ідзе з развіццём архітэктуры сельскага дома. Пачынае абжывацца гарышча, г. зн. ідзе працэс фарміравання жылля ў двух узроўнях: унізе застаюцца кухня, сталовая і агульны пакой, наверсе — спальні. Развіццё планіроўкі ў двух узроўнях адлюстроўваецца ў архітэктуры з'яўленнем балконаў, лоджый, двухпавярховых веранд. Узрастае роля афарбоўкі і дэкору. Шчыты, франтоны, карнізы, элементы даху фарбуюцца ў больш яркія таны; сцены— у больш спакойныя; ніжняя частка будынку — у больш цёмныя. Так народныя майстры ўмела выяўляюць колерам тэктоніку збудавання. Разьбой упрыгожваюцца стойкі, кансолі, бэлькі, страпілы, шчыты, сцены, аканіцы. У сучасным народным дойлідстве ўсё шырэй выкарыстоўваюцца новыя будаўнічыя матэрыялы — камень, цэгла. У дамах з цэглы назіральнае вока заўважыць элементы традыцыйнай драўлянай архітэктуры. Напрыклад, пілястры па вуглах — стылізацыя ў камені рубленага вугла з астаткам; узоры з профільнай цэглы над вакном нагадваюць ліштвы і г. д.

Працэс паляпшэння ўмоў жыцця сельскіх працаўнікоў працягваецца. Ён ідзе двума шляхамі. З аднаго боку, над паляпшэннем сялянскага жылля, яго абстаноўкай працуюць народныя майстры, з другога — распрацоўваюцца і будуюцца дамы з палепшанай планіроўкай у адпаведнасці з планам развіцця паселішчаў у сістэме развіцця сельскай гаспадаркі ў цэлым. Харчовая праграма СССР у раздзеле, дзе размова ідзе аб паляпшэнні сацыяльна-бытавых умоў жыцця ў вёсцы, прадугледжвае: «...апярэджваючымі тэмпамі весці ў калгасах, саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах будаўніцтва добраўпарадкаваных жылых дамоў з гаспадарчымі пабудовамі...» Вопыт будаўніцтва паказвае, што ў праектах сельскіх дамоў неабходна глыбей улічваць спецыфіку сельскага жыцця, вывучаць і правільна выкарыстоўваць лепшыя будаўніча-планіровачныя традыцыі народнай архітэктуры.

## 2. У свеце працы і красы

### Ад дабра ў полі да хлеба на стале

Вясною, калі падсыхала разбуджаная ад зімовага сну зямля, гаспадар ішоў аглядаць азімыя палеткі і правяраць глебу — ці можна ўжо выязджаць на поле. Ворыва было хвалiста-рабрыстае і ў папярочным разрэзе нагадвала звілістую лінію. Чаму ж цяпер роўнае, а тады было рабрыстае? Ворыўнае поле складалася са шнуроў або загонаў. Кожны загон аддзяляўся баразной, а ўчасткі межамі. На кожным участку было ад аднаго да шасці загонаў, гаспадары якіх былі родзічамі.

Павелічэнне колькасці насельніцтва прыводзіла ў мінулым да расшырэння палеткаў і адначасова да скарачэння лясных плошчаў. На Беларусі лес тады займаў значную частку яе тэрыторыі. Каб расшырыць палеткі і павялічыць свае даходы, паны здавалі сялянам дзялянкі горшага лесу для яго расчысткі і карчавання. Сяляне ўлетку высякалі адведзены ўчастак лесу, пакрывалі яго саломай і пакідалі да вясны. Калі вясной добра высыхала, спальвалі салому і пакінутыя дровы. На новым полі (лядзе) сеялі яравую збажыну. Першы ўраджай амаль у 30 разоў перавышаў тое збожжа, што было засеяна.

Зямлю доўгі час апрацоўвалі сахой. На значнай тэрыторыі Беларусі бытавала палеская (літоўская) саха. Яна складалася з рагача — жэрдкі з сучкамі-ручкамі. Ніжэй ручак рагача забівалі рассоху — дошку ў выглядзе рагоў, на канцы якіх набівалі жалезныя сашнікі. Левы сашнік быў шырэйшы і выгнуты: ставіўся ён пад вуглом да зямлі. Да сашнікоў мацаваліся дзве нерухомыя паліцы, якія адвальвалі зямлю. Глыбіню ворыва рэгулявалі змяненнем вугла паміж рассохай і рагачом. На другі канец рагача — дышла мацавалі ярмо, у якое запрагалі двух валоў.

На поўнач і ўсход ад лініі Паставы — Докшыцы — Орша глебу аралі аднаконнай перакладной сахой, што адрознівалася ад палескай сваёй канструкцыяй. На канец аглобляў насаджвалі ручкі ў выглядзе палкі, да якой мацавалі рассоху-лямешніцу. На канцы апошняй набівалі жалезныя лемяшы. Для адвалу зямлі служыла лапаткападобная драўляная або жалезная паліца; у канцы баразны пры кожным павароце яна перакладвалася з аднаго лемяша на другі.

У канцы XIX ст. на поўначы і захадзе Беларусі араць зямлю сталі коньмі, а не валамі. Для гэтага змянілі канструкцыю палескай сахі — замест рагача майстрылі аглоблі. Была яшчэ і сошка або рала — аднazубая драўляная прылада для акучвання бульбы. Па сваёй форме

яна нагадвае саху, у якой замест рассохі быў завостраны брус з трохвугольным сашнікам на ніжнім канцы. Пры распашцы цаліны (луга, дзірвана) і падчас папару спачатку прымянялі разак, а пасля аралі сахой. Корпус разака таксама падобны на саху, але на адназубы брус насаджваўся жалезны нож, які служыў для кройкі дзёрну.

У 20-х гг. XX ст. жалезны плуг і акучнік паступова выцясняюць саху і сошку, конь, вядома, замяняе двух валоў. Коні болей шпаркія ў рабоце, чым валы, найлепш падыходзілі для жалезнага плуга. Валоў запрагалі ў ярмо, а каня — у хамут. Даўнейшы хамут адрозніваўся ад цяперашняга: гужы — вяровачныя, звітыя з пянькі, хамуціна саламяная, абшытая палатном; зверху хамута замест скуры прышывалі палатно.

У старыя часы першы вясновы выезд у поле абстаўляўся пэўнымі абрадамі. Выбраўшы добры надвячорак, селянін запрагаў пару валоў, а жонка на іх пырскала свянцонай вадой; браў хлеб-соль і накіроўваўся з дому. Прайшоўшы баразны са тры, ён вяртаўся дадому і больш ужо ў гэты дзень нічога не рабіў. Потым ішлі дзень за днём доўгія потныя дні ворыва.

Узараную глебу валачылі, баранавалі бараной-су- каваткай, смыкам, а пазней — драўлянай вязанай і рамачнай бараной. Вязаныя (плеценыя) бароны мелі па 25 і 30 зубоў. Дубовыя зубы замацоўваліся сярод трох палак-ляшчын «калачамі» (лазовымі або дубовымі дубцамі).

Агранамічную навуку селянін спасцігаў у сваіх бацькоў і дзядоў; сам набіраўся вопыту. Здаўна ў полі бытавалі трохпольныя севазвароты, а калі бульба і травы пацяснілі яравыя, то паступова ўкараняліся і чатырохпольныя: 1) жыта, 2) яравыя, 3) бульба і кармавыя травы, 4) папар. У XX ст. дзе-нідзе замест папару сеялі горкі лубін, які добра ўзбагачаў глебу азотнымі ўгнаеннямі. З арганічных угнаенняў прыкладна раз у тры гады зямля атрымоўвала гной, бо яго не хапала на ўсе палеткі.

Асаблівай апрацоўкі патрабаваў папар. Вясной яго баранавалі (скародзілі), у чэрвені вывозілі і растрасалі гной, пераворвалі (мяшалі), зноў баранавалі. За тыдзень да сяўбы жыта яго ўзорвалі (траілі).

Надыходзіў час сеяць. Па ўсталяванай у вяках традыцыі сяляне прытрымліваліся пэўнага тэрміну і чарговасці сяўбы кожнай культуры. Наконт гэтага існавала шмат рацыянальных прыкмет. Аб гэтым сведчаць прымаўкі: «Калі вясной запяе ўдод, тады сей боб», «Сей авёс у гразь — будзеш князь», «Грэчку сей, як сад або каліна расцвіце» (яе сеялі апошняй). Іншы раз прытрымліваліся пэўнай даты, якая звязвалася з тымі або іншымі святамі.

Даволі ўрачыста абстаўляліся вясной засеўкі. Для іх падбіралі суботу або аўторак, як правіла, у поўню — каб каласы былі поўныя. Па-святочнаму апрануты гаспадар клаў на воз мяшкі з насеннем, барану, сявеньку, у якую клаў абрус. У апошні — завернуты хлеб, соль і г. д. На полі ён вымаў абрус з хлебам, а ў сявеньку (лубку) насыпаў насенне; закідваў яе лямку за шыю. Ішоў па забаранаванай раллі і жменькай сеяў памаленьку. Тады гаварылі жартуючы: «Як прыйшло цяпло, бяры сявеньку і сей памаленьку». У вёсках Крамянец і Падбалоцце (каля Зэльвы) сеялі не з сявенькі, а з чыстага палатнянага фартуха. Калі гаспадар першы дзень сеяў, гаспадыня гатавала святочны пачастунак і надзвычай чыста прыбірала ў хаце: каб пустазелле не вялося на ніве. Вярнуўшыся з засевак, звычайна святкавалі, не запальваючы агню: каб сонца не выпаліла ніву. Гаспадар клікаў сваякоў, суседзяў, а то і знаёмых, стараючыся багата і шчодра пачаставаць: каб і засеяная ніўка плённа аддзякавала.

У канцы красавіка (па старому стылю) высявалі авёс, пшаніцу, ярыцу, ячмень; у маі — лён і саджалі бульбу, і, нарэшце, сеялі грэчку і проса. Проса расло толькі на поўдні Беларусі. На лёгкіх глебах сеялі яравую збажыну і бабовыя (гарох, боб, віку, сачавіцу).

Найбольш цяжкай працай была вывазка гною з хлявоў на поле. Мінеральных угнаенняў тады не было, замест іх зрэдку скарыстоўвалі попел. Мужчыны дзёрлі ў хлявах гной мачам (салома яшчэ не згніла і паддавалася цяжка). Віламі або сахаром гной выкідвалі на двор, а затым ужо накладалі на воз. На полі яго сцягвалі крукам з воза ў невялічкія кучкі.

Дзе-нідзе здаралася, што поле ўгнойвалі торфам, які здабывалі ў бліжэйшым балоцце. Перад самай пасадкай бульбы гной растрасалі віламі.

Жанчыны перабіралі і наразалі бульбу. Калі поле і бульба былі падрыхтаваны, ехалі яе садзіць. Мужчына пракладваў сахою або плугам баразну, а жанчыны ішлі за ім і клалі ў яе бульбу. Спосаб гэты, калі гаварыць пра ўласную гаспадарку, захаваўся і цяпер. На Беларусі бульбу пачалі разводзіць з другой паловы XVIII ст. Праз сто гадоў яна шырока распаўсюдзілася на беларускіх палетках.

Калі сяўба ў полі збожжавых і бабовых была ўдзелам пераважна мужчын, то пасадка бульбы і гародніны — пярвейшы клопат жанчын. Вясной жанчыны таксама садзілі ў агародзе моркву, буракі, цыбулю, часнок, рэдзьку, рэпу, бручку, капусту, гарбузы, агуркі, фасолю, боб. Разводзілі ў агародзе тытунь, мак, мяту, розныя прыправы (кмен, чарнушку, каляндру, укроп, пастарнак, гарчыцу, пятрушку) і кветкі. Таматы ў мінулым стагоддзі на большай частцы Беларусі не садзілі.

Паміж сяўбой і касьбой была невялікая перадышка. Гаспадары аглядалі пасевы, апрацоўвалі папар, баранавалі і акучвалі бульбу, абгароджвалі агароды, рыхтаваліся да «пільніцы» (гарачай пары, калі адкладваць работу нельга). Адсвяткавалі сёмуху з бярозавым і кляновым маем, купалле з начнымі вогнішчамі і спяшаліся на сенажаці.

Сенажаці былі амаль усюды багністыя і забалочаныя. Мурожных было мала, аб чым, напрыклад, упамінаецца ў песні «На балоце касец косіць». У песні гаворыцца аб цяжкай марнай долі касца. Касец іншы раз стаяў у лапцях па калені ў вадзе і касіў, яго жонка граблямі зграбала і выносіла траву ў рэзгінах на сухое месца. Жыхары вёскі Садавічы (на Капыль- шчыне) выцягвалі скошаную траву з балот на лёгкіх ночвах саматугам. Развярнуцца на сенажаці нават багністай было цяжка. Сенажаці так, як і загоны, былі раздзелены на «шнуркі» (вузкія палосы), размер якіх залежаў ад колькасці гаспадароў на ўчастку. Кусты паміж палоскамі, як правіла, былі своеасаблівымі межамі.

У час касьбы вечарамі чуўся стук і перазвон жалеза — гэта касцы кляпалі косы, каб раніцай (ледзь зара) выйсці на луг. Стараліся касіць з расой. У народзе гаварылі: «Касі, каса, пакуль раса, раса далоў— каса дамоў». На сухіх лугах сухую траву касіць было цяжка.

Кожную раніцу, акрамя нядзелі, звінелі косы — гэта касцы вастрылі іх. Каса шугала па сенажаці, а за ёю роўнымі радамі кладліся пракосы. Калі месца было сухое, дык іх разбівалі; пасля сена варочалі граблямі. Сухое сена складвалі ў копы або стог, затым на калёсах звозілі ў пуню ці гумно.

Адзвінела косамі касьба, пажоўкла жытняе поле, нахіліў галоўку колас, паскараючы зажынкі. К гэтаму часу хлебныя запасы звычайна канчаліся. Іншы раз жытняй мукі хапала толькі на саладуху ды зацірку. Аб хлебе толькі марылі. Жніво на Беларусі пачыналася ў ліпені, а заканчвалася ў верасні. Пачыналася на Палессі, заканчвалася ў Паазер'і. Да жніва рыхтаваліся, як да свята. Зажынкі і былі своеасаблівым святам сустрэчы новага плёну. Гаспадыня апраналася ў святочную кашулю, лажыла акрайчык хлеба з соллю ў чыстую торбу, ішла ў поле і клала яго на ніву ў жыта. Брала вакол торбы сцяблінкі жыта і толькі што назубленым сярпом зажынала. Нажынала першы маленькі снапок, звязвала яго і казала: «Нажала гаспадара». Зажынаючы, спявалі: «Зажынайце, жнейкі, жнейкі маладыя. Сярпы залатыя, зажынайце».

Жнучы жыта, жнеі знаходзілі іншы раз спарышы (сцяблінкі з двума каласамі) і ўтыркалі іх у першы снапок. «Гаспадара» неслі дадому і ставілі на кут, пад абразы. Там ён стаяў, пакуль не звозілі з

поля збожжа. Прывёзшы першы воз, «гаспадара», абхінутага настольнікам, неслі ў гумно і клалі першым у тарпу (застаронак).

Праца жней на ніве была вельмі цяжкай і нуднай, трэба было гнуць спіну ад усходу да заходу сонца, якое звычайна ў часе жніва пякло нясцерпна. За доўгі дзень іншая жняя паспявала нажаць тры капы (180 снапоў). Такую ахвотна наймалі на работу. Да адмены прыгоннага права прыходзілася на жніве пад наглядам прыганятага адбываць паншчыну, а пазней — падзёншчыну (падзённыя заробкі) і адробкі (за пашу, за лес, за пазыку). Не ў радасць было жняі цёплае сонейка. То на панскім полі, то на сялянскіх палосках нярэдка гучала працяжная песня:

А соўнейка-соўнейка,
Як ты; мне дакучаеш,
Раненька ўсходзячы
Ды позненька заходзячы.

У цэлай групе жніўных песень чуюцца сацыяльныя матывы. Праца на жніве была цяжкай і нуднай, але спявалі шмат. Спяваючы, жняя забывала сваё гора, весялей спорылася работа.

Хмаркі, ветрык і халадок маглі прынесці часовае палягчэнне. Калі жняю мучыла смага, калі перасыхала ў горле, дапамагала біклага або збанок з вадой ці з квасам, які квасілі з жытніх каласоў. Дзеля смаку ў ваду кідалі некалькі малінавых ягад або скарынку хлеба. Непадалёку ад маладой жняі вісела палатняная або лубяная калыска на трох калках з сучкамі, завешаная посцілкай ад гарачага сонца і ветру. Маладая маці брала на ніву грудное дзіця. Бралі з сабой і старэйшых дзяцей, якія тут жа няньчылі меншых, гулялі, падносілі снапы. Разам з дарослымі яны ставілі снапы ў мэндлікі (або бабкі); па 10 штук у кожны. Жыта жалі ўсе працаздольныя жанчыны (нават старыя), часам дапамагалі і мужчыны. Снапы вязалі перавясламі з дапамогай цуркі (палачкі) з разнымі ўзорамі.

Жніво — адказная тэрміновая гарачая пара (таксама «пільніца») і вялікая радасць; сялянка пажынала плён вялікай працы — ішоў новы хлеб. Праз тыдзень, праз два ржаное поле пакрывалася радамі мэндлікаў. Цэлы жытні «гарадок» узнікаў у полі.

Канец жытняга жніва абстаўлялі абрадамі — рабілі дажынкі. У нязжаты невялічкі клін клалі хлеб-соль, тройчы абжыналі вакол і жняя гукала: «З усіх палёў, з усіх двароў да мяне ў гумно спарнягу». Тут жа закопвалі кавалак хлеба з соллю і два каласкі ў зямлю, кажучы: «Зямелька дала — трэба і зямельцы даць». Гэта быў паклон зямельцы-маці.

Лязо сярпа абкручвалі каласкамі з саломай, каб не быў голы, і пры гэтым гаварылі: «Ты не парэзаў пальчык — заслужыў у мяне». Клалі яго на правае плячо і неслі дадому. Звычайна ў той дзень, як меркавалася кончыць жаць, запрашалі на дапамогу якую-небудзь жняю-суседку або кагосьці з радні. У заможнага гаспадара заўсёды жалі нанятыя жнеі. Канчаючы жаць жыта, жнеі спявалі дажыначныя песні, плялі з каласкоў жытні вянок, дабаўлялі да яго сініх валошак. Адзявалі гэты вянок маладой жанчыне, і ўсе ішлі да гаспадара, спяваючы песню «У нас сёння дажыначкі». У іншых песнях славілі плён новага ўраджаю. Сустрэўшы гаспадара, жнеі здымалі вянок з маладой жняі і адзявалі яго на галаву гаспадару. Той за добрую вестку і радасць павінен быў частаваць жней. Гаспадыня пякла для работніц яечню і шчодра іх частавала.

Дажынкі спраўлялі весела і гучна. Калі не засталося жыта ад мінулага года, то можна было для іх спячы хлеб з новага ўраджаю,

Зжалі жыта. Колькі было радасці ўсёй сям'і! Цяпер яны галадаць не будуць. Напэўна, таму і называецца яно «жыта», бо дае жыццё. Яно корміць хлебам, поіць квасам, саграваe сеннікам, саламянай страхой, корміць жывёлу саломай, апранае ў саламяныя капелюшы і ў ільняное адзенне (пасля жыта добра родзіць лён), ачышчае поле, глушачы пустазелле сваім буйным ростам, падкормлівае дзічыну сваёй рунню, упрыгожвае інтэр'ер хаты і г. д. Адным словам, жыта — гэта жыццё.

Праз некалькі дзён паспявалі яравыя (ячмень, пшаніца, авёс, ярыца, проса), пасля чарнела грэчка. Сяляне пшаніцы сеялі мала, бо была яна пераборлівая да глебы; лепш расла на землях паноў і кулакоў. Праўда, значныя плошчы адводзілі пад яе ў Слуцкім і Навагрудскім паветах, дзе глебы — урадлівыя.

Потым пачыналася яравое, або «аўсянае жніво». Яно прыходзілася на другую палавіну жніўня. Над нівай гучалі ярныя, або восеньскія, песні. У песнях гэтых пераважала тэма расстання маці з дачкой перад зімой і тэма замужжа. Шмат якія асеннія песні маюць вясельныя матывы, што сведчыла аб скорай пары шлюбаў.

Ідучы жаць ячмень, бралі з сабой у поле жытнюю салому на перавяслы.

Снапы ячменю, аўса і пшаніцы таксама састаўлялі ў мэндлікі — па 5 у кожным. Ставілі чатыры снапкі, а пяты клалі зверху, але шапкі, як у жытнім мэндліку, не рабілі.

У гэты час касілі гарох, авёс з вікай, канюшыну, цімафееўку. Прасушвалі іх на гумнішчы, на пярэплатах.

Вецер усё часцей і часцей зрывае лісце з дрэў. Не за гарамі восень. Ночы становяцца даўжэйшымі і халаднейшымі, а дні кара-

цейшымі. Гаспадар дбаў аб наступным ураджаі, рыхтаваў поле пад асеннюю сяўбу. Пад жыта заворвалі сіні лубін, папар або гарохавішча, зрэдку бульбянішча.

У жніўні жыта малацілі на сяўбу, веялі яго. Баранавалі ворыва.

Паплылі ў небе журавы, пажоўкла і пасыпалася лісце з дрэў — прыйшла восень. «Увосень — работ восем»,— гаварылі ў народзе. Рвалі каноплі, збіралі садавіну, убіралі гародніну, вывозілі гной пад яравыя, аралі зябліва.

Засольвалі ў бочках агуркі, а засмаленыя бочкі з агуркамі апускалі ў калодзежы, азёры, рэкі або закапвалі ў зямлю, каб даўжэй захаваць. Адначасна ішлі работы па ўборцы лёну.

Калі надыходзілі замаразкі, ссякалі і звозілі капусту. Вечарам яе шаткавалі, а часцей за ўсё яе квасілі цэлымі галоўкамі ў бочцы ці ў кубельчыку. Буракі таксама квасілі цэлымі або захоўвалі ў варыўні.

Уборкай бульбы заканчваліся палявыя работы; збор гародніны — ссяканнем і вывазкай капусты. Гаспадар пачынаў ацяпляць хату; з кастры і лісця рабіў прызбу. Так заканчваўся сельскагаспадарчы год.

Калі скоўвалася маразамі зямля, часцей і часцей стукалі цапы ў гумнах. Работу пачыналі да дня. Працавалі пры ліхтары. Малацілі ўдвух і ўтрох. Вечарам гаспадар веяў намалочанае збожжа.

Абмалочанае збожжа захоўвалі да патрэбы ў клеці, а ў сярэднія вякі дзе-нідзе нават у спецыяльных грушападобных ямах, сценкі якіх выкладзены бяростай і саломай.

Зразумела, збожжа апрацоўвалі. Жыта, пшаніцу і авёс малолі на муку ў жорнах, а ячмень, проса і грэчку таўклі ў ступе і атрымлівалі крупы. Семя лёну і канопляў таўклі ў ступе, адпарвалі і ў простым драўляным прыстасаванні пры дапамозе кліноў цiснулі алей. Пазней алей здабывалі з той жа сыравіны ў спецыяльных алейнях.

У старажытнасці беларусы былі земляробчым народам, гэта значыць, жылі пераважна з зямлі. Аднак вялікую ролю ў занятках нашых продкаў адыгрывала жывёлагадоўля. Збор ягад і грыбоў, рыбная лоўля, паляванне, бортніцтва — першабытныя заняткі, якія мелі другараднае значэнне.

## Валы, каровы ды коні

Развядзенне кароў давала магчымасць забяспечыць сям'ю малаком, сырам, маслам і скурай. Кожны сялянскі двор меў адну або некалькі кароў. Пастуха яны часцей наймалі на адзін сезон. Гэта быў аднавяскоўец, часцей за ўсё бедны чалавек, у якога было мала зямлі. Звычайна яго кармілі па чарзе ў кожнай хаце: за адну карову —

дзень. Пастух меў доўгія пугу і трубу, вырабленую з драўніны і бяросты. У лесе і раніцай у вёсцы ён трубіў, збіраючы статак. Трэск пугі, зычны крык на кароў, труба і торба пры баку — вось тыя прыкметы «вясковага палкоўніка». Кароў ганялі пасвіць на пашу, на поплаў, у лес, у хмызняк і на ўбраныя палеткі «на раніцу» і на ўвесь дзень, што залежала ад аддаленасці пашы і ад мясцовай традыцыі. Раніцай улетку статак выгналі ледзь свет, а ў 11-12 гадзін прыганялі дадому на полудзень. Удзень (калі гілі, авадні і мухі не даюць спакою скаціна стаяла ў хляве, а ў 15 гадзін выганялі ў поле і пасвілі дацямна.

Зімой кармілі кароў трасянкай (саломай з сенам), сечкай і радзей сенам. Сена часцей за ўсё клалі ў катухі валам і коням. Сечку (насечанаю салому з буракамі, змешаную з мякінай і вотрубамі) запарвалі ў выдзеўбаных жолабах або ў цэбры і давалі скаціне раніцай.

Скаціну даглядалі гаспадары і старыя. Раніцай гаспадыня паліла печ, у якой варыла ежу для сябе і для жывёлы. Дамашняя работа, звязаная з кармленнем сям'і, жывёл і птушкі, штодзённа паўтаралася тройчы: раніцай, апоўдні і ўвечары.

Каровы цяліліся звычайна зімою і вясною. У халодны час цялё бралі ў хату, адводзілі яму куток каля парога і паілі малаком.

Галоднай вясной і ўлетку не раз карова ратавала сялян ад голаду. Народ за гэта быў ёй вельмі ўдзячны.

У хлявах, апрача каровы, стаялі валы, авечкі, свінні. Валоў трымалі не столькі дзеля мяса і скуры, колькі для цяжкай работы: для ворыва і перавозкі грузаў. Пара валоў магла пацягнуць груз вагой 50-60 пудоў (800-860 кг). Здаецца, ёсць вялікая перавага пры ворыве коньмі, але ў валоў затое ёсць свая перавага перад коньмі. Утрыманне двух валоў абходзіцца танней, чым аднаго каня. Апрача таго, маларухомыя валы былі дужэйшыя і трывалейшыя за коней. Тады, калі зямлю аралі сахой, пара ціхіх валоў, запрэжаных у ярмо, была вельмі зручнай. Коні былі шпарчэйшыя на хаду і скарыстоўваліся часцей за ўсё для баранавання і хуткай язды, а таксама для ваеннай службы.

У пачатку XX ст., калі жалезны плуг выцесніў саху, валы сталі паступова замяняцца коньмі і ў палявой працы. Нашы продкі прысвяцілі валу і каню нямала народных песень. Гэта зразумела, бо конь пасля вала быў асноўнай цяглавай жывёлай. На каня глядзелі, як на кармільца. Прапажа каня была вялікай стратай у гаспадарцы, вялікім няшчасцем для сям'і. Багацце любога гаспадара вызначалася колькасцю коней, якая ў сваю чаргу залежала ад плошчы ворыўнай зямлі. Калі ў малазямельнага гаспадара, які меў некалькі вузкіх загонаў, не было каня, то прыходзілася наймаць яго за грошы або ісці да паноў і кулакоў. Каб набыць каня, сям'я прадавала апошнюю карову. Часам

на пакупку каня ішлі ўсе запасы і прыходзілася галадаць і пазычаць у людзей.

Бедныя разводзілі коз, якія замянялі ім карову. Каза давала хоць і мала малака, але пракарміць яе было лягчэй.

Усе сяляне трымалі авечак, без якіх абысціся было цяжка. Іх гадавалі дзеля воўны, аўчыны, сыру і мяса. З аўчын шылі кажухі, паўшубкі, шапкі, а з воўны білі валёнкі, атрымлівалі сукно. Авечак стрыглі два разы ў год.

У кожнай гаспадарцы гадавалі свіней. Яды для свіней хапала: дробная бульба, трава, пустазелле, бульбоўнік, здробненыя жалуды, змешаныя з варанай бульбай і мукой. Каб атрымаць мяса, кармілі свінню без мукі, а калі хацелі мець больш сала, дык бульбу абмешвалі мукой. Закалоць два парсюкі ў год (хай сабе і вялікая сям'я) мог рэдка які гаспадар.

Акрамя жывёлы, кожная сялянская сям'я трымала хатніх птушак. Перш за ўсё — курэй, радзей — гусей, качак. У кожным двары курэй было больш дзесятка. Штогод вясною гаспадыня клала яйкі пад квактуху, для якой рабілі з саломы гняздо ў саламянай лубцы. У халодныя поры года куры начавалі пад печчу, закрытыя варотцамі. Летняй парой іх кармілі мала, зімой — ільняной мякінай, змешанай з мукой, варанай бульбай, пад вясну — ячменем, каб раней пачалі несці яйкі. Куры несліся ў гнёздах, якія былі ў хлявах, гумнах або ў мякінніках.

На працягу стагоддзяў людзі набывалі багаты жыццёвы вопыт па догляду за жывёлай, атрымоўвалі пэўныя веды па ветэрынарыі. Кожны селянін ведаў, што карову небяспечна пасвіць па канюшыне: яе абдзімае. А што рабіць, калі яна наелася канюшыны? Напаіць яе настоем крушыны і вадзіць, не даваць стаяць.

Цялё, у якога расстроіўся жывот, трэба напаіць пойлам, прыгатаваным з адвару льнянога семя.

Існавала правіла па догляду за коньмі. Спачатку каня трэба напаіць вадой, а пасля даваць есці авёс, а не наадварот. Нельга для яго сечку абмешваць ржаной мукой, асабліва сухой. Разагрэтага, зморанага каня нельга паіць, асабліва халоднай вадой. Зімой такога каня трэба ўхутаць хоць чым цёплым, каб стоячы не прастыў.

Старэйшыя людзі навучалі малодшых, як найлепш даглядаць тую ці іншую жывёлу і птушку. Напрыклад, яны давалі такія парады. Каб добра елі свінні, ім у яду неабходна дабаўляць палыну. Курэй, якія вельмі часта нясуцца, трэба падкормліваць бітай шкарлупінай яек, раздробненым і здробненым фарфорам і апілкамі медзі.

Веды па народнай ветэрынарыі не страцілі свайго значэння і сёння. Яны паспяхова прымяняюцца жывёлаводамі.

У другой палавіне XX ст. шпарка змяняецца аблічча самой вёскі, іншым становіцца сельскі пейзаж, змяняюцца прылады працы. Праца на вёсцы ўсё больш набывае рысы індустрыяльнай. Ворыва, баранаванне і сяўба вядзецца трактарам, які замяніў некалькі коней. Калі конь за дзень узорваў 1 морг (0,7 га), то трактар «Беларусь» у 7-10 разоў больш, а трактар К-700 і таго больш. Пры гэтым вызваляецца вялікая колькасць рабочых рук. На хлебнай ніве ў час жніва замест жней і жняярак ідуць камбайны, якія адначасова жнуць і малоцяць, замяняючы ручную працу вялікай колькасці людзей. Камбайн «Ніва», напрыклад, за рабочы дзень зжынае такую плошчу збажыны, якая магла быць пад сілу 30-35 жнеям. Пры гэтым ён яшчэ і абмалочвае збажыну, замяняючы 20-30 малацьбітоў або каля 7-10 конных малатарняў.

Прасушанае і ачышчанае машынамі збожжа на грузавіках дастаўляецца на элеватары (дзяржаўныя збожжасховішчы). Адтуль яно паступае на млынкамбінат, з якога гатовую муку накіроўваюць на хлебазаводы, у пякарні і ў магазіны. З 60-х гг. у нас уведзена забеспячэнне сельскіх жыхароў хлебам праз магазіны.

Прымяненне мінеральных і арганічных угнаенняў (торфу і кампостаў), выкарыстанне агратэхнічнай навукі і перадавога вопыту прывяло да росту ўраджайнасці збожжавых (да 40 ц/га ў перадавых калгасах). Для параўнання скажам, што лепшыя землі Случчыны давалі ў 1898 г. аддачу ў 5-6 разоў больш таго, што высявалі. А гэта ў два разы менш, чым родзіць зямля сёння.

Укараненне шматпольных севазваротаў дало магчымасць не толькі ўзняць ураджай збожжавых, а і расшырыць плошчы кармавых культур. Наяўнасць кармоў вядзе да павелічэння пагалоўя жывёлы. Цяпер на Беларусі самая высокая шчыльнасць скаціны ў краіне: на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў прыходзіцца 82 галавы буйной рагатай жывёлы.

Вялікія статкі кароў, цялят, свіней і авечак утрымліваюцца цяпер на буйных фермах і жывёлагадоўчых комплексах. Для забеспячэння гарадоў птушыным мясам і яйкамі створаны птушкафабрыкі. Стварэнне буйных комплексаў дало магчымасць механізаваць працу жывёлаводаў і птушкаводаў.

## Па лясных сцежках, ля азёр і рэчак

З даўніх часоў славяне збіралі грыбы, ягады, арэхі; палявалі на курапатак, дзікіх качак і гусей, на дзікоў, ласёў, зайцаў, лісіц і ваўкоў. Менавіта гэтыя першабытныя заняткі паступова прывялі людзей да вядзення рознабаковай гаспадаркі. Са збіральніцтва калісьці развіліся земляробства, агародніцтва, садаводства і бортніцтва, а з палявання — жывёлагадоўля і птушкагадоўля.

Ягады і грыбы збіралі часцей за ўсё старыя, а жанчыны хадзілі ў лес толькі ў нядзелю або раніцай да работы. У лясах, на лугах, у хмызняках раслі чарніцы, буякі, суніцы, маліна, парэчкі, ажыны, смародзіна, брусніцы, журавіны, каліна, рабіна, ірга.

Бортніцтва — адна з пачатковых форм культурнага пчалярства. Некалі людзі збіралі мёд дзікіх пчол, якія вадзіліся ў дуплах. Спачатку дзікіх пчол знаходзілі выпадкова. Пераход старажытных людзей да аседласці прывёў іх да мэтанакіраванага развядзення пчол у борці — дупле, выдзеўбаным у жывым дрэве (ліпы, хвоі, дуба, асіны). У ствалах дрэў на вышыні звыш 4 м прабівалі цяслярскімі інструментамі доўжню (прамавугольную адтуліну) памерам 60X15 см і камеру борці. Доўжню шчыльна закрывалі і прыбівалі зверху тоўстую дошку. Для пчол прасвідроўвалі латок. У адным дрэве было некалькі борцей. У хвоі часам ссякалі вярхушку, каб расла ў таўшчыню. Борць падрыхтавана, але пчолы ў ёй могуць і не пасяліцца. Іх прываблівалі — апырсквалі борць настоем чабору, кветак і іншых духмяных траў, акурвалі верасам. Клалі частку сотаў на крыжачок (грабенку), які змяшчалі ў камеры.

Вялікую шкоду бортніцтву наносілі мядзведзі. Таму каля дрэва з борцямі (стайліны) ставілі пастку, у зямлю набівалі вострыя невысокія калкі. Гэта не заўсёды дапамагала. Тады на вышыні каля 4 м збівалі з дошак шырокі памост (адзёр, падкур), з вострымі калкамі ўніз, або рабілі яшчэ прасцей — мацавалі драўляную барану таксама ўніз зубамі. К адзёру яшчэ падвешвалі самабітку (дубовую калоду). Самабітка замінала мядзведзю дабрацца да борці і ён штурхаў яе лапай. Чым далей штурхаў яе, тым мацней яна біла яго. Калі ён зваліцца з дрэва, то праб'ецца на калы.

Збор мёду (мёдалаз) пачынаўся толькі пасля мядовага спаса 19 жніўня (стары стыль).

Да стайліны ставілі астроўку (яловы ствол з кароткімі сучкамі), якая служыла лесачкай. Замест яе часта скарыстоўвалі лязіва (прыстасаванне, сплеценае з лыка; пазней пяньковая ці скураная вяроўка з крукам). Пры дапамозе лязіва бортнік лёгка забіраўся на высокае

дрэва. Мёд забіралі праз доўжню. З адной борці іншы раз атрымлівалі да 2-3 пудоў мёду.

Бортніцтва давала не толькі мёд, але воск і праполе. Мёд і прапаліс прымяняліся для лячэння розных хвароб.

Бортніцтвам займаліся па ўсёй Беларусі. Бортніцтва ахоўвалася звычаёвым, а пазней і ўзаконеным правам Статута Вялікага княства Літоўскага (1588 г.). У сярэднія вякі бортнікі былі аб'яднаны ў бортныя цэхі.

Развіццё земляробства і высечка лясоў вялі да паступовай замены бортніцтва — калодачным, а пасля вынаходства рамачнага вулля — рамачным пчалярствам.

Калодачнае пчалярства доўгі час называлі бортніцтвам, бо розніца заключалася толькі ў адным; борць выдзёўбвалі ў жывым дрэве, а калодачны вулей — у спілаваным. Рухомую калоду можна было перавезці і паставіць куды хочаш, напрыклад, да грэчневага поля. Адначасова тым самым павялічвалі плён грэчневага кліна і вулля. Калодачнае пчалярства на поўдні рэспублікі захавалася да нашых дзён. Калі едзеш па Палессі, можна ўбачыць на дрэвах на ўзлеску, на соснах на могільніку, на бярозах і ліпах у вёсцы, у садах пад яблынямі дубовыя калоды (каля 1 м у папярэчніку). Калоды падымаюць на дрэвы з дапамогай кола (калаўрота), замацаванага на суках. Вясной пчаляры ставяць на дрэвах у садах і на лясных ускраінах вабікі (раёўнікі) — спецыяльныя вуллі для прываблівання новых пчаліных раёў.

Дзе-нідзе на ўсходзе і поўначы Беларусі да нядаўняга часу захоўваліся вуллі, сплеценыя з саломы і лазы. Апошнія абмазвалі глінай. Саламяныя і лазовыя вуллі на зіму пераносілі ў рублены імшанік. Калодачныя і рамачныя вуллі зімавалі на пасеках. Перавага рамачнага вулля (крышка) — у яго лёгкасці і зручнасці. У ім адразу размяшчаюць некалькі рамак. Калі трэба было дастаць мёд, рамкі вымалі вельмі проста. Таксама можна было лёгка вызначыць, колькі мёду трэба пакінуць пчолам на падкорм. У наш час шмат якія калгасы і саўгасы маюць у садах свае пасекі, на якіх працуюць вопытныя пчаляры. Улетку яны вывозяць крышкі на грэчневае поле або канюшыну, каб павялічыць збор мёду.

Паляўніцтва і рыбная лоўля і на тэрыторыі Беларусі вядомы з каменнага веку. Тады яны былі асноўным спосабам здабычы сродкаў існавання — ежы і вопраткі. З развіццём земляробства і жывёла-гадоўлі паляванне і рыбалоўства станавіліся дапаможнымі галінамі. У часы паншчыны гэтыя заняткі належалі да прыгонных павіннасцей сялян. У феадальны перыяд прадукты палявання, а ў XIX ст. і

прадукты рыбнай лоўлі становяцца таварам. У асяроддзі ж эксплуатататараў паляванне было толькі забавай.

Здабычай паляўнічых былі зубры, ласі, дзікі, казулі, зайцы, ваўкі, мядзведзі, бабры, куніцы, выдры, качкі, цецерукі, глушцы, рабчыкі, курапаткі і іншыя. Звяр'я і птушак некалі было шмат. У выніку драпежніцкага палявання зубры, бабры, ласі амаль поўнасцю былі знішчаны. Толькі дзякуючы клопатам Савецкай дзяржавы аб ахове прыроды гэтыя рэдкія звяры ўзноўлены і ўзяты пад ахову.

На змену старажытным паляўнічым прыладам (дубіна і палка, разнастайныя пасткі і самаловы) прыйшлі самастрэл і стрэльба. У паляванні скарыстоўвалі нязменнага сябра і памочніка — сабаку. Некаторыя спосабы палявання былі вельмі адмысловыя, аб чым сведчыць тое, што паляўнічыя добра ведалі павадкі звяроў. На ласінай сцежцы, што праходзіла праз балота, ставілі маленькія ступы. Звер пападаў нагой у ступу і загразаў у балоце.

Для лоўлі дзіка, лася, воўка і мядзведзя капалі глыбокую яму і маскіравалі галлём, а наверх яе клалі прынаду. Напрыклад, для прываблівання ваўка або лісы вешалі кавалак мяса або пеўня. Драпежнік хацеў паласавацца і правальваўся ў яму. Рабілі вельмі хітрую ваўкаўню — спіралепадобны калідор з калоў, якія перапляталіся лазовымі пруткамі. Пастка мела форму круга. У цэнтры круга была прынада. Выйсці ваўку заміналі калкі і дзверы, якія зачыняліся пры спробе знайсці выхад. Рабілі ваўкаўні і дашчатыя, болей простыя. Да ствала дрэва прыбівалі дошку, уверсе якой меліся выразы, якія звужаліся ўнізе. Імкненне ваўка паласавацца мясам канчалася для яго трагічна — лапа зацiскалася ў разрэзе.

Птушак і некаторых звяроў лавілі пры дапамозе сіла (пятлі), якое рабілі з конскага воласу і тонкага дроту. Качак лавілі на кручок вуды і нератам. Шост вуды ўбівалі ў дно вадаёма, да яго прывязвалася леска з кручком. Нерат і кручок нажыўлялі прынадай.

Яшчэ болей разнастайнымі былі прылады рыбнай лоўлі. На Беларусі багата рэчак і рэк, мноства азёраў і сажалак. Рыбы здабывалася столькі, што прадавалі не толькі на тутэйшых рынках, але і за мяжу. Для лоўлі рыбы ўжываліся разнастайныя пяньковыя сеткі (баўтуха, невад, браднік, крыга), стаўныя сеткавыя лавушкі, а таксама снасці на драўляным каркасе, якія маюць лейкападобныя перагародкі і адрозніваюцца сваёй канструкцыяй (паплаў, нерат, буч, венцер, мярэжа). На Палессі зімой лавілі ўюноў каробкай (або рэшатам), якая мела выгляд рэшата. Дно яе было сплецена з дубцоў, лубу; крыху канічнай формы з горлам.

Было шмат рухомых лавушак, якія не мелі перагародак. Іх падымалі тады, як рыба заходзіла ў камеры або пападала ў пастку ці на кручок. Такімі былі таптуха, скрыпка, карабкі. З кручковых прымянялі вуду, перамёт (шнур з некалькімі кручкамі) і восці. Рыбу захоўвалі ў час лоўлі ў плеценых кошыках- рыбніках. Рухомыя лавушкі і некаторыя сеткі трэба было перасоўваць у вадзе, ідучы ўброд або плывучы па рацэ. Раней плавалі на выдзеўбаных са ствалоў тоўстых дрэў чаўнах. Пазней човен замяніла дашча- тая лодка (чайка), якая мае плоскае дно. Па рэках перамяшчаліся і на плытах, збітых з бярвенняў.

Каля рэк і азёр будавалі часовае прыстанішча — рыбацкі курэнь (будан) з дошак і галля, які меў форму ўсечанага конуса. Уверсе была адтуліна, праз якую выходзіў дым, калі раскладвалі ўнутры касцёр. Курэнь уцяплялі лісцем, сенам, дзёрнам.

Цяпер у адпаведнасці з Законам аб ахове прыроды, паляванне і рыбная лоўля праводзяцца ў пэўныя сезоны. Некаторыя снасці рыбнай лоўлі забаронены, у іншых заменены матэрыял (пянька і волас — капронам). Шмат якія традыцыйныя прылады выкарыстоўваюцца ў прамысловым і аматарскім рыбалоўстве. На тэрыторыі нашай рэспублікі разводзяць і ловяць рыбу дзяржаўныя рыбгасы. Некаторыя калгасы і саўгасы (напрыклад, саўгас «Любань» Вілейскага раёна) разводзяць карпаў, карасёў і іншых рыб у штучных сажалках і прыродных вадаёмах.

## Хлеб наш надзённы

На беларускай зямлі спрадвеку сеялі збожжавыя і бабовыя (гарох, боб, фасолю). З сярэдзіны XVIII ст. садзяць бульбу. Бульба паступова заваявала ў нас славу другога хлеба і не раз ратавала сялян у галодную вясну.

Нашы продкі падзялялі ежу на посную (раслінную) і скаромную (мясную). Яе спажыванне ў штодзённым ужытку вызначалася дастаткам, сезонам, поснымі, скаромнымі і святочнымі днямі. У нядзельныя і святочныя дні сялянская ежа была скаромнай і багацейшай, тады як у буднія і асабліва ў посныя дні (серада і пятніца) была абавязкова — вегетарыянскай. Агульная колькасць посных дзён у годзе вагалася ад 178 да 199. Аслабленне рэлігійных вераванняў і рост дастатку людзей прыводзілі да скарачэння колькасці посных дзён.

Якія ж стравы варылі нашы бабулі? Перш за ўсё пяклі ржаны хлеб. Па наяўнасці хлеба і яго якасці меркавалі аб дабрабыце працоўнай сям'і. Хлеб — самая дарагая, важная і неабходная страва. Адно-

сіны да яго людзей выказаны ў шэрагу прыказак і прымавак: «Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе», «Хлеб у доме — гаспадар, на працы — друг, у дарозе — таварыш», «Хлеб над усім пануе», «Без хлеба яда — да парога хада», «Хлеб сам сябе носіць». Аднак, той хлеб не раўня сучаснаму. Старыя дзяды, якія некалі жылі ў беднаце, уздыхнуць сёння і скажуць: «Не дай бог есці той хлеб!» Чаму ж так аб хлебе? Быў ён розных гатункаў і меў неаднолькавы выгляд (каравай, пірог, градавы, паловы і мякінны). Каравай — вясельны здобны хлеб. Хлеб з чыстай, прасеянай на рэшаце жытняй мукі бednякі называлі пірагом. На каравай і пірог часта скарыстоўвалі пшанічную муку. К вясне запасы жыта ў засеках змяншаліся, прыходзілася пячы градавы хлеб з непрасеянай ржаной мукі, або паловы. Цеста гэтага хлеба складалася з дзвюх частак: ржаной і ячменнай мукі. Ячменную магла замяніць грэчневая ці аўсяная. Апошні хлеб вельмі скора чарсцвеў. Праўда, калі чарсцвее хлеб (а пяклі хлеб на тыдзень, а то і два), то гаспадыня яго асвяжала. Булку аблівала вадой і зноў садзіла ў печ.

Бядняцкім сем'ям у неўрадлівыя гады даводзілася есці хлеб з мякінай ці з паловаю гірсы. У ржаное цеста сыпалі прасеяную аўсяную, грэчневую або жытнюю мякіну. Здаралася, што ў галодныя гады ў хлеб дабаўлялі муку жалудоў, шчаўе, лебяду, асот, крапіву, нават кару. Гаварылі: «Не бяда, што ў хлебе лебяда — тады бяда, калі хлеба няма». Галодныя гады выхоўвалі ў людзей павагу да хлеба і беражлівасць. Калі дзіця ўпусціла з рук кавалак хлеба, дык таго прымушалі падняць яго з зямлі і пацалаваць.

Выпечцы хлеба надавалася асаблівая ўвага. Яго якасць часта залежала ад пякарскага вопыту гаспадыні. Кожная сям'я мела сваю дзяжу. Яе рэдка і неахвотна пазычалі, каб не сапсаваць.

Муку для хлеба расчынялі ў дзяжы на цёплай вадзе. Для рошчыны клалі скарынку хлеба. У цёплым месцы рошчына кісла адну ноч, а раніцай, калі палілася ў печы, яе замешвалі мукой. Праз нейкі час цеста падыходзіла. Спод печы вымяталі памялом. На драўляную лапату, якую высцілалі кляновым, дубовым або капусным лісцем, клалі камок цеста, прыдавалі яму авальную форму. Памачыўшы рукі, булку прыгладжвалі, іншы раз па краю пальцамі рабілі ўмяціны (упрыгожвалі) і садзілі на спод печы. Апоўдні хлеб спякаўся, яго даставалі з печы, давалі астыць, а пасля выносілі ў варыўню або ў камору. Лісце для выпечкі хлеба нарыхтоўвалі ўвосень амаль на цэлы год.

Шырока ўжываліся і розныя замяняльнікі хлеба — скавароднікі, сачні, бліны. Скавароднікі пяклі на скаварадзе з кіслага цеста. Сачні былі танчэйшыя за скавароднікі, але таўсцейшыя за бліны. У цеста

сачней дабаўлялі тоўчаную бульбу, яблыкі, ягады. Такую ляпёшку з квасам было зручна ўзяць з сабой у поле, на сенажаць, на пасту.

Шмат пілі квасу ў час «пільніцы» і на вяселлях. Акрамя хлебнага, рыхтавалі бярозавы (бярозавік) і кляновы (кляновік) квасы.

На Беларусі бытавала цура. Кавалкі хлеба ці сухары крышылі ў ваду, разбаўлялі квасам. Цурой называлі таксама пакрышаны хлеб у падсалоджаную ваду або малако.

У посныя дні сяляне часта ўжывалі саладуху (кулагу). Жытнюю муку разводзілі вадою, ставілі ў цяпло да наступнага дня, каб засаладзела і ўкісла. Пасля варылі на слабым агні і астуджвалі. Так атрымоўвалі саладуху.

З першых страў найбольш пашырана была зацірка. Яе варылі з мукі, а пасля забельвалі малаком або заскварвалі. Усюды сяляне елі крупнікі. Крупнік — вадкая страва з круп, якую забельвалі малаком, а зрэдку засквярвалі. З круп варылі на вадзе кашы. Іх запраўлялі маслам, салам, мясам. Незапраўленыя кашы елі з малаком. Кашы атрымлівалі з варанай бульбы (камы), з гарбуза (гарбузнік). Ужывалі ячневую або прасяную кашы. У посныя дні бульбу і кашы елі з алеем або з канапляным ці макавым малаком, а ў скаромныя дні іх запраўлялі маслам або салам.

Вельмі часта ўзімку і вясною варылі квашаную капусту і асобна бульбу з лупінамі. Бульбу лупілі і елі ў прыкуску з капустай. Капусту засквярвалі, у посныя дні запраўлялі алеем.

У харчаванні шырока скарыстоўвалася і іншая агародніна. З буракоў варылі боршч (буракі) і бацвінне. Бацвінне, падаючы на стол, запраўлялі цыбуляй, смятанай. У летні час сяляне рыхтавалі бацвінне, якое елі цёплае і халоднае (халаднік). У халаднік для прыправы крышылі маленькі агурок або пустыя кветкі агуркоў. Улетку і ўвосень часта ўжывалі цыбулю (са смятанай), агуркі, гарбузы, яблыкі, грушы.

З аўсянай мукі рыхтавалі мілту (талакно), квасілі і варылі кісель «жур», які часта елі з падсалоджаным макавым або канапляным малаком. Каб атрымаць мілту, авёс адпарвалі ў печы ў гаршку, пасля на печы сушылі, таўклі ў ступе і малолі на муку. Гэту муку засыпалі ў халодную ваду, размешвалі. Цеста гусцела, станавілася, як каша. Елі мілту падсалоджаную або падсоленую як посную страву.

З бабовых культур варылі вадкія стравы: гарох, фасолю, боб, якія забельвалі малаком, а таксама рабілі гарохавую або бабовую кашу. Гарох адмочвалі і пражылі на патэльні або адварвалі, прасушвалі і елі, як ласунак. Улетку гарох варылі ў стручках. З гароху рабілі нават кісель.

З прадуктаў збіральніцтва былі пашыраны такія стравы, як шчаўе, халаднік са шчаўя, грыбны суп і салёныя грыбы.

З бульбы нашы продкі ўмелі прыгатаваць вялікую колькасць страў. Гэта: бабка і дранікі, бліны і каша, запяканка і клецкі і іншыя. Бульба ў нейкім разе замяняла хлеб. Варылі яе штодзённа з лупінамі. Калі бульбу варылі без лупін, то яе салілі і называлі «са- лонка». Елі з сырой квашанай капустай або з агуркамі, з прэсным або кіслым малаком. У мінулым у буднія дні не было такога рэзкага падзелу на першыя, другія стравы і дэсерт, бо прадуктаў не хапала. У святочныя дні на снеданне пяклі самыя разнастайныя бліны: кіслыя жытнія, пшанічныя, дранікі, грэцкія, аўсяныя. Елі іх са смятанай, маслам або печаным салам. У многіх месцах гатавалі мачанку з тварагу: у расцёрты тварог дабаўлялі малако, смятану і соль.

Найсмачнейшай святочнай стравай была верашчака, якую варылі з сала, каўбасы, костачак мяса. Пераважна на святы адварвалі або смажылі тушкі парасяці, труса або свойскай птушкі. Найлепшай закускай прызнаваліся кумпяк і паляндвіца — гэта засоленае прыпраўленае засушанае або вэнджанае мяса. Рэдка якое свята абходзілася без сялянскай каўбасы, студзеня, сырніцы і яечні.

Сяляне ўжывалі шмат малочных прадуктаў: малако (кіслае і прэснае), смятану, тварог, масла, сыр. З тварагу рабілі клінковы сыр, сушылі яго. З сушанага сыру варылі на малацэ сырніцу. Яечню пяклі ў печы з яек і малака.

Стравы з рыбы часцей за ўсё елі на паўночным захадзе і поўдні Беларусі, дзе шмат азёраў і рэк.

Сучасныя беларускія кулінары творча скарыстоўваюць дасягненні нацыянальнай народнай кухні. Вякамі ў нашага народа выпрацоўваўся пэўны этыкет і культура прыёму ежы. Малодшыя члены сям'і ніколі не садзіліся за стол раней старэйшых. А ў гасцях садзіліся за стол толькі тады, калі добра папросяць гаспадары. За сталом лішніх размоў не вялі. У сям'і з дзяцінства выхоўвалі беражлівасць да хлеба і да эканомнага расходавання ежы. У той жа час нашы продкі былі шчодрыя да гасцей і заўсёды рады ім, што адлюстравана ў прымаўцы: «Адзін з'еш хоць вала — адна хвала, а як станеш з людзьмі есць — будзеш мець чэсць». Шчодрасць нашага народа відна ў захаванні колішняга звычаю запрашаць на свежыну суседзяў і родзічаў.

У сялянскай хаце хлеб з соллю, завернуты ў абрус, ляжаў заўсёды на стале. Чужому чалавеку, які выпадкова трапіў у хату, прапанавалі паесці, хоць можа і бедную страву. Пры гэтым гаварылі: «Чым хата багата, тым і рада». Назаўтра незнаёмаму чалавеку або госцю давалі

снедаць і праводзілі ў дарогу, пажадаўшы яму лепшага: «У добры час». Шчодра сустракалі гасцей, якія, вядома, ведалі такт і меру. Хай сабе яны былі і з блізкай радні, але даўжэй трох дзён стараліся не затрымлівацца. У народзе наконт гэтага ёсць прыказка: «Госць на першы дзень — золата, на другі — серабро, на трэці — медзь: паснедаў і дамоў едзь».

## Лес — наш лепшы сябар

Беларускія вёскі спрадвеку туліліся да рэк, азёр і дарог. Лес часта падыходзіў да самых паселішчаў. Гэта прыроднае асяроддзе зрабіла ўплыў на характар заняткаў і духоўную культуру сялян.

Самыя старажытныя матэрыялы, якія скарыстоўвае чалавек,— драўніна, камень, косці, гліна. Іх выкарыстоўвалі і нашы продкі. Лес даўней спажываўся не толькі роўны, але і крывы, асабліва сукаваты, з развілінамі. Маладое сукаватае дрэўца з развілінамі — гэта ўжо гатовая саха. Сякера і нож, сук і саха (рагуля) выручалі селяніна і ў часе будаўніцтва, і ў штодзённым жыцці. Саху і сук выкарыстоўвалі для вырабу прылад працы і прадметаў побыту.

Самай старажытнай прыладай працы была драўляная або каменная матыка. Драўляную матыку выраблялі вельмі проста: бралі тонкі ствол з шырокім суком або з двума сучкамі і прывязвалі да яго клінападобны камень. Так атрымлівалі каменную матыку. Матыкай рыхлілі зямлю. З часам матыка ўдасканальвалася. На яе аснове былі зроблены саха і барана-сукаватка.

Барану-сукаватку рабілі з верхавіны елкі. Пазней бралі кавалак ствала елкі з сукамі, сукі завострывалі, ствол расколвалі, затым плахі з сукамі звязвалі ракітавымі дубцамі — атрымліваўся смык. Смыкам, як і баранoй-сукаваткай, баранавалі зямлю пасля яе апрацоўкі матыкай або сахой.

Самай старажытнай драўлянай канструкцыяй быў сук — другая прылада працы пасля палкі. Палка з суком вельмі шырока стала выкарыстоўвацца ў побыце. Гэта і качарга, і посах, і крук, і вешалка. Палка, якая з суком на канцы ўтварае востры вугал, з цягам часу ператварылася ў бусак — крук для скідвання гною з калёс, кручкі для каромыслаў і кручкі для віцця вяровак. З маладой яліны рабілі акоссе для касы, а сук, які ўтвараў са ствалом прамы вугал, служыў ручкай. З верхавін елачак выразалі калатоўку, мутоўку, прасніцу да калаўрота. Ствалы елкі з двума сукамі, якія размешчаны на адным крузе, спатрэбіліся для вырабу аднашчылiннай церніцы і стана кроснаў. Сукі пры гэтым служылі ножкамі. Плаха з двума сукамі, якія размяшчаліся

на адной падоўжанай лініі пад прамым вуглом да ствала, выкарыстоўвалася як падстаўка для вітушкі. Для вырабу ручкі вітушкі зноў скарыстоўвалі сук.

Рассоха не атрымала такога шырокага прымянення, што залежала ад асаблівасці яе канструкцыі. Аднак менавіта з рассохі рабілі некалі саху — прыладу для ворыва. Для вырабу сахі з дышлам падбіралі нятоўсты ствол з суком або з тоўстым каранём, які мае развіліну. Сучкі развіліны станавіліся ручкамі, а ствол — дышлам. Да асновы ручак прымацоўвалі рычаг, які ўнізе таксама меў рассоху.

Рассоха — асноўная частка жураўля, з дапамогай якога чэрпаюць ваду са студні. Гэта прыстасаванне было простым, зручным і дасканалым. Ім пачалі карыстацца народы старажытнага свету, а ў некаторых беларускіх вёсках ім карыстаюцца і цяпер.

Рассохі як прылады працы на таку і ў хаце неабходныя і ў наш час. Гэта драўляныя вілы, вілкі-тра- суны з трыма зубамі, грабаўе — вілкі для грабляў, вілкі для печы.

У XIX ст., як і ў сярэднія вякі, усё неабходнае выраблялася ў вёсцы самімі сялянамі і вельмі рэдка што куплялася. Звычайна сяляне куплялі соль і вырабы з металу, пазней — шкло для акон і газу для лямп. Прадметы быту і прылады працы пераважалі драўляныя, бо лесу хапала ўсюды. Для вырабу інструментаў скарыстоўвалі медзь, бронзу, жалеза. Посуд выраблялі таксама не толькі з дрэва, але і з гліны, саломы, карэння.

Нямала цярпення, настойлівасці і спрыту неабходна было праявіць, каб невялікі кавалак вольхі або асіны ператварыўся ў міску, конаўку або коўшык. Выразаць гэта ўмеў кожны вясковы мужчына. Кожны падлетак, кожны хлопец вучыўся ад бацькоў і простаму і складанаму майстэрству вырабляць прадметы быту (лыжкі, расчоскі, грабяні і г. д.) і прылады працы.

Ні адна сям'я не абыходзілася без начовак і апалушак. Выраблялся яны аднолькава. Бралі тоўсты ствол вольхі або асіны, расшчэплівалі яго папалам і цяслом рабілі неабходнае паглыбленне. У начоўках мылі бялізну, купалі дзяцей, а здаралася, што ў іх мыліся і дарослыя. У апалушках правейвалі зерне, крупы. У малых начовачках нарыхтоўвалі мяса для каўбас, націралі на тарцы бульбяное цеста для бабкі і бліноў.

Сталовы посуд быў выключна драўляны і гліняны. Міскі, чашкі, палонікі, лыжкі, коўшыкі выразалі сяляне няхітрымі прыстасаваннямі.

Нашых сучаснікаў здзіўляе вялікая пасуда са ствалоў дрэў, якая яшчэ дзе-нідзе захавалася на Палессі. Для вырабу такога посуду

шукалі тоўстае дрэва з вялікім дуплом, затым яго спілоўвалі ці ссякалі і адразалі калоду такой вышыні, якой будзе кадаўб. У дупло накладвалі вугаль, сасновыя шышкі і выпальвалі яшчэ большае дупло. Пасля прамывалі, апрацоўвалі інструментамі (скобляй і разцом). Пасля гэтага ўстаўлялі круглае дно з дошак — і кадаўб гатовы. Гэтыя вырабы ў залежнасці ад прызначэння мелі і пэўную назву. Для захавання ліпавага мёду — ліпаўка, збожжа («дабра») — кадаўб і кадка, адзення — шкафчык, солі — салонка. Такія кадаўбы маглі мець самае шырокае прызначэнне, але часцей станавіліся ліпаўкай для мёду.

Драўніна — прывабны і вельмі даступны для селяніна матэрыял. На простым драўляным такарным станку, які мела далёка не кожная сям'я, рабілі міскі, ступкі, каўшы.

У часе вандровак па вёсках этнографы часам знаходзяць сялібы, дзе ў істопках, каморах, свірнах і сенцах захоўваецца шмат розных бандарных вырабаў. Вось біклага, у якой дастаўлялі на ніву ў гарачы час ваду, квас. У істопцы стаіць дзяжа, у якой квасілі хлебнае цеста. Дзяжу рабілі не абы з якога дрэва, а бралі клёпкі дубовыя, кляновыя, зрэдку сасновыя.

Бандарны посуд выраблялі з клёпак — трапецападобных ці авальных плашак. Сцягвалі іх вакол днішча драўлянымі, пазней металічнымі абручамі. Абручы рабілі з дубу, вязу, ляшчыны. На выраб клёпак і днішча скарыстоўвалі драўніну дуба, сасны, асіны, елкі, вольхі. Зрабіць клёпачны посуд было нялёгка. Трэба было мець навыкі, спецыяльныя інструменты: варштат, затор, цыркуль, спуск, лісічкі, нацягуш, чакуху (драўляны малаток). Гэтай справай займаліся ў вольны час ад працы на зямлі сяляне-ўмельцы — бондары. Яны майстравалі балеі, цэбры, жлукты, бойкі, дайніцы, асьмінкі, гарнцы і іншыя.

Прызначэнне некаторых бандарных вырабаў для недасведчанага сучасніка невядома. Напрыклад, балея выконвала тую ж ролю, што і начоўкі. У кублах захоўвалі або сала, або адзенне. З кублам нявеста ішла замуж. Бандарны посуд мог выкарыстоўвацца для хатніх патрэб. Напрыклад, конаўка — для піцця вады, жлукта — для лужэння попелам бялізны, асьміна, шаснастка, чацвяртак, паўасьмінка, гарнец — для вымярэння ёмкасці, бочка, судзіна і кадушка — для захавання прадуктаў. Некаторыя сасуды мелі двайное прызначэнне: служылі для захавання прадуктаў і для вымярэння вадкасцей і сыпучых цел.

Ва ўсе гады лес карміў людзей — даваў заработак. Беззямельныя і малазямельныя сяляне займаліся ляснымі промысламі: лесараспрацоўчым, цяслярным, сталярным, бандарным, стальмашным, плытагонным, смалакурным, гонтавым, мачальным і г. д. Да нашага часу

захавалася шмат паселішчаў з назвамі, скіраванымі на занятак іх жыхароў (Смольня, Куранец і іншыя). У мінулым на тэрыторыі Беларусі было шмат смольняў (смалакурняў). У другой палове XIX ст. у лясных паветах Мінскай губерні смалу гналі ў простых зямельных ямах (майданах) і цагляных печах. І ў тым і ў другім выпадку сыравінай былі смалякі. У майданах звычайна смалакуры атрымлівалі смалу за адны суткі. У цагляных печах выраблялі, апрача драўніннага вугалю і смалы, яшчэ і шкіпінар. Печ працавала ад загрузкі да выхаду канчатковай прадукцыі тры дні. Шкіпінар знаходзіў шырокае прымяненне ў народнай медыцыне, вугаль — у кузнях, а смала ішла для вырабу - каніфолі, на чыгуначны і водны транспарт і на продаж. На суднах і плытах смалу і вугаль з Мінскай губерні сплаўлялі па Прыпяці і Дняпры.

Дзёгаць гналі з бяросты на смольнях або проста ў ямах. Так, у пачатку нашага стагоддзя ў вёсцы Краі, каля Івацэвічаў, гэтай справай займалася не адна сям'я. Для гэтага ў яму засыпалі бяросту, якую нарыхтоўвалі ў чэрвені, запальвалі і засыпалі зямлёю. Пад разорку або трубу, з якой павінен быў выцякаць дзёгаць, падстаўлялі бочку або цэбар. З 1 т бяросты можна атрымаць 150-200 кг дзёгцю. Ён ішоў для змазкі скуранога абутку, а таксама для вырабу калёснай мазі.

Ужо ў другой палавіне XIX ст. у фальварках і прадпрыемствах драўніна скарыстоўвалася для вырабу гонты, якую шчапалі з невялікіх калодачак ручным спосабам. Сяляне доўгі час гонту скарыстоўвалі менш. Яны крылі стрэхі пераважна саломай.

Такім чынам, лес — вялікае прыроднае багацце, якое трэба берагчы і захоўваць. З яго рабілі хаты, ён саграваў, служыў сыравінай, матэрыялам, даваў работу, карміў, быў прытулкам у часе ліхалецця, ачышчаў паветра.

## Рыхтуй летам сані, а зімой — калёсы...

Паўвека таму назад у гарады і далёкія мястэчкі хадзілі босыя пешшу, басанож. Толькі калі прыходзілася даставіць на далёкі кірмаш цяжкі тавар (збожжа, свінню, дровы і г. д.), звярталіся да калёс ці саней. Якімі ж былі транспартныя сродкі? Яны былі драўлянымі і адрозніваліся сваімі кузавамі і прызначэннем; у залежнасці ад гэтага мелі розную назву. Ні адзін гаспадар не абыходзіўся ўлетку без калёс, а ўзімку — без саней. Бярвенні дастаўлялі на расцяжцы, а ў снежную пару — на карах (лесавозах) з падсанкамі. Сена, салому і снапы

перавозілі на вялікім возе з высокімі драбінамі (мажары), а ўзімку — на развалках. Па лясных дарогах ездзілі на двухколках. Вялікія калёсы з будай называлі фурай. Невялікі груз саматугам перавозілі на калясках.

У аглоблі запрагалі каня, а калі да восі мацаваўся дышаль, дык запрагалі двух коней або валоў. Да хамута прышпільваліся рамяні (набедрыкі). Святочныя набедрыкі былі вельмі прыгожыя. Дарэчы, у тыя далёкія часы атосы былі вяровачныя або звітыя з лазы. Лейцы і аброць таксама былі з вяроўкі. Калі запрагалі аднаго вала, яму на шыю адзявалі ярмо на аднаго і мацавалі яго да аглобляў. Калёсы былі поўнасцю драўляныя і неакаваныя. Восі рабілі тоўстыя, а колы былі гнутыя з аднаго вобада і не акоўваліся жалезнымі шынамі.

Сані рыхтавалі летам, загадзя. Адсюль і ўзнікла прымаўка: «Рыхтуй летам сані, а зімой — калёсы». Сані зрабіць было прасцей, чым калёсы. На палазы падбіралі маладыя дрэвы з коранем (капанікі) або гнулі з брускоў, папярэдне распарыўшы іх. У палазы ставілі стойкі, якія злучалі або дубовымі вязамі або перакладзінамі. У старажытнасці стойкамі служылі сукі.

Выраб калёс быў болей складаны. Іх рабіў стэльмах па заказу і на продаж. Ён выточваў калодку на такарным станку, выдзёўбваў гняздо для спіц. Паклаўшы калодку на сталюгу, устаўляў і раўняў спіцы. Затым падганяў да спіц вобад, свідраваў у ім адпаведна адтуліну і насаджваў яго на спіцы. Пасля прабу- раўліваў адтуліну ў калодцы кола для восі, устаўляў чыгунную ўтулку. У пазнейшы час абады сталі рабіць з асобных частак бруска (звянчакоў).

Восі доўгі час былі тоўстымі дубовымі, а колы — вялікіх памераў. Восі калёсаў перад далёкай паездкай змазвалі спецыяльнай калёснай маззю або дзёгцем. Адсюль і прымаўка: «Не памажаш — не паедзеш». Нязмазаныя калёсы цярліся, утвараючы непрыемны гук, псаваліся і былі цяжкімі на хаду. Калёсную мазь варылі з дзёгцю і тлушчу скаціны.

Толькі ў пачатку XX ст. калёсы пачалі акоўваць. Восі сталі жалезнымі і на абады пачалі нацягваць шыны. Калі ў XIX ст. калёсы рабіў адзін стэльмах, то ў XX ст. зробленыя калёсы дастаўлялі ў кузню, дзе іх акоўваў каваль. У наш час драўляныя колы замянілі на гумавыя.

Язда на калёсах па аднаму маршруту пакідала за сабой след — дзве каляіны, якія хутка станавіліся дарогай. Ад вёскі да вёскі цягнулася праз поле і лес прасёлачная дарога — дзве глыбокія і вузкія каляіны, па якіх каціліся колы або палазы саней. Праз балота дарога ішла па грэблі. Грэблю рабілі так: гацілі гаці галлём і палкамі, пры-

сыпалі зямлёй. Улетку тут калёсы не толькі трэсла, але і кідала з боку ў бок.

У мінулым стагоддзі на Беларусі было многа балот. Напрыклад, у 1860-х гг. на дарозе ад Смаргоні да вёскі Нароча, што стаіць над ракой Нарачанкай, на адлегласці ў 22 вярсты было 13 мастоў, 8 гацей і паромная пераправа на Віліі. Не лепшымі былі і іншыя дарогі. Аднак з канца XVIII — пачатку XIX ст. гасцінцы, якія звязвалі паміж сабой гарады, паступова паляпшаюцца, абсаджваюцца паабапал бярозкамі, брукуюцца. Брук на дарогах стаў замяняцца асфальтным пакрыццём толькі ў другой палавіне XX ст., а дзе-нідзе ён захоўваецца і цяпер.

На паштовых трактах праз 17-22 вярсты знаходзілася паштовая станцыя (яма), на якой было некалькі Фурманаў. Кожны фурман меў воз, у які былі запрэжаны пара або тройка коней. Яны перавозілі не толькі пошту, але і пасажыраў за пэўную плату. Да дугі каня прычэплівалі званок або на шыю каня адзявалі шалгуны, якія сваім звонам паведамлялі аб прыбыцці экіпажа. Звычайна пры паштовай станцыі быў заезд- ны дом (карчма), у якім можна было абагрэцца, пад'есці і пераначаваць. Буйныя паштовыя станцыі знаходзіліся на скрыжаванні шляхоў. Такімі былі Сверžжань (каля Стаўбцоў), Сіняўка, Хатынічы (каля Ганцавіч), Любча і іншыя.

Паэты называюць нашу Беларусь сінявокай, і гэта слушна заўважана. Незлічоная колькасць азёр размешчана на поўначы і поўдні рэспублікі. У розных кірунках і напрамках цякуць малыя і вялікія рэкі. Такія азёры, як Нарач, Асвейскае, Браслаўскія, Лукомльскае, Чырвонае (Князь-возера) і рэкі Днепр, Бярэзіна, Прыпяць, Заходняя Дзвіна, Нёман, Шчара, былі вялікімі перашкодамі для сухапутных зносін, але ў той жа час і самі станавіліся выдатнымі воднымі шляхамі. Па Дняпру яшчэ ў IX-X стст. праходзіў славуты шлях «з варагаў у грэкі».

У XIX ст. скарыстоўваліся і штучныя каналы (Бярэзінскі, Агінскі і Дняпроўска-Бугскі). Яны злучалі басейн Дняпра з басейнамі Заходняй Дзвіны, Нёмана і Віслы. Па рэках і каналах сплаўлялі лес, вазілі і іншыя неабходныя тавары. Шмат на якіх рэках можна было ўбачыць плыты, чаўны, баркі і паўбаркі і г. д. З ранняй вясны і да позняй восені плылі па рэках Беларусі плыты — звязкі бярвенняў і «моль» — спушчаныя на ваду асобныя бярвенні. Плыт уключаў 170 бярвенняў. На адным з плытоў ставілі домік. У ім рабілі печку, каб маглі абагрэцца плытагоны і варыць сабе ежу. Тут жа быў прыказчык з рабочымі. На кожным плыту было не менш 5 чалавек.

Плыты прымяняліся да 40-х гг. XX ст. Іншыя грузы і тавары перавозілі на суднах. Суднабудаванне вядома ў нас з часоў Кіеўскай Русі. Самае старажытнае судна — струг; на ім плавалі яшчэ ў IX ст.

Вельмі старажытнымі і найбольш распаўсюджанымі сярод сялянства былі чаўны-лодкі, якія выдзёўбвалі са ствала асіны, сасны, елкі або дубу. На тэрыторыі Беларусі яны вядомы з часоў неаліту. У Пінскім музеі захоўваецца човен, якому каля 7 тыс. гадоў. Нёманскія чаўны адрозніваліся ад палескіх сваімі тупымі насамі. Цяжка сабе ўявіць былое жыццё палешука без чаўна, калі вясною ў час разводдзя вёска або асобныя хаты аказваюцца на востраве. У такіх выпадках адзіны транспарт — водны. Прымяняліся і камягі — лодкі, выдзеўбаныя, як карыта; па баках былі прымацаваны пласціны-крылы для ўстойлівасці.

Сярод другіх відаў лодак адзначым шугалею (човен з нашытымі дашчатымі бартамі), кару (каркасную лодку з ліпавай кары) і пазнейшыя дашчаныя чайкі. Усе яны кіраваліся і рухаліся вяслом або шастом.

Акрамя вёслаў, на суднах (віцінах, шкутах, байдаках, берлінах) прымяняліся парусы. Па Прыляці, Дняпры, Нёмане і Заходняй Дзвіне супраць цячэння цягнулі баркі прыгонныя бурлакі. Некаторыя бурлакі за сезон хадзілі ў Херсон, Кралеўцы (цяпер Калінінград), Рыгу. На рэках былі прыстані, ад якіх тавары адпраўляліся гужавым транспартам на валах і конях па гасцінцах і паштовых трактах (бальшаках). Такой важнай прыстанню ў вярхоўі Нёмана быў Свержань, каля Стаўбцоў, дзе перасякаліся два паштовыя шляхі з водным.

Спецыфічным грузапасажырскім суднам быў паром, які вядомы на Беларусі з ранняга сярэднявечча. Паром пастаянны плывучы мост на 2-3 дубовых чаўнах — «дубах», які перамяшчаўся ад берага да берага. Кіраваўся паром з дапамогай шастоў або вёслаў; пазней — пры дапамозе каната на блоку. Дзе-нідзе паромы выкарыстоўваюцца і цяпер, але змянілася некалькі яго канструкцыя. «Дубы» заменены металічнымі пантонамі. Буксіруецца паром катэрам.

Цяпер па рэках ходзяць судны на падводных крылах, цеплаходы і маторныя лодкі. Шмат лодак знаходзіцца ў асабістым карыстанні. Наогул, для жыхароў, што жывуць каля рэк і азёр, лодка — вельмі патрэбная рэч.

## Чароўныя рукі

Яшчэ ў першай палавіне першага тысячагоддзя рамяство пачало аддзяляцца ад земляробства. Паступова ўзнікалі спецыяльныя рамес-

ніцкія пасёлкі, якія абносіліся моцнай драўлянай сцяной — станавіліся гарадамі. Ужо ў XII ст. было вядома каля 60 відаў рамёстваў, а ў XVI ст. іх стала каля 200. Некаторыя рамеснікі заставаліся жыць у вёсцы, апрацоўвалі зямлю, час ад часу вырабляючы тыя ці іншыя рэчы для аднавяскоўцаў.

Толькі малазямелле і беззямелле вымушала іх у сярэднія вякі і пазней, у новы час, зрабіць рамяство асноўным заняткам (промыслам) — спосабам для свайго існавання. Да рэвалюцыі амаль у кожнай вёсцы быў адзін або некалькі рамеснікаў, промыслам жа займаліся радзей.

На вёсцы майстравыя людзі (бондары, стэльмахі, ганчары, гарбары, кавалі, шаўцы, краўцы і іншыя) былі акружаны заслужанай павагай. Зробленыя імі рэчы ішлі на продаж аднасяльчанам і прыезджым. Здаралася, што ў вёсцы было некалькі бондараў або некалькі ганчароў, тады ім даводзілася вывозіць свой тавар на далёкі рынак, у мястэчка або горад. Часам свой тавар яны вазілі па вёсках і прадавалі яго з воза.

На краі вёскі, пры дарозе, стаяла кузня. Адтуль даносіўся стук молата і перазвон жалеза. Гэта каваль каваў метал. Ён вырабляў скобы або цвікі, адкоўваў вось для калёсаў ці палазы для саней. Каваль вырабляў падковы і падкоўваў коней, рабіў конскія жалезныя путы і замкі для іх; ён нацягваў шыны на колы калёсаў.

Ён жа каваў і зубіў сярпы, варыў сякеры і малаткі, адкоўваў нажы і нажніцы, нарогі да сахі і плуга, завесы для дзвярэй і вілкі — адным словам, вырабляў і рамантаваў жалезныя прадметы, якія былі неабходны ў сельскай гаспадарцы і ў быце. Кавалі, як і гарбары, ведалі тайну ў сваёй справе і хавалі яе ад людзей, каб не з'явіліся ў іх канкурэнты. Інакш скараціўся б іх прыбытак. На каваля вучыліся за гроты ў местачковага або вопытнага вясковага майстра.

Зварка жалеза і яго загартоўка — адказныя справы каваля. Жалеза разагравалі распаленым вугалем да высокай тэмпературы ў горне, падаючы паветра кузнечным ручным мехам. Драўняны вугаль прывозілі са смалакурняў, якіх хапала ў нашым краі.

У мінулым стагоддзі шмат якія прылады працы, а таксама прадметы побыту былі жалезныя або медныя. Медныя рэчы выраблялі меднікі, бляхары, а жалезныя, вядома,— кавалі. Кузні былі ў большасці вёсак. Кавальская справа ўзнікла вельмі даўно і развівалася побач з гутніцтвам (першабытнай выплаўкай жалеза). На тэрыторыі Беларусі здаўна здабывалі жалеза з балотнай руды. Балотная руда залягае ў зямлі іншы раз слаямі або на дне балот і азёраў. Яе разведвалі ў вадаёме вострым шастом, а затым даставалі чарпаком.

Атрыманую руду сушылі, здрабнялі, а пасля варылі жалеза ў домніцы (печы, складзенай з камянёў або цаглін). У домніцу засыпалі слаямі руду і драўняны вугаль. Для павышэння тэмпературы (да 400-800°) у домніцу нагняталі паветра мяхамі. Адбываўся працэс аднаўлення жалеза з вокіслаў. Вязкае жалеза сцякала ў ніжнюю частку печы. Пасля кожнай варкі жалеза печ прыходзілася ламаць. Атрыманую крыцу жалеза бралі кляшчамі і старанна адкоўвалі на кавадле. Для атрымання сталі жалеза некалькі разоў пераплаўлялі, кожны раз з большай колькасцю драўнянага вугалю. Аб існаваўшых некалькіх такіх домніцах на тэрыторыі нашай рэспублікі яскрава сведчаць назвы некаторых населеных пунктаў: Рудня, Старая Рудня, Гута. Яшчэ ў мінулым стагоддзі існавалі на Беларусі заводы (у Налібоках і Вішневе Ашмянскага павета), у якіх жалеза варылі з балотнай руды.

Да XVI ст. адзіным спосабам апрацоўкі жалеза было ручное каванне. Да 80-х гг. XIX ст. вясковыя кузні належалі грамадзе і былі агульнай уласнасцю, а кавалі працавалі па найму. Пазней каваль меў кузню ва ўласным карыстанні і працаваў па заказу і на продаж, адначасова ведучы сваю гаспадарку і працуючы на зямлі. Ён выраблаў і рамантаваў прадметы за пэўную плату збожжам або грашыма. Яго праца цанілася дорага, аб чым гавораць прыказкі: «У каваля, што стук, то грыўня», «У каваля рукі ў золаце».

Сучасныя калгасныя і саўгасныя кузні непазнавальна пераабсталяваны (мяхі заменены электрычнымі кампрэсарамі), але тэхналогія апрацоўкі жалеза засталася тая ж самая. Значна паменшыўся асартымент вырабаў каваля. Аднак і цяпер каваль на вёсцы вельмі неабходны спецыяліст. Ён рамантуе сельскагаспадарчую тэхніку. Побач з ім працуюць электразваршчык і слесар.

Наша беларуская зямля заўсёды была багата на таленавітых і майстравых людзей. Беларускія рамеснікі (збройнікі, керамісты, майстры залатых і сярэбраных спраў, будаўнікі) яшчэ ў XVII ст. славіліся сваім майстэрствам за межамі свайго краю. Вялікая колькасць іх працавала ў Рускай дзяржаве, у прыватнасці ў Маскве.

Займацца рамяством іншы раз прымушала не схільнасць да гэтай працы, а малазямелле, якое прывучала прытрымлівацца ў жыцці прыказкі: «Не багі гаршкі лепяць, а людзі». Такі селянін ператвараў частку сваёй жылой хаты ў прымітыўную ганчарную майстэрню. Бадай, асноўнай незамяняльнай прыладай працы ганчара, якая служыла для фармавання вырабаў, з'яўляўся ганчарны круг. Ён уяўляў сабой насаджаныя на вертыкальную вось адзін або два дыскі, якія круцілі рукамі ці нагамі. Адсюль і назвы кругоў: ручны, нажны. Дыскі рабілі з бярозы, сасны, а вось — з дубу або жалеза. Ганчары

спецыялізаваліся пераважна на выпуску посуду, які вырабляўся галоўным чынам на нажным крузе. Нажны круг быў вядомы ўсходнім славянам на мяжы IX-X стст.

Пры рабоце на нажным крузе ганчар нагамі вярцеў ніжні круг, а пры гэтым круціўся і верхні, злучаны з ніжнім стрыжнем. На верхнім крузе майстар рукамі надаваў нарыхтоўцы неабходную форму. Няроўнасці паверхні вырабу згладжваў дошчачкай (шпаркай). Сыры посуд ён аддзяляў ад плоскасці круга пры дапамозе тонкай зрэзкі (вяроўкі або дроту) і ставіў яго для прасушкі на спецыяльныя лавы. Праз некалькі дзён посуд абпальвалі ў спецыяльнай печы-горне ці гартаўне. Ганчары выраблялі посуд на продаж. Найбольшым попытам карысталіся гаршкі, макатры і збанкі, без якіх не магла абысціся ні адна гаспадыня.

Просты абпалены посуд атрымоўваў натуральны колер гліны. Белагліняны колер мела гараднян- ская кераміка (Столінскі раён), якая аздаблялася паяскамі і хвалістымі рыскамі. У іншых майстроў з'явіліся свае мясцовыя стылі аздаблення і свая тэхналогія вырабу керамічнага посуду. Напрыклад, чорна-глянцавага колеру пружанская і поразаўская кераміка дасягаецца своеасаблівым гартаваннем — дымленнем.

Каб збанкі, кубкі (кварты), міскі, латушкі і талеркі мелі больш прывабны выгляд, іншыя ганчары перад абпальваннем пакрывалі іх зялёнай, рудай або жоўтай палівай (глазуравалі), а таксама аздаблялі паверхню посуду кружочкамі, кропкамі, штрыхамі, геаметрычным або раслінным арнаментам. Сакрэт палівы быў у руках майстра, які абмазваў выраб дзёгцем або няквашаным цестам і пасыпаў парашком, што складаўся з молатага пяску і змельчанага перапаленага свінцу, а таксама волава або медзі.

Тэхналогія вырабу Гаршкоў была некалькі іншая. У перамешаную мяккую гліну дабаўлялі молатую жарству, якую атрымлівалі з перапаленых на печцы ў лазні каменняў. Знутры іх пакрывалі асобай палівай. Паазерскія ганчары вымалі распаленыя гаршкі з печы шчыпцамі і апускалі ў рэдкую рашчыну. Так загартоўваўся посуд. Старажытныя ганчары выраблялі гліняны посуд стужкавым спосабам. Гэта калі абыходзіліся без ганчарнага круга. З замешанай гліны ляпілі неабходнай даўжыні стужку. Злучыўшы яе канцы, атрымлівалі цыліндр. Да яго зверху прырошчвалі яшчэ адзін такі ж самы цыліндр, прымацоўвалі плоскі кружок-дно, і паступова ўтвараўся сасуд.

Ганчары Паазер'я доўгі час прымянялі і другі стужачны спосаб. Яны апляталі сыры гліняны посуд берасцянымі стужкамі пасля абпальвання яго ў горнах. Такі посуд захаваўся да нашага часу.

Керамічныя вырабы вядомы на тэрыторыі Беларусі з часоў неаліту. Яны трывала ўвайшлі ў побыт насельніцтва і да сярэдзіны XX ст. знаходзілі шырокае прымяненне. Тут: кубак, гляк, крынка, рынка (нагадвала і замяняла патэльню), друшляк, адстойнік, макацёр, бойка, спарышы (гаршкі-блізняты), рукамыйнік, вазон (гаршчок для кветак), мядніца (міса ёмістасцю 8-12 л), комін (круглая труба), кафля (плітка для абліцоўкі печаў і сцен) і, нарэшце, дзіцячыя цацкі (конікі, пеўнікі, качкі, бараны, сабачкі).

Асартымент ганчарных вырабаў вызначаўся гаспадарчымі патрэбамі: кухонная — для прыгатавання ежы, сталовая — для падачы на стол, а таксама для захавання і транспарціроўкі прадуктаў і ежы (гляк, спарыш, стаўбун, гарлач, карчага). Некаторы посуд мае доўгую гісторыю. Напрыклад, карчагі для захавання збожжа і вадкасці вядомы з X-XII стст. Зразумела, у мінулым вырабы з гліны на Беларусі былі вельмі пашыраны. У вёсках, дзе была блізка гліна, выраблялі і цэглу.

За глінай хадзіць далёка не трэба было: яе хапала ўсюды. У XVII — першай палавіне XIX ст. вытворчасць ганчарных вырабаў на Беларусі дасягнула росквіту. Цэнтрамі ганчарства былі Бабруйск, Барысаў, Гарадок, Глыбокае, Івянец, Пружаны, Поразава, Капыль, Мір, Магілёў, Мінск, Нясвіж, Полацк, Сіняўка і іншыя. Асаблівага росквіту на Беларусі дасягнулі майстры па вырабу кафлі. На знешнім баку кафлі былі размаляваны рэльефныя кветкі, звяры, птушкі або геаметрычны арнамент на непразрыстых белых, сініх, зялёна-блакітных, жоўтых фонах. Беларуская кафля славілася ўжо ў XVII ст.; ёй аздаблялі палацы і культавыя пабудовы ў Маскве. У свой час асаблівую папулярнасць набыла віцебская, гродзенская, мсціслаўская, заслаўская, івянецкая і капыльская кафлі, якія адрозніваліся сваім мастацкім аздабленнем.

Да нашага часу захаваліся рамесніцкія цэнтры ганчарства. Гэта: Івянец, а таксама г. п. Поразава Свіслацкага, вёска Гарадная Столінскага, вёска Га- невічы Клецкага раёнаў.

У кожным з гэтых цэнтраў свой стыль, формы і асартымент вырабаў, сваё пакрыццё палівай, афармленне дэкору. Стары майстар з Пружан А. Такарэўскі вырабляў посуд чорналашчонай керамікі, ганчары з вёскі Гараднай А. Вячорка і П. Гмыра лепяць бела-ружовыя збанкі і слоікі, а Ф. Вашчыла з вёскі Ганевічы — рабы посуд. Сакрэт апошняга майстра заключаецца ў тым, што ён апускае распалены ў печы посуд у раствор пшанічнай, жытняй або грэцкай мукі. Посуд загартоўваецца, мука запаўняе поры і расфарбоўвае сценкі ў плямы. Так утвараецца рабая, абварная або плямістая кераміка. Каб быць

ганчаром, для гэтага патрэбны не толькі навык, спрыт, умельства, але і мастацкае чуццё, густ. Івянецкі майстар М. Звярко стварае посуд, які мае воблік жывёл: зубра, барана, мядзведзя. Пры гэтым вырабам як бы надаецца гумарыстычная форма.

У наш час у сувязі з пашырэннем металаў ганчарны посуд страціў былое значэнне. Аднак сучасная вытворчасць ганчарных вырабаў пастаўлена на прамысловую аснову. Ганчарныя вырабы часта ў якасці сувеніраў выпускаюць прадпрыемствы Міністэрства мясцовай прамысловасці, Барысаўскі камбінат мастацкіх вырабаў, Івянецкая фабрыка мастацкай керамікі і вышыўкі, некаторыя камбінаты будаўнічых матэрыялаў і іншыя. Абліцовачную кафляную плітку вырабляе Мінскае вытворчае аб'яднанне будаўнічых матэрыялаў і Аршанскі камбінат сілікатных вырабаў.

### Умелі ж плесці

Ніводная вясковая сям'я не абыходзілася без плеценых вырабаў: каробак, кашоў, вярэнек, корабаў, кашалёў, сявенек, лубак, калыскі і г. д. У XIX ст. і асабліва ў сярэднія вякі селянін рэдка звяртаўся ў краму, рэдка бываў і на кірмашы. Пераважна панавала натуральная гаспадарка, тавара-прамысловыя адносіны былі развіты слаба. Тады ўсё неабходнае для быту і для вядзення гаспадаркі выраблялася ўручную. Плялі з каранёў, бяросты, лазы, лубу, лыка, саломы і чароту ў кожнай сям'і. Гэтаму няхітраму промыслу вучыліся з дзяцінства. Дзеці плялі падражаючы дарослым. Пляценне і мачальны промысел на Беларусі вядомы з даўніх часоў, аб чым сведчаць археалагічныя знаходкі адбіткаў рагож на днішчах глінянага посуду. Пра выкарыстанне лубу і рагожы ёсць звесткі і ў летапісах. Плеценымі прадметамі было зручна карыстацца: яны — лёгкія і няломкія (не разбіваюцца пры ўдарах). Выраб іх даволі просты, не патрабаваў складаных прыстасаванняў, але віды тэхнікі пляцення былі самыя розныя (спіральная, крыжавая, раброва-крыжавая, квадратная і ажурная). Самыя разнастайныя ёмкасці выраблялі сяляне ў вольны ад палявых работ час. Улетку яны плялі з лазы або сасновых карэнняў адмысловыя кошыкі, кашы і каробкі; зімой прыносілі ў хату куль добротнай саломы і некалькі ляшчын — з іх за пару вечароў селянін мог скруціць з саламяных жгуткоў сявеньку або якую-небудзь каробку.

Выраб вялікіх саламяных корабаў, у якіх захоўвалі муку, збожжа, адзенне патрабаваў больш часу. Параўнальна проста зрабіць саламяны капялюш. Спаяатку з жытняй саломы, узяўшы 3-4 саломіны, плялі пляцёнку (вузкую тонкую палоску), якую скручвалі ў скру-

ткі. Такая пляцёнка ў скрутках захоўвалася доўга. З яе, скарыстоўваючы спіральную тэхніку, лёгка і хутка сшывалі залацістыя лёгкія капелюшы або картузы. Насілі звычайна ўлетку.

Берасцяныя вярэнькі — тагачасныя саквояжы і сумкі, сплеценыя з сасновых карэнняў кошычкі і збаны для збору ягад, сплеценыя з лазы кузавы для вазоў (кашы і паўкашкі) і лазовыя калыскі мог зрабіць далёка не кожны селянін. Для іх вырабу патрэбна было пэўнае ўмельства і навыкі. Асноўным інструментам пры рабоце быў нож. Зразумела, ужываліся і іншыя няхітрыя інструменты, як, напрыклад, гнутае шыла (качадык) і пад- плятанкі пры пляценні лыкавых або лазовых лапцей.

У пазнейшы час у некаторых вёсках вязалі кручком пяньковыя лапці або з вырабленай скуры шылі «хадакі». Лапці выраблялі ў кожнай сям'і, мелі іх некалькі пра запас. Гэты танны абутак меў і сваю перавагу: лёгкасць у носцы, прапускаў паветра (не прэлі ногі).

Нават цяпер некаторыя палешукі ў часе касьбы на балоце аддаюць перавагу лыкавым лапцям, а не гумавым ботам.

Пляценне з саломы, лыка і лазы ў наш час набыло характар дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Мачальны промысел заключаўся ў нарыхтоўцы лыка, лубу, рагож і мачалы. Каб атрымаць лыка, у маі і чэрвені ссякалі ліпу, здымалі кару, скручвалі ў трубу — «скалу» і затаплялі ў «мачышчах» — ручаях, рэчках, балотах і сажалках, дзе яна мокла да канца верасня. Тады вымалі і раздзялялі на шырокія лыкавыя стужкі. Затым на стругальні — брусе з трыма нажамі разразалі іх на вузкія палоскі — лычкі. Для атрымання рагож, сетак для рэшата тыя палоскі снавалі на сноўніцы, якая па сваёй форме нагадвала шырокія дзіцячыя санкі. Лычкі прывязвалі да папярэчын, а другі канец працягвалі праз спецыяльнае бёрда. Адна палоска прапускалася праз вочка зубка, а другая — паміж зубкоў. Пад'ём бёрда ствараў зеў асновы. Спецыяльным чаўнаком, які больш нагадваў доўгую і шырокую драўляную іголку, чым чоўнік, працягваўся ўток — вузкія палоскі лыка. Сноўніца і бёрда складалі просты ткацкі станок (кросны), на якім ткалі сетку.

Для вырабу рэшата патрэбна бічая, якую шчапалі стругам (дзюрам) з сырога сасновага бервяна ў любы час года. Склаўшы па тры шчапы, гнулі іх на круглай калодцы (бабе) і высушвалі ў абручы. Сетку прышывалі да бічаі маладзенькім дубчыкам ліпы, а для гэтага пракалвалі дзірачку плоскай швайкай. Лыкавыя сеткі служылі дном Рэшатаў.

Калі сплесці лапці было адносна проста, то зусім складаная справа — зрабіць рэшата. Іх выраб быў промыслам, якім займаліся

толькі ў некаторых вёсках. Там іх рабілі не толькі для сябе, а і для продажу. Попыт на іх быў добры, бо без 2-3 рэшатаў не абыходзілася ні адна сялянская гаспадарка. Рэшата з густой сеткай служыла для прасейвання мукі, а радзейшая сетка скарыстоўвалася для ачысткі зерня пасля правявання. Да нядаўняга часу славілася вёска Камень на Капыльшчыне вырабам рэшат. Выраблялі іх там у кожнай хаце, а прадавалі на кірмашах у Слуцку, Капылі, Грозаве, Снове і нават у Мінску.

Мачальны промысел спыніўся яшчэ раней — у пачатку нашага стагоддзя, у выніку знішчэння ліпавых лясоў. Ткацтва са стужкі (спатры) асіны захавалася толькі на Глускім мэблевым камбінаце Магілёўскай вобласці. Спатра ідзе на выраб капелюшоў і ўсцілак абутку.

## На воўну авец знойдзецца і кравец

Апрацоўка скуры, воўны, футры вядома з глыбокай старажытнасці. На яе аснове ўзнікла некалькі рамёстваў, а людзі, якія займаліся імі, атрымлівалі ў народзе назву па спецыяльнасці. Кушняры і аўчыннікі выраблялі футра і аўчыну, скуру для абутку апрацоўвалі гарбары, рымары выраблялі і шылі збрую, шапавалы валілі сукно і валёнкі, шаўцы шылі скураны абутак, а краўцы — кажухі.

Працэс вырабу скуры жывёл уключае некалькі аперацый. Спачатку скуру прамывалі, залівалі растворам гашанай вапны, а пасля тупым нажом або касой ачышчалі яе ад клятчаткі, мяздрылі. Гэта быў падрыхтоўчы працэс, а асноўны ўключаў квашанне, змякчэнне і дубленне. Бралі драўляны чан, разводзілі хлебны квас з жытняй мукі і апускалі туды скуру. Квасілі два тыдні. Затым прамывалі, прасушвалі, мялі мялам. У завяршэнне размякчалі палкай. Нарэшце, дубілі ў адвары лазовай, дубовай і крушыннай кары.

Прасмаленай ільняной або суконнай ніткай шыў кравец з такой скуры чаравікі або боты; рымары выраблялі збрую (аброць, набедрыкі, хамут і іншае).

Выраб аўчын напамінае выраб скуры, але аўчыну кладуць у чан або драўлянае вядро, звярнуўшы яе воўнай у сярэдзіну, каб не папсаваць. Пасля мяздрэння аўчына звонку станавілася белай. У XIX ст. з такіх аўчын шылі кажухі. Пазней дубілі аўчыны і нават фарбавалі ў жоўты колер, для чаго адварвалі кару з вярбы або барбарысу. На поўдні Беларусі скуры і аўчыны афарбоўвалі ў чырвоны колер. Дзеля гэтага рабілі з гліны цэглу, абпальвалі яе, потым таўклі на парашок і ім націралі вырабленую скуру. З аўчын краўцы шылі кажухі, паўшубкі і шапкі.

Сукно выраблялі ў кожным сялянскім двары з воўны. Воўну ачышчалі, часалі, пралі на ніткі і ткалі, а пасля валілі сукно. Самы просты спосаб валення сукна — кіпячэнне і біццё пранікам або таўчэнне ў ступе, пры гэтым яго паліваюць кіпятком. Сукно выраблялі белага (адпаведна з белай воўны), шэрага і чорнага колераў. З яго шылі будзённае і святочнае сялянскае адзенне.

Воўну, сукно часта чарнілі — для чаго рыхтавалі розныя адвары. Напрыклад, адвар вольхі або бярозы ў сумесі з журавінным сокам афарбоўваў сукно ў чорны колер. Бліскучае чорнае сукно атрымаецца тады, калі адмачыць яго ў адвары кары дубу, а пасля — у балотнай іржы. На Мазыршчыне, каб афарбаваць сукно ў зялёны колер, яго варылі ў адвары кветак і карэння зяноўца з дабаўленнем солі, а ў Пухавіцкім, Асіповіцкім, Полацкім раёнах, каб афарбаваць у чырвоны, яго мачылі ў адвары зялёнкі і бярозавага ліста. Зразумела, у народзе існавала мноства спосабаў афарбоўкі сукна.

## Ад сініх кветак да кашуль дзетак

Бадай, ні адна сельскагаспадарчая культура ў Беларусі не патрабуе столькі працы, як лён. І ў той жа час яна такая неабходная. Вырошчванню лёну надавалася асаблівая ўвага.

Наконт сяўбы лёну, як і іншых найбольш важных культур, існавала шмат розных рытуалаў.

Семя на поле не везлі, а неслі ў чыстым абрусе, каб лён быў чыстым. Сам гаспадар — сейбіт — таксама быў у чыстай кашулі. У час сяўбы забаранялася весці гутарку з сустрэчным. У некаторых выпадках пры сяўбе кажуць: «Светлы дзень, як вакно — радзіся добрае валакно».

Насенне лёну разы два ачышчалі пры дапамозе суровага палатна або некалькі разоў прасейвалі.

Сеялі лён на полі, дзе раней расло жыта або канюшына, а таксама па бульбянішчу і па дзірвану. Палолі лён два-тры разы.

Праз 12-15 тыдняў пасля сяўбы лён можна рваць. Цярэбленне лёну прыпадала на жнівень — верасень — час, калі сажнуць збажыну. Лён вязалі ў маленькія снапкі і ставілі ў невялікія кучкі па 4-5 снапкоў. Малацілі яго ў гумне на таку пранікам. Абмалот веялі.

Пасля сцяблы лёну слалі на лужку для вылежкі. Калі прыкметы паказвалі на сухую восень, дык лён слалі на нізкіх месцах лугу або на нізінах паміж жытоў. Вылежваўся лён каля 6 тыдняў, а мок ад 9 да 14 дзён. Падняты або вымачаны лён захоўваўся ў гумне да пэўнай пары.

Заканчваюцца палявыя работы. Ужо выкапана бульба. Усё часцей і часцей чуецца громкі ляскат на загуменні. Гэта труць або мнуць лён. Звычайна гэта рабілі талакой. Лён і пяньку церлі на нескладаных прыстасаваннях — мяльніцах і церніцах. Самая старажытная па форме церніца рабілася з вываpaці без слупка.

Пацёрты і мяты лён трапалі траплом — выбівалі кастрыцу, што засталася яшчэ ў валакне. У час трапання горшая частка валакна разам з кастрой валіцца на зямлю. Пакуллем заканапачвалі ліштву акон. Ачысціўшы пакулле ад кастры, прадуць ніткі на радно. Кастра скарыстоўвалася для засыпкі прызбаў і акон. Вось чаму ад слова «кастра» паходзіць назва месяца «кастрычнік» — час, калі труць і трэплюць лён.

Надыходзяць халады. Выкапаны ўжо буракі, рэдзька, бручка, ссечана капуста. Побач з тынкаваннем капусты пачынаецца часанне валакна. Чэшуць яго на драўляных або жалезных грэбнях. У выніку драння валакна (кудзелі) атрымліваюцца два яго гатункі — зрэб'е і кужаль. Зрэб'е — валакно лепшай якасці, чым радно, але горшае за кужаль. Зрэб'е на рынак пастyпала пад назваю кудзеля. Са зрэб'я пралі зрэбныя, а з кужалю — кужэльныя ніткі, а, выткаўшы іх, адпаведна атрымлівалі зрэбнае і кужэльнае палатно. Намёты ткалі з яшчэ больш тонкага кужалю, які атрымоўваўся пасля часання кужалю шчоткай. Шчотку рабілі з доўгай шчаціны.

Ніткі пралі не толькі з кудзелі, але з пянькі і воўны. Пяньку атрымлівалі з канапель. Трасту канапель вымочвалі ў сажалках і рэчках, а пасля сушылі, церлі на церніцах і трапалі.

Зімою, часткова ўвосень і вясною кабеты і дзяўчаты пралі кудзелю. Самая простая і найбольш старадаўняя прылада працы для прадзення — верацяно. Па некалькі верацён мела кожная сям'я. Іх выточвалі з бярозы амаль у кожнай хаце. Каб верацяно мела больш прывабны выгляд, яго ўпрыгожвалі нарэзкай, прапальваннем дротам кругоў вакол ручкі верацяна. Кудзелю прымацоўвалі да прасніцы.

Хоць зімой дні былі кароткія, рабочы дзень цягнуўся доўга — ад Ю да 14 гадзін. Папрадухі пралі ўдзень, увечары і раніцай. Даволі часта па некалькі папрадух сыходзіліся ў хату на вячоркі. Відаць, рабілі так дзеля таго, каб весялей было прасці, каб можна было доўгімі зімовымі вечарамі за работай пры святле лучыны паспяваць песні, расказаць навіны, паслухаць казачніка. Для гэтага выбіралася прасторная звонкая хата, якая гудзела, як вулей, ад жаночых галасоў. Дзяўчаты збіраліся асобна ад замужніх папрадух. У іх былі свае інтарэсы, свая кампанія. Да іх наведваліся хлопцы, часта прыводзілі

вясковага музыку. У такі вечар прадзіва пакідалі на другі дзень; моладзь весялілася, спявала, скакала.

У пачатку XX ст. з'явіўся калаўрот. Прадукцыйнасць працы на калаўроце была ў 2-3 разы большая, чым на верацяне, але яшчэ ў 20-х гг. XX ст. яны былі рэдкімі па прычыне іх дарагавізны. Калаўроты былі прывазныя; а некаторыя кабеты, асабліва бабулі, трымаліся старой традыцыі прадзення.

Напрадзеныя на верацяне ніткі сушылі на печы, а размотвалі яго пры дапамозе няхітрага прыстасавання — стаўка. Ставок — драўляны брусок з дугой. На матавілах ніткі маталі ў маткі і на вітушку, вірком — на клубок.

У канцы зімы жанчыны пачыналі снаваць кросны. Снаванне кроснаў, хоць і простая на першы погляд праца, але адказная. Каб зрабіць ніткі больш мяккімі і моцнымі, з асновай трэба яшчэ нямала папрацаваць. Яе параць гадзіны 4-8 у лузе, крухмаляць і пасля таўкуць у ступе або выбіваюць пранікам, расцягваюць, сушаць, і, нарэшце, плятуць у пляцёнку. Параць «у лузе»? Мы не памыліліся. У лузе, а не на лузе. Луг — гэта шчолачная вадкасць, якая атрымоўваецца, калі кіпяток прапусціць праз слой попелу. Луг знішчае тлустасць і робіць ніткі мяккімі. Дарэчы, у лузе нашы продкі адпарвалі бялізну, мылі галаву.

Каб з асновы атрымаць тканіну, неабходны ткацкі станок — сошкі, варштат, кросны. Даволі цікавыя кросны старажытнай канструкцыі знойдзены нядаўна ў вёсцы Будча Ганцавіцкага і ў вёсцы Іванаўшчына Мазырскага раёнаў. І ўсё ж і ў іх былі папярэднікі. Гэта было нешта падобнае на той варштат для ткання лубяных сетак для Рэшатаў.

Нарэшце кросны настроены. Цяпер можна браць і чаўнок. Сяляне ўмелі вырабляць ільняное палатно розных гатункаў (радно, зрэб'е, кужаль, намёты). Гатунак палатна залежаў ад якасці нітак, а ніткі — ад той кудзелі, з якой яны спрадзены. Розныя гатункі палатна знаходзілі рознае прымяненне ў гаспадарцы. Радно ішло на выраб мяшкоў, дзяругі — мяшка для коўдры, брадніка (рыбалоўнай снасці, падобнай на невад). Брадніковае палатно тчэцца спецыяльна рэдкім. Са зрэбнага палатна шылі бялізну і верхняе адзенне. Зрэб'е — самае ходкае палатно ў гаспадарцы. Кужэльнае палатно часцей за ўсё было ўзорным: абрусы, ручнікі, посцілкі. З простага кужалю шылі святочную бялізну. З намётаў вырабляліся ў асноўным наметкі. Якасць намётаў была такая высокая, што нават этнографы не могуць адрозніць ад фабрычнай тканіны. Кожная дзяўчына, рыхтуючыся да шлюбу, назапашвала сабе шмат намётаў і кужэльных ручнікоў.

З кужалю і намётаў шылі святочную жаночую вопратку — сарочкі, спадніцы і інш. Толькі што вытканае палатно называюць суравым. Яго трэба яшчэ адбяліць. Зрэбнае і кужэльнае палатно, а таксама намёты парапь у адвары попелу, мыюць, сушаць. Пасля пачынаецца другая частка адбельвання — на сонцы. У адных мясцовасцях палатно пасля паркі сцелюць на снезе, у другіх — на мокрую сенажаць, у трэціх — наначч на расу. Вылежваецца палатно на працягу 2-3 тыдняў. У канцы XIX ст. тканіны, што ідуць на верхняе адзенне, пачалі фарбаваць у чорны, радзей у руды і сіні колеры.

Яркім увасабленнем прыгажосці з'яўляецца большасць ручнікоў, абрусоў, посцілак — так званых узорных тканін. Геаметрычны ўзор — гэта: шашачкі, кругі, розных памераў прамавугольнікі, квадраты.

Беларускія народныя ўзоры на тканінах утвараліся вякамі. Уплывала на народнае ткацтва мануфактурная і фабрычная вытворчасць. Некаторыя ўзоры былі запазычаны са слуцкіх паясоў. Дарэчы, самі ткацкія цэхі ў гарадах і мястэчках узніклі на аснове сялянскага промыслу ў XIV-XVII стст.

Важнае значэнне для атрымання прыгажэйшага ўзору мелі каляровыя ніткі. Спачатку гэта былі афарбаваныя кужэльныя і суконныя ніткі, а пазней — баваўняныя. Яны ўжываліся для ткання і вышывання.

Сяляне ведалі тайну прыродных фарбаў і ўмела імі карысталіся. У кожнай мясцовасці існавалі свае спосабы афарбоўкі льнянога палатна, сукна, скуры і г. д.

У час этнаграфічных экспедыцый нельга не заўважыць, што ўзоры, асабліва ў клетку, паўтараюцца на ручніках, абрусах, посцілках, дыванах. Часам ручнік не адрозніць ад абруса (вёска Лелікава Кобрынскага раёна), абрус ад посцілкі (вёска Самаравічы Зэльвенскага раёна). Іх памеры і ўзоры супадаюць.

Узорныя посцілкі сталі ткаць значна пазней, чым ручнікі і абрусы, бо ложкі ўвайшлі ў быт сялян вельмі позна. Хоць посцілкі і бытуюць менш часу, чым ручнікі, але мастацкае аздабленне іх досыць высокае. Для ўтку прымянялі сукно. Вядомы посцілкі і чыста шарсцяныя. Гэта ўжо дываны. Вельмі цікавыя падвойныя тканіны, якія атрымалі назву гродзенскіх дываноў, бо распаўсюджаны былі ў раёне Гродна — Беласток. Падвойныя дываны — двухколерныя, бо спалучаюць блізкія колеры, напрыклад, чырвона-цагляны. Яны ствараюць уражанне, быццам дзве тканіны рознага колеру ляжаць адна на другой. Пераплятаюцца дзве тканіны там, дзе выступае арнамент ці сюжэт. На большасці такіх дываноў сустракаюцца матывы вясельнага карагоду або дрэва жыцця (птушкі, жывёлы, людзі).

Падвойныя гродзенскія дываны — унікальная з'ява ў еўрапейскім ткацтве. І ў нашы дні дыванамі славіцца Гродзеншчына.

Сусветную славу набылі ручнікі з вёскі Неглюбка Веткаўскага раёна. Ручнік, вытканы Матронай Кароткай, набыў нью-йоркскі «Метрапалітэн-музей», а неглюбскае ткацтва экспанавалася ў Мінску і ў Маскве, у Манрэалі і ў Осака. Шырокую славу заслужылі і болей сціплыя ручнікі з вёскі Моталь Іванаўскага раёна.

Старыя традыцыі ткання сёння захоўваюцца і ў Неглюбцы, і ў Моталі і некаторых іншых вёсках другіх раёнаў. У апошнія гады адкрыліся ў некаторых гарадах фабрыкі мастацкіх вырабаў (Пінск, Талачын, Гродна, Слуцк, Верхнядзвінск).

Вышыванне і вязанне — таксама даўні занятак жанчын, якім займаюцца ў вольны час. Раней кожная дзяўчына, кожная жанчына ўмела прыгожа вышываць кашулі, ручнікі, навалачкі і г. д. Чырвона-чорныя вышытыя ўзоры на ручніках, кашулях і навалачках здзіўляюць нас як сапраўдныя творы мастацтва.

У вёсках Боркі і Хатынічы, што каля Ганцавіч, кранаюць кожнага ўпрыгожаныя ручнікамі сцены хат. І ўсё ж найбольшае здзіўленне выклікаюць ручнікі і адзенне з пасёлка Дзівін Кобрынскага раёна і навакольных вёсак. І мотальскія, і неглюбскія, і дзі- вінскія ручнікі аб'ядноўвае толькі тое, што яны па- свойму арыгінальныя і непаўторныя.

Лепшыя ўзоры ткання, вышывання і вязання пільна захоўваюцца і цяпер у нашым народзе.

Як жа апраналіся нашы продкі? Зразумела, у адзенні былі мясцовыя адрозненні. Спецыялісты па старажытнаму касцюму паводле кампазіцыйна-дэкаратыўнага афармлення вылучаюць некалькі строяў: Калінкавіцкі, Кобрынскі, Маларыцкі, Неглюбскі, Віцебскі, Буда-Кашалёўскі, Пінскі, Ляхавіцкі і іншыя. Касцюм розных абласцей Беларусі мае агульнае падабенства ў сваім складзе, а часам і ў аздабленні.

Паўсюдна мужчыны насілі белую льняную кашулю і нагавіцы. Кашуля была доўгая, аздаблялася чырвоным ці чырвона-чорным арнаментам на пазусе, падоле, каўняры і манжэтах рукавоў. Яе падпяразвалі ўзорыстым з маляўнічымі кутасамі поясам. Дзе-нідзе на кашулю апраналі камізэльку, а на шыю завязвалі палатняную хустку.

Характэрным галаўным уборам была валяная з лямцу шапка-магерка. Зімой насілі заячую або аўчынную аблавуху, летам — капелюшы (брылі), а з другой палавіны XIX ст.— картузы, сплеценыя з саломы, карэння, лазы. Мужчынскае адзенне больш стрыманае і сціплае ў параўнанні з жаночым. Адзенне зашпільвалі на біркі (палачкі) або на драўляныя і касцяныя гузікі.

Калі не лічыць краўцоў, якія шылі пераважна верхнюю вопратку, усё астатняе адзенне выраблялі жанчыны. Касцюм сялянкі адпавядаў таму эстэтычнаму ідэалу жаночай прыгажосці, які склаўся вякамі. У склад святочнага жаночага адзення ўваходзілі белая льняная кашуля з каўняром, спадніца, фартух, гарсэцік і пояс.

Здаралася, што ў залежнасці ад заможнасці спадніцы шылі з трох або сямі суконных пол. У мінулым стагоддзі жанчыны Падняпроўя насілі Саяны (спадніцы з прышыўным ліфам-кабатам) і паясное адзенне — панёвы. Панёву рабілі з клятчастага суконнага матэрыялу сіняга, чырвонага або чорнага колеру. Панёва складалася з трох полак, сабраных зверху на шнуры, якім мацавалася на таліі, была крыху адкрыта спераду ці збоку. Вельмі старанна аздаблялася кашуля. На рукавах, плячах, устаўках і каўнярах вышывалі або затыкалі геаметрычны, а пазней і раслінны ўзор. Самы старажытны пакрой жаночых і мужчынскіх кашуль — тунікападобны. Такая кашуля нагадвае мяшок, сшыты з аднаго кавалка палатна, у дне якога прарэзана адтуліна для надзявання на галаву. Споднія кашулі не аздабляліся. Надзвычайную зграбнасць жанчыне надавала безрукаўка або гарсэцік, ці шнуроўка, якая расшывалася серабрыста- залатой і шаўковай жычкай. Шнуроўка ў адрозненне ад гарсэта мела па баках разрэзы.

Абуваліся жанчыны, як і мужчыны, у лыкавыя лапці, а пры дастатку і пазней — у чаравікі. Аднак амаль усё лета, як і мужчыны, хадзілі босыя.

Завяршалі жаночы касцюм галаўныя ўборы, якія паказвалі сямейнае становішча жанчыны. Дзяўчаты насілі вянкі з натуральных і штучных кветак; разнастайныя абручыкі з лубу ці паперы, упрыгожаныя кветкамі, жычкамі, стужкамі, пер'ем; вузкія ручнікі (скіндачкі). Валасы расчэсвалі на прабор і заплятала ў адну ці дзве касы з каляровымі стужкамі (каснікамі).

Замужнія жанчыны хавалі валасы пад галаўны ўбор. У асноўным галаву пакрывалі чапцом або каптуром, паверх якіх павязвалі характэрны ўбор — наметку. Наметка — тонкае палатно шырынёй 40-60 см, даўжынёй 2,5-3,5 м з затканымі або вышытымі канцамі. З другой палавіны XIX ст. наметку ў штодзённым быце замяняе хустка квадратнай формы. Верхняя вопратка жанчыны адрознівалася ад мужчынскай сваім колерам: жаночыя — белыя ці шэрыя світкі (сярмягі), каптанікі з валенага сукна, белыя і чырвоныя кажушкі; у мужчын яны былі чорнага або рудога колеру. Шляхта і мяшчане насілі шэрыя, сінія доўгія жупаны.

Неабходнай часткай адзення быў пояс. Ён вядомы ўсходнім славянам з сярэдзіны I тысячагоддзя. Яго старажытнасць засведчана

ў іх спосабе вырабу — тканні без кроснаў. Вядома некалькі спосабаў вырабу: пляценнем на сцяне, на назе, на вілачцы, на калодачцы, вязанне на прутках. Размеры іх розныя: ад 1 см да 6 см шырынёй і ад 35 см да 4 м даўжынёй. Канцы паясоў звычайна заканчваюцца махрамі і кутасамі. Мужчынскія паясы адрозніваліся ад жаночых большай шырынёй і даўжынёй. Завязваліся двума спосабамі: на лініі паясніцы і пад жыватом. На выраб паясоў скарыстоўвалі тоўстыя ніткі з воўны, ільну, пянькі, а іншы раз нават лыка. Тут скарыстоўвалі амаль усе колеры вясёлкі.

Шырока бытавалі ў беларусаў і скураныя паясы (дзягі, або папружкі). Што датычыцца тканых паясоў, дык вытворчасць іх дасягнула найбольшага росквіту на Слуцкай фабрыцы («персіярні») у канцы XVIII ст., калі кіраваў ёй Лявон Мажарскі. Тады на фабрыцы выраблялiся да 200 паясоў у год. Ткалі іх з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак. Яны былі шырокія (ад 20 да 40 см) і параўнальна доўгія (2-4,5 м).

Слуцкія паясы — гэта сапраўды мастацкія творы, якія перадаюць раслінныя матывы, малюнкі жывёл і людзей. Каштавалі слуцкія паясы вельмі дорага, таму простаму люду яны былі недаступны. «Персіярні» былі і ў іншых пунктах: Нясвіжы, Ружанах, Карэлічах, Гродне. У СССР буйнейшая калекцыя слуцкіх паясоў захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

У старыя часы сялянская мода на адзенне была не такая зменлівая, як цяпер. Сяляне цвёрда прытрымліваліся дзедаўскіх звычаяў, традыцый, этыкету. Ніхто не выходзіў на вуліцу з непакрытай галавой і без пояса. Выйсці на людзі без галаўнога ўбору і без пояса — значыць стаць пасмешышчам. Прайсціся босаму было звычайнай з'явай. Дзяўчаты і жанчыны насілі на шыі пацеркі, крыжык на жычцы, а ў вушах — завушніцы.

У першай палавіне XIX ст. вопратка была белая. Вось як апісаў тагачасны беларускі пісьменнік-падарожнік П. М. Шпілеўскі сялян мястэчка Сіняўка на Брэстчыне: «Мужчыны былі апрануты ў белыя світкі са стаячымі каўнярамі і з чырвонымі паясамі, на іх галовах былі шапкі-валенкі з авечай воўны, на нагах — лыкавыя лапці. Маладкі былі ў белых світках, якія вельмі мала адрозніваліся ад мужчынскіх фасонам, толькі без паясоў і з адкладнымі каўнярамі, аздобленымі шнуркамі і жычкай. Галовы іх былі пакрыты так званымі наметкамі, г. зн. доўгімі вузкімі ручнікамі, складзенымі ў некалькі радоў і абвітымі вакол галавы ў мностве складак з вісячымі па баках канцамі»[1].

---

[1] Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю.— «Современник». № 6, т. XI, 1853, отд. II, с. 14-15.

Да адмены прыгоннага права «дзе збярэцца люд, там стаіць суцэльная белая сцяна»,— заўважаў этнограф П. В. Шэйн. Пасля адмены прыгоннага права белы колер вопраткі сялян паступова ўступае шэраму і пасля рознакаляроваму. Аднак па-ранейшаму жанчыны затыкалі або вышывалі свае і мужчынскія кашулі чырвонымі і чорнымі ніткамі, на гэты раз баваўнянымі.

## Вехі жыцця

Шмат якія даследчыкі быту і эканомікі сялян сярэдзіны XIX ст. усіх іх дзялілі на 5 груп. Так, І. Зяленскі сялян Міншчыны па іх адносінах да пана, па колькасці наяўнай зямлі і спосабу адбыцця павіннасцей раздзяліў на 5 разрадаў. Гэта: 1) дваровыя (батракі і слугі); 2) цяглыя (складаюць 86 % усяго прыгоннага насельніцтва); 3) аброчныя (асадныя); 4) агароднікі; 5) бабылі (кутнікі)[2]

Батракі і слугі атрымоўвалі ад пана прадукты, вопратку і грашовае жалаванне — «месячыну». Батракі жылі ў панскім двары і працавалі на розных работах у маёнтку: конюхамі, пастухамі і г. д.

Большасць жа сялян былі «цяглымі». Яны адбывалі паншчыну — павіннасць адработкамі на панскім полі, пачынаючы з 12-гадовага ўзросту. Галоўныя павіннасці складалі прыгон з кожнага сялянскага двара па некалькі «пешых» (адбывалі жанчыны) і «конных» (адбывалі мужчыны), а таксама і так званыя «гвалты», або згоны ўсяго працаздольнага сялянства для касьбы і жніва на панскай зямлі і іншых тэрміновых работ. Апрача таго, сяляне выконвалі вялікую колькасць розных дробных павіннасцей.

Лепшым, больш выгадным, было становішча аброчных сялян і казённых, якія плацілі натуральны (дзякло) або грашовы (чынш) аброк пану або казне ў залежнасці ад таго, на чыёй зямлі яны жылі.

Агароднікамі называлі сялян, якія, апрача сялібы, мелі невялікі ўчастак зямлі ў выглядзе агарода і трохі сенажаці. Яны вымушаны былі займацца або рамяством або ісці на пабочныя заработкі.

Бабылі нічога не мелі, апрача сваёй сялібы ды, можа, каровы. Гэта былі самыя бедныя людзі. Бабылі і агароднікі таксама неслі павіннасці за адведзеную ім сялібную зямлю і сенажаці.

Сярод нешматлікай групы вольных людзей вёскі ў XIX ст. асобна вылучаліся аднадворцы. Так называлі шляхту, якую царскі ўрад не прыпісваў да дваранства, у першую чаргу за ўдзел у рэвалюцыйна-

[2] Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального Штаба. Минская губерния,— СПб., 1864, с. 640—646.

дэмакратычным або сепаратысцкім руху. Іх становішча мала чым адрознівалася ад заможных казённых сялян, бо абавязаны былі несці павіннасці перад дзяржавай.

Некаторыя багатыя мужыкі пасля рэформы 1861 г. сталі кулакамі, прымянялі вольнанаёмную працу парабкаў і скуплівалі пры выпадку і магчымасці дадатковыя землі ў паноў. У XIX і ў пачатку XX ст. у вёсцы існавала класавае расслаенне — беднякі, серадзнякі і кулакі. Апошнія эксплуатавалі наёмную працу беднякоў, прымаючы іх на падзёншчыну (аднадзённую работу), на летні час і на год. Прынятыя на работу на доўгі час (месяц, год) атрымоўвалі пэўнае найменне: мужчына — батрак, хлопец — парабак, дзеўка — служанка. Беднякі наймаліся на работу да кулакоў або шукалі пабочны заработак. Малазямельныя сяляне станавіліся дрывасекамі, чумакамі, плытагонамі.

Чумакамі называлі тых фурманоў і гандляроў, якія прывозілі на валах з Украіны, Крыма, Дона, Прусіі і іншых месцаў соль і рыбу, а туды вазілі хлеб, скуры і сала. Слова чумак паходзіць ад старажытнай скуранoй або драўлянай пасудзіны «чум» («чом»). Некаторыя чумакі-гандляры багацелі і наймалі для паездкі бедных сялян. Былі і такія, што ездзілі ў Крым і на Дон з 50-100 парамі валоў. Некаторыя бедныя чумакі, наадварот, зусім бяднелі, калі ў іх здыхалі валы або іх кралі.

Пасля адмены прыгоннага права беднякі накіроўваюцца на фабрыкі і заводы, папаўняючы рабочы клас.

У час сельскагаспадарчага года іншы раз узнікалі работы, якія адной сям'і былі не пад сілу. Іх неабходнасць значна павялічылася, калі патрыярхальная сям'я пачала дзяліцца. Тады гаспадары звалі сваякоў і суседзяў на талаку — від калектыўнай работы. Раней працавалі бясплатна, а пазней запрашалі каго за плату, каго за адработку. Талакой вывозілі лес, будавалі хату, вывозілі гной, мялі лён, дажыналі жыта, капалі бульбу, малацілі збожжа.

На Палессі існавала абшчына пад назвай «дварышча», якую складалі сваяцкія сем'і. Дварышчу належала ворыўнае поле, сенажаць, паша, лес, сажалка або возера. Кожная сям'я мела ў агульным уладанні сваю долю.

Грамадскае карыстанне зямлёй было падарвана аграрнай рэформай 1557 г. («Устава на валокі»), якая замяніла яго падворным. Аднак звычай сумеснага карыстання борцямі, вуллямі, падоранай жывёлай, сенажацямі і пашамі захоўваўся дзе-нідзе да канца мінулага стагоддзя. Асобы, якія мелі агульнае ўладанне, называлі сябе сябрамі. Яны насілі агульнае прозвішча, адкуль часам паходзіла і назва вёскі. Напрыклад, у вёсцы Ролічы жылі Ролічы, у Драздах —

Дразды. Такія паселішчы, дворышчы ўзнікалі ў выніку чляненне вялікіх патрыярхальных сем'яў. У Вялікім княстве Літоўскім, асабліва на Палессі, у XIII-XVI стст. сваяцкімі былі большасць дво- рышчаў.

Доўгі час, асабліва на паўночным усходзе, існавала абшчына, якую называлі «грамада». У яе ўваходзіла адна або некалькі малых вёсак. Усе яе члены былі звязаны кругавой парукай. Справы грамады вырашаў сход гаспадароў сям'і, які выбіраў старасту і яго памочнікаў. Грамада калектыўна выплачвала казне падаткі, будавала і рамантавала дарогі і масты, размяркоўвала паміж сялянамі паншчыну, сачыла за наведваннем прыхаджанамі царквы. Такім чынам, грамада мела пэўную ўладу над яе членамі, але яе дзейнасць знаходзілася пад кантролем дзяржаўных органаў і паноў.

З даўніх часоў захоўваўся старадаўні звычай «бонда» — частаваць сваякоў і аднавяскоўцаў свежынай, а таксама хлебам, садавінай, мёдам і іншымі прадуктамі новага збору. У гэтым трэба бачыць праяўленне гасціннасці і чуласці нашага народа. Сельская абшчына зрабіла свой уплыў і на сямейны быт сялян. Сям'я з'яўлялася гаспадарчай і сацыяльнай адзінкай абшчыны.

Шырока былі распаўсюджаны вялікія сем'і, што ўключалі некалькі шлюбных пар: бацькі і жанатыя сыны. Такая сям'я вяла адну гаспадарку, у якой праца дэтальна размяжоўвалася на жаночую і мужчынскую. Галавой вялікай сям'і быў бацька, а калі ён паміраў, яго месца займаў старэйшы сын. Гаспадар меў права без згоды членаў сям'і прадаваць і купляць маёмасць. Гэта ўсё прыводзіла да антаганізму паміж членамі сям'і. Распад патрыярхальнай вялікай сям'і на малыя сем'і адбываўся ў другой палавіне XIX ст. у сувязі з развіццём таварнай вытворчасці і капіталізму. У нашым стагоддзі вялікія сем'і былі рэдкасцю.

У сем'ях існаваў строгі падзел працы па полу і ўзросту. Кожны член сям'і добра ведаў свае абавязкі. Дзеці памагалі маці чысціць бульбу, няньчыць меншых дзяцей, пасвілі гусей, курэй. Падлеткам davяралі пасвіць не толькі птушак, але і буйную жывёлу, кароў, коней, валоў, авечак. У сялянскіх сем'ях дзеці пачыналі працаваць вельмі рана. З 7-8 гадоў яны пасвілі жывёлу, зграбалі сена і нават баранавалі. Падлеткаў, якім было каля 15 гадоў, прывучалі касіць, араць, малаціць. У 5 гадоў дзяўчынкі няньчылі дзяцей, а ў 16 умелі шыць, ткаць, жаць. Дзяўчаты, як і жанчыны, мылі бялізну, посуд, варылі ежу, даглядалі агарод, палолі грады, жалі, сушылі сена, ірвалі і адбівалі пранікам лён, мялі льнотрасту, трапалі і часалі кудзелю, пралі, ткалі і шылі вопратку. Дзяўчаты асабліва славіліся сваім вышываннем і ткацтвам.

Старыя часцей за ўсё вялі хатнюю гаспадарку: кармілі дамашніх птушак, даглядалі скаціну, а таксама выхоўвалі дзяцей і дапамагалі маладзейшым у полі.

Мужчыны і юнакі апрацоўвалі зямлю, аралі, засявалі, касілі сенажаці, раскарчоўвалі лес, рубілі хаты, нарыхтоўвалі дровы на зіму, рабілі драўляны посуд, плялі карабы і кошыкі.

Пераход у дарослы стан залежаў не столькі ад узросту, колькі ад умення выконваць асноўныя гаспадарчыя работы. Выхаванне ў сялянскай сям'і працай прыносіла добры плён. Нават шляхта ў XVI-XVIII стст. аддавала сваіх дзяцей у сялянскую сям'ю для выхавання якасцей простых людзей: працавітасці, вынослівасці, непераборлівасці ў ежы і адзенні, любові да зямлі. Гэты звычай называлі дзядзькаваннем.

Нераўназначным было становішча і членаў сям'і, асабліва вялікай. Становішча кожнага вызначалася роднасцю да гаспадара, а прынятага ў сям'ю — і яго прынесеным багаццем. У вялікай патрыярхальнай сям'і нявестка часта цярпела здзекі ад свёкра і свякроўкі, дзевераў і заловак. Аб гэтым сведчаць нямала сямейных песень.

Па звычаёваму праву, калі ў нявесткі памёр муж, а яна не мела сыноў або зусім дзяцей, то пакідала тую сям'ю і атрымлівала толькі што-небудзь з жывёлы, але не зямлю. У малых сем'ях пасля смерці мужа, калі быў сын, удава мела права на зямлю і брала да сябе прымака. У прымакі ішлі бедныя мужчыны. Становішча іх у новай сям'і было нераўнапраўным, а таму некаторыя мужчыны, уступаючы ў новую сям'ю, заключалі пісьмовы ці вусны дагавор, якім прызначалася права прымака на зямлю. Тады гэта права гарантавала сельская грамада. Прымацтва іншы раз было асобай формай злучэння маёмасці прымака з гаспадаркай новай сям'і.

Становішча нявесткі і прымака ў новай сям'і было нераўнапраўным, што вяло да супярэчлівасці і антаганізму ў сям'і. Калі ж гаспадыняй або гаспадаром станавіліся пакрыўджаныя нявестка, прымак, падчарыца ці пасынак, дык састарэлым свякроўцы, цешчы, цесцю, мачысе і вотчыму жылося дрэнна. Нездарма гаварылі «Старасць не радасць». Пенсій тады не было, а таму хворыя старыя, павесіўшы торбу на плечы, абарваныя і босыя, ішлі жабраваць.

Сацыяльнага забеспячэння па старасці і на выпадак страты здароўя ніякага не было. Толькі Савецкая ўлада ўвяла яго: спачатку — для рабочых і інтэлігенцыі, а потым і для калгаснікаў. Прыняты закон аб пенсіях — адно з важнейшых сацыяльных мерапрыемстваў Савецкай дзяржавы.

Дзяцей даглядала і выхоўвала маці, якой дапамагала бабка. Дзіця калыхалі ў калысцы, што падвешвалі да столі. Вучылі хадзіць у хадунку, вось якога мацавалася да бэлькі столі.

У сям'і дзеці выхоўваліся таксама дзедам і бабай. Яны і перадавалі ім свой жыццёвы вопыт, свае навыкі, уменне майстраваць тыя або іншыя рэчы і вусна-паэтычную спадчыну (казкі, песні, загадкі, байкі, прыказкі і прымаўкі).

Першае, з чым знаёмілі старыя малых, былі цацкі. Для маленькіх майстравалі кружолку — драўляны кружок, у цэнтры якога прадзявалі стрыжань з завостраным канцом. Малога забаўлялі шарам, які надзімалі з свінога мачавога пузыра, запіхнуўшы ў яго пару белых гарошын ці фасолін.

Калі ў сям'і былі дзеці, ніхто не выкідаў костачкі свіных ног. Упоперак костачкі прабівалі дзірку і працягвалі шнур, а другі шнур прапускалі з боку косці і звязвалі з першым — атрымлівалі «гудзёлку». Накруціўшы шнур з костачкай, расцягвалі шнур за канцы —- «гудзёлка» гула.

Хлапчукі пераймалі ад дзядуль уменне рабіць свісткі з лазовых і вярбовых пруткоў, выразаць жалейкі і свісцёлкі. Прасцей за ўсё зрабіць звычайную пішчалку. Прыклаў лісцінку пырніку да губ і пішчы. Другой вышыні атрымліваецца гук, калі да драўлянага грэбня прыкласці тонкую палоску бяросты.

Больш складаныя цацкі майстравалі дарослыя. Жалейкі рабілі ўвосень з малога тонкага ствала сасонкі, выкручваючы стрыжань. Затым выразалі адтуліны, адзін канец закрывалі паўкоркам. Калі на жалейцы ігралі, то дзіркі па чарзе закрывалі пальцамі. З сасновай трубачкі рабілі стрэльбу — у адзін канец запіхвалі намочаную і скручаную паклю, а у другі ўстаўлялі стрыжань з шырокай ручкай, якой упіраліся ў жывот і прыціскалі да сябе, каб атрымаўся выбух. З малога рога рабілі ражок. З бяросты або лыка плялі карабок, крыху большы, чым запалкавы, усярэдзіну якога кідалі некалькі гарошын. Такі цэласны карабок моцна забаўляў дзяцей.

А як абысціся ўлетку жэўжыку без гушкалак (арэляў), а зімою — без санак, калаўрота і канька? Усё гэта рабілі дарослыя для дзяцей. Для калаўрота бралі старое кола ад калёс, насаджвалі яго на завостраны верх невысокага слупка, а да кола прымацоўвалі дзве жэрдкі, да якіх прычаплялі санкі. Арэлі таксама рабілі іншы раз даволі простыя: на сукі побач стаячых дрэў клалі тоўстую палку, да якой прывязвалі канцы вяроўкі. Дастаткова на сярэдзіну вяроўкі пакласці невялічкую дошчачку, як можна было гушкацца. Іншы раз да

перакладзіны двума вяроўкамі прывязвалі лёгкія начоўкі. Рабілі і больш пастаянныя арэлі.

Вельмі простым быў драўляны канёк, у якім былі прапалены нагрэтым жалезным прутком дзве дзіркі для працягвання вяровачкі. На ніжняй частцы канька замацоўвалі тоўсты дрот. Звычайна дзеці каталіся па лёдзе на адным каньку, адштурхоўваючыся другой нагой.

На плоце агарода вешалі «вятрак». Ён уяўляў сабой дзве шырокія лучыны, звязаныя крыж-накрыж і наколатыя на цвік, які ў сваю чаргу быў убіты ў палку. Пазней сталі рабіць драўляны самалёт, які быў замацаваны на кіі і ўперадзе меў прапелер з выразанай касой лучынкі.

Перад гульнямі дзеці часта праводзілі жараб'ёўку, для чаго выразалі кубікі з кропкамі, зарубкамі або лічбамі. Кінуўшы такі кубік, яны вызначалі, хто будзе пачынаць першы.

Іншы раз цацкі, часцей за ўсё гліняныя, куплялі на кірмашы. Гліняныя свісцёлкі па сваёй форме нагадвалі барана, сабаку, пеўня, курыцу, салаўя, конніка, ляльку. У вёсцы Харосіца пад Навагрудкам ганчары займаліся толькі вырабам цацак. Цацкі з гліны ляпілі ганчары Ружан, Дуброўна, Ракава, Івянца і г. д.

Мячы шылі са скуры, іх набівалі пакуллем, анучамі. Вядомы мяч, валены з воўны. Ён скарыстоўваўся ў гульнях апука, лапта, штандар. У апуку гуляюць дзве каманды. Удзельнікі па чарзе кідаюць апуку і, вядома, стараюцца злавіць. Калі зловяць, каманды мяняюцца месцамі.

З дзіцячых забаў і гульняў найбольш вядомыя вясною і ўлетку — гушканне на арэлях, зімой — катанне на санках або яловых вершалінах з горкі. Улетку былі пашыраны гульні жмуркі, палачка-стукалачка, пікар, зімой — угадванне арэхаў у цотку ці ў лішку, адгадванне загадак.

Дзіцячыя забавы і гульні былі разлічаны на развіццё кемлівасці, спрытнасці. У мінулыя гады дзіцячыя забавы былі абмежаваны, бо дзеці ўжо ў падлеткавым узросце ўключаліся ў працу.

## Сямейныя святы і абрады

Кожны паваротны момант у жыцці чалавека адзначаецца сваёй характэрнай вяхой — сямейным святам з пэўнай урачыстасцю. Так, з нагоды нараджэння дзіцяці спраўлялі радзіны, хрэсьбіны.

На **радзінах** самая ганаровая роля адводзілася бабе. Яе ўшаноўвалі, абдорвалі, славілі словамі і песнямі, урачыста праводзілі дадому. У дарэвалюцыйнай вёсцы яна была замест акушэркі, прымала ў

парадзіхі дзіця. Яна ж лячыла парадзіху і давала настаўленні і парады маладой маці. Яе дапамога была вялікая і неабходная, а таму бабкай магла быць толькі пажылая спрактыкаваная жанчына. Пасля нараджэння дзіцяці жанчыны з радні парадзіхі, выбраўшы вольную часіну, пяклі аладкі або яешню і кожная самастойна з пачастункам ішла ў адведкі.

Радзіны суправаджаліся рознымі абрадамі і песнямі, якія вядуць сваю гісторыю з глыбокай старажытнасці. Царква звязала з ім абрад хрышчэння дзіцяці, чаму яны і атрымалі яшчэ адну назву,— «хрэсьбіны».

Асноўнай старадаўняй абрадавай стравай на радзінах была бабіна каша, якую яна гатавала з круп на малацэ, дадаючы масла, цукар, упрыгожвала галінкамі, кветкамі, цукеркамі. Бабка заяўляла, што прадае гаршчок з кашай. Пасля невялікага «торгу» гаршчок з бабінай кашай «выкупляў» кум. Ён разбіваў гліняны гаршчок, а на яго чарапках бабка частавала кожнага госця кашай. Дарэчы, гаршчок падбіраўся трэснуты. Дзе-нідзе частаванне кашай спалучалася са зборам грошай для дзіцяці. Парадзіха давала бабцы ў падарунак станіну або ручнік. У бабкі мог быць і памочнік, які перавязваў яе гэтым падарункам. На радзінах госці спяваюць абрадавыя песні дзіцяці, яго бацькам, бабцы, куме і куму.

А любыя госцікі — кум з кумою,  
Яшчэ найлюбейшыя — брат з сястрою,  
Яшчэ наймілейшыя — татка з мамкай,  
А найдаражэйшая за ўсіх — бабка наша.

Нараджэнне дзіцяці было не толькі радасцю ў сям'і, а і дадатковымі клопатамі. Адна справа, калі нарадзіўся сын — памочнік бацькі і кармілец, другая — калі дачка, якую трэба выдаваць замуж, даваць ёй пасаг. Нягледзячы на гэта народная мудрасць павучае бацьку: «Сыны і дачушкі — усе роўныя служкі».

Даўней, калі хрысцілі дзіця, давалі яму імя, якое было ў святцах у дзень хрышчэння малога. Трэба тут адзначыць, што да сярэдзіны мінулага стагоддзя сяляне не мелі прозвішчаў. Называлі імя папростаму і чый ён або чыя яна: Адамаў Антось, Параска Зосіна. Такім чынам называлі дадаткова імя па бацьку або па маці.

Набыўшы новы змест і форму, радзіны праводзяцца і цяпер.

Сярод усіх свят, якія адзначалі нашы продкі, найбольш маляўнічым, прыгожым, насычаным абрадамі і песнямі было вяселле. Гэта сямейнае свята, якое ўключае цэлы комплекс урачыстасцей і рытуалаў, якія звязаны з заключэннем шлюбу. У вясельную ўрачыстасць так або інакш уключалася амаль уся вёска.

Да вяселля рыхтаваліся загадзя. Калі юнаку (на захадзе гаварылі «дзяцюк») спаўнялася 18-20 гадоў, яго бацькі прыглядаліся да вясковых дзяўчат — шукалі яму працавітую і багатую нявесту. Наводзілі даведкі аб сімпатыях хлопца, але схільнасці дзецюка і дзеўкі, іх узаемнае каханне ўлічваліся не заўжды. Ініцыятыва заключэння шлюбу зыходзіла з боку дзецюка, але не дзеўкі. Сватанню іншы раз папярэднічала неафіцыйная разведка, каб высветліць, ці можна прыходзіць у сваты. У вёсцы Хатынічы, каля Ганцавіч, гэта разведка некалі і была сватаннем. Ішла тут у сваты маці жаніха, а калі яе не было, то хросная або цётка. Тая заходзіла надвячоркам у аўторак або чацвер у хату аблюбаванай дзеўкі і садзілася на доўгую лаву пад ручнік, які вісеў на кручку, што замацаваны ў бакавой сцяне. Хоць спачатку гутарка і вялася на зусім іншую тэму, але ўсім прысутным было зразумела, чаго тая прыйшла, калі села пад ручнік.

Возьмем найбольш распаўсюджаную форму сватання. У сваты да дзеўкі ішлі ўдвух-утрох: хросны бацька або дзядзька жаніха, яго бацька, іншы раз старэйшы брат. Прысутнасць самога жаніха была неабавязковай. У пазнейшы час сватанне без жаніха не абыходзілася.

Сваты адвячоркам, каб ніхто не сурочыў, і, вядома, на месячнай поўні, каб было поўнае шчасце, ішлі ў хату да аблюбаванай дзяўчыны. Яны выдавалі сябе за падарожнікаў, купцоў альбо паляўнічых. Пыталіся, ці ёсць што прадаць: кароўку, цялушку або шукалі ўцёкшую куніцу, гусачку і гэтак далей. Наогул, гаварылі іншасказальна: «Прыйшлі па тую кветку, што цвіце зімой і ўлетку». Размову вёў пераважна дружка (старшы сват). Калі з адказаў гаспадароў вынікала, што перагаворы могуць адбыцца, старшы сват пачынаў невялікі пачастунак. Найбольш важным пытаннем сватання было абмеркаванне памераў пасагу, у які ўваходзіла зямля, жывёла і грошы. Яго памеры вызначаліся і вырашаліся толькі бацькамі або тымі, хто іх замяняў. Памеры пасагу часцей за ўсё вызначалі вынікі сватання. Калі жаніху дзяўчына прыйшлася не даспадобы, то пасаг наўмысна павялічвалі, каб яе бацькі адмовілі. Калі дамаўляліся аб пасагу, клікалі дзяўчыну і пыталіся ў яе згоды. Яна чырванела і маўчала, а нарэшце гаварыла: «Калі маўчу, значыць хачу».

Пасля бацькі засватанай дзяўчыны або і сама маладая ішлі да жаніха паглядзець, ці ёсць на што ісці. У часы прыгонніцтва маладыя з падарункамі ішлі да пана прасіць дазволу на шлюб. Калі маладыя былі з адной вёскі, такі дазвол даваўся. Калі маладая выходзіла замуж у вёску, якая належала другому ўладальніку, лёс дзяўчыны залежаў ад панскай волі і капрызу.

Праз адзін-два тыдні былі заручыны, ці лад. Звычайна заручыны адбываліся вечарам за тыдзень да вяселля ў хаце маладой. Да яе прыязджаюць дружка (сват), жаніх і яго бацька, якія вязуць з сабой хлеб, сыр, мёд і іншае. Аб прыездзе сватоў вёску ўведам- ляюць шалгуны, якія адзеты каню на шыю. Брама закрыта і сватоў ніхто не сустракае. Пра іх быццам і не ведаюць. «Купцы» або «паляўнічыя» просяцца, каб іх пусцілі абагрэцца. Яны самі адкрываюць браму.

На ўсходзе Беларусі часта перад імі замыкалі і дзверы сенцаў. Сваты ў доме дзяўчыны знаходзяць усю яе радню ў зборы. Аказваецца, іх тут чакалі. Пасля спрэчак іх садзяць за стол. Мэта заручын — публічнае заяўленне аб сватанні і аб згодзе нявесты і яе бацькоў на шлюб. Па колькасці песень і абрадаў заручыны нагадваюць маленькае вяселле.

Сваты сядзелі на пасланых на лаве ручніках, закусвалі яечняй. З найбольш істотных абрадаў трэба адзначыць злучэнне рук маладых і абмен паміж імі пярсцёнкамі. У некаторых мясцінах старшага свата праз правае плячо перавязвалі ручніком, а на Лепельшчыне заручаная галасіла. У канцы заручын маладая дарыла жаніху хустачку, а ён даваў ёй крыху грошай. Старшаму свату падавалі бутэльку жыта, абвязаную ручніком і поясам,— сімвал поўнай згоды на шлюб. Жыта везлі ў дом жаніха і змешвалі з яго жытам.

Пазней, у сярэдзіне XX ст., сваталі і заручалі за адзін заход. Даўней сваталі і гулялі вяселлі толькі ў пэўныя сезоны.

Перад вяселлем прыбіралі ў хаце, мылі сталы, лавы, бялілі печ.

Напярэдадні вяселля была зборная субота. Заручаная хадзіла да сваіх сябровак і клікала іх да сябе дамоў віць вянок.

Пасярод хаты ставілі стол, вакол яго садзіліся дзяўчаты і рабілі вянок са стужак, каляровай паперы і, канечна, з руты, мяты і іншых кветак. А калі зімой — то са штучных кветак. Паступова вянок з жывых кветак выйшаў з моды. Віццё вяночка — абрадавае дзеянне: у ім удзельнічаюць усе дзяўчаты. Пры гэтым спяваюць песні, у якіх апяваюцца іх дзеянні з вянком: «Пачынаем вянок віці», «Падай, мама, іголку», «Ой, вілі, вілі, дай не давілі», «Ужо ж мы звілі вяночак». Музыка, якога запрашалі на гэты вечар, акампанаваў ім і пасля іграў для моладзі танцы. Песні, якія спяваюць на «вяночках»,— журботныя па мелодыі і гарманічна адпавядаюць настрою маладой і яе бацькоў.

Пашыўшы і звіўшы вянок, яго прымяралі на маладую, а тая ў вянку кланялася і цалавалася з бацькамі, сяброўкамі і ўсімі прысутнымі. Пасля дзяўчаты прымяралі на сябе па аднаму разу той вянок, скраналі са свайго месца стол, ламалі іголкі, выкідвалі за дзверы абрус, якім быў пакрыты стол,— тым самым выказвалі магічнае

жаданне хутчэй выйсці замуж. Хлопцы ім перашкаджалі выкінуць той абрус. Асабліва ярка і ўрачыста праводзіліся «вяночкі» ў заходніх і паўночна-заходніх раёнах Беларусі. Там дзе-нідзе яны бытуюць і зараз.

Кавалерскі вечар спраўлялі ў доме жаніха, куды ён запрашаў сваіх сяброў і вясковых дзяўчат.

Звычайна перад вяселлем, у суботу, пяклі каравай. Каравай — цэнтральная страва на вяселлі. Гэта белы хлеб, які ўпрыгожваюць фігуркамі з цеста (жывёлы, птушкі, шышкі, месяц, зоркі). У спечаны каравай утыкаюць штучныя кветкі. Выпяканню каравая прыдавалася асаблівая магічная ўвага ў цэнтральнай Беларусі і на Палессі. Пяклі яго толькі запрошаныя жанчыны.

Кожнае дзеянне з караваем суправаджалі песнямі. Караваяў пяклі некалькі, але адзін з іх быў вялікі. У печы ён падрастаў, і, каб яго выняць, здаралася, прыходзілася разбіваць чалеснікі.

Караваем і песняй, як правіла, пачыналі і канчалі вяселле. На Астравеччыне вяселле пачыналі такой песняй: «Караваю, мой раю, вяселлейка зачынаю. Вя- селлейка вясёлае, прыборнае, харошае».

У пачатку XX ст. у залежнасці ад сацыяльна-бытавога становішча ўступаючых у шлюб вяселлі былі некалькіх відаў: звычайнае, прымацкае (малады ішоў у прымакі), сіроцкае (калі адзін з маладых быў сіратой), удавецкае і г. д. Адпаведна кожнаму віду вяселля выконваліся або адсутнічалі пэўныя абрады і песні. Удава не мела права адзець вянок. Прымацкае вяселле звычайна гулялі толькі ў хаце маладой. Сірата хадзіла раніцай у нядзелю на могілкі «зваць» памёршых бацьку або маці на вяселле. На шлюбаві- нах ёй спявалі шмат сіроцкіх песень, на ўсходзе Беларусі яна абавязкова выконвала песні-плачы.

Шлюбавіны — дзень, у які заключаюць шлюб. Раней вянчаліся ў царкве, але ў народзе прызнаваўся толькі шлюб, які афармляўся вяселлем. Хоць вяселле і патрабавала шмат выдаткаў, але яго рабілі, нягледзячы ні на што, і таму, здаралася, пасля вяселля бацькі маладой бяднелі. На шлюбавінах выконвалі такія абрады: пасад, расплятанне касы, благаславенне, выкуп маладой, абмен караваяў або вяночкаў, злучэнне караваяў, абход вакол стала. Госці, родзічы і ўсе прысутныя благаслаўлялі маладую сесці «на пасад» — на дзяжу, пакрытую абрусам. «На пасад» мела права сесці дзяўчына, якая захавала цноту. Запаленай ад крэсіва свечкай (пазней нажніцамі) сястра або хросная маці застрыгала на галаве маладой валасы ў трох месцах. Шмат у якіх вёсках застрыгалі і маладога; асобна ў яго доме або разам з маладой.

У вяселлі ўдзельнічаюць дзве дружыны: нявесты і жаніха. Кожная з іх мае пэўны штат «чыноў». У дружыне маладога — старшы

сват (дружка), пажа- нічнікі (дружкі), свашкі, стараста і іншыя; у дружыне маладой — закоснікі (браты), дружкі (баяркі). Кожнага з іх мецілі штучнай кветкай. Халастым кветку прышывалі на кашулю (пазней на пінжак) злева, а жанатым — справа. Сватоў перавязвалі ручнікамі. У наш час назвы вясельных чыноў спрасціліся: засталіся толькі сват, свацця, шаферы (хлопцы) і шаферкі (дзяўчаты).

Выпраўляючы маладога да маладой, яго благаслаўлялі. Дзяўчаты спявалі жаніху песні. У некаторых яны раілі яму:

Не бяры ты той, што ў золаце,
Не бяры і той, што ў аксаміце,
Ды бяры ты тую, што ўся ў розуме.

У першай палове XIX ст. члены жаніховай дружыны адпраўляліся да маладой на конях вярхом, а пазней на некалькіх падводах. Звонка звінелі шалгуны, адзетыя коням на шыю, каля дуг гойдаліся ручнікі. У бок вясельнага поезда ляцелі шапкі падлеткаў і хлопцаў. Шпарка беглі быстрыя коні. З шумам і звонам вясельны поезд жаніха ехаў па вуліцы, дзе жыла маладая. Мужчыны затрымлівалі гэты абоз, патрабуючы ад чужакоў пропуск.

Пасля ехалі вянчацца. У царкве выконвалі некалькі бытавых і язычаскіх звычаяў. Маладая старалася стаць маладому на нагу, каб мець верх у сям'і. Пасля вянчання заязджалі на нядоўга палуднаваць у карчму, а пасля маладыя (асобна кожны са сваёй дружынай) ехалі да сябе дамоў.

На другі дзень, у панядзелак, жаніх са сваёй дружынай адпраўляўся па маладую. Маладых садзілі за стол, абсыпалі збожжам і хмелем. Вясковыя дзяўчаты і жанчыны прыходзілі на вяселле паглядзець на маладых і паспяваць. Яны сустракалі маладога песнямі, пасля віншавалі і велічалі маладых; песнямі праводзілі маладую да маладога. Для гэтага яны заходзілі ў сенцы або хату і ўтваралі хор. На вяселлі кожнае абрадавае дзеянне, кожны момант апаэтызаваны. Гэта дало магчымасць беларускаму этнографу Е. Р. Раманаву ў свой час назваць наша вяселле своеасаблівай операй. Пачыналі спяваць віноўнікам урачыстасці — маладым, іх бацькам, затым дружку і па чарзе ўсім астатнім. Дружку адрасавалі такую песню:

Наш дружчатка вяселлейка гуляіць, (2 р.)
Яго жана так харашэнька зважаіць: (2 р.)
— У каго, у каго, мой міленькі, удаўся? (2 р.)
У чыё, у чыё ты ў золата прыбраўся? (2 р.)
— У цябе, у цябе, мая мілая, удаўся, (2 р.)
У тваё, у тваё я золата прыбраўся. (2 р.)

(вёска Бараўцы, Вілейскі раён).

Калі спявачак часам нехта пакрыўдзіў на вяселлі, то незадачліваму гуляку вельмі даставалася ад іх: яго данімалі жартоўнымі песнямі.

Нарэшце дзяўчаты заводзілі маладую ў камору або істопку, каб надзець жаночы галаўны ўбор. Валасы завівалі на часовую тканку, адзявалі маленькі чэпчык, пакрывалі наметкай або хусткай, звалі жаніха, каб пазнаў маладую сярод жанчын. У любы час вяселля маглі «ўкрасці маладую», асабліва ў час ад'езду да жаніха. Жаніх павінен быў знайсці яе або выкупіць.

Кульмінацыяй застолля была дзяльба караваю нявесты. Есці яго трэба было супольна ўсёй грамадой. Дзяліў яго старшы сват. Першы кавалачак з сярэдзіны ён даваў маладым. Калі дзялілі каравай, маладых абдорвалі падарункамі. Апрача сапраўдных матэрыяльных падарункаў, дарылі дзеля забавы і сімвалічныя, г. зн. гаварылі дасціпныя жарты. Напрыклад: «Дару пяток медзі, каб былі дзеці, як мядзведзі», або «Дару дзве цыбулі, каб не паказвалі адзін аднаму дулі» і г. д.

На ўсходзе Беларусі маладая плачам дзякавала за падарунак:

— А татулька родненькі,
А дзянькую табе
За падаркі твае,
За гадаванне тваё,
За выхаванне тваё,
За выданне тваё.

Вельмі кранальна развітвалася маладая з бацькамі, з сяброўкамі, суседзямі, цалуючыся з кожным. Дружка забіраў падушку маладой, кубельнік — кубел (пазней, у 30-я гг., скрынічнік забіраў скрыню). Іх сімвалічна выкуплялі.

Кубел ставілі на воз незамкнёным, каб другія дзеўкі замуж ішлі. Вясельныя песні спявалі і ў дарозе. Нявеста ехала да маладога ў вянку ці без яго, але закутаная наметкай або хусткай.

Сустракаючы маладых, у варотах двара жаніха раскладвалі вогнішча. Маладыя і іх дружыны пераязджалі праз агонь. Бацькі сустракалі маладых пачастункам і запрашалі іх у хату.

Заходзячы ў хату, маладая сыпала жытам і цукеркамі ва ўсе куткі, у хлеў несла кавалачак сыру, на студню вешала пояс — гэта каб усюды дабро вялося. Прыданка (жанчына ад маладой) вешала ручнікі на абразы і засцілала абрусамі сталы.

З песнямі і музыкай маладых праводзілі ў клець або ў гумно спаць. Калі іх будзілі (а рабілі гэта з музыкай), маладой накладвалі галаўныя ўборы замужняй жанчыны.

У мінулым на вяселлі выконвалі шмат жартоўных і сатырычных песень і за іх не крыўдавалі нават тады, калі ў песні дакладна падкрэслівалі тую або іншую загану.

Абавязковымі ўдзельнікамі вяселля былі музыкі: скрыпач і дудар, а пазней — гарманіст, цымбаліст і бубніст. Вечарам ігралі яны танцы для моладзі ў суседняй хаце, сенцах або карчме. Музыкаў наймаў жаніх. У пачатку XX ст. музыкі сталі іграць маршы «Дзень добры» для ўсіх удзельнікаў вяселля, пачынаючы з маладых. Яны віншавалі кожную пару, гаварылі дасціпныя пажаданні і жарты, ігралі які-небудзь танец або спявалі песню, абавязкова вясёлую.

Апошняй стравай на вяселлі была ў залежнасці ад мясцовай традыцыі або каша, або капуста, або спечаная курыца. З гэтай нагоды ў народзе трапна гаварылі: «Пасля кашы няма пашы» або «Пасля капусты сталы пусты». У канцы вяселля дзялілі каравай, пры гэтым радня маладога дарыла вытканыя рэчы, грошы, абяцала што-небудзь з жывёлы — авечку, цялё і г. д. Абяцанне заўжды выконвалі. Маладая ў сваю чаргу абдорвала блізкую радню жаніха, якая жыве ў гэтай хаце. У гэты ж дзень яго родзічы па чарзе танцавалі з маладой, а яна давала ім па поясу ці па насоўцы. Маладую знаёмілі, дакладней прывучалі да гаспадаркі: яна пякла бліны, мяла хату, хадзіла да крыніцы або да студні.

Вяселле магло працягвацца цэлы тыдзень (да чацвярга або суботы). Нездарма існуе прыказка: «Казала качарга гуляць да чацвярга». Чаму качарга? Склікаючы гасцей на дарэнне, сват стукаў у бэльку качаргой, палкай або бізуном (як дзе было прынята). Хоць вяселле гулялі некалькі дзён, рэдка калі напіваліся, бо пілі ў асноўным квас, ліпец (мядуха), піва, варануху (напітак з ягад). Напіткі стаялі на стале, часта ў гліняных місках.

У наступную нядзелю пасля вяселля маладыя з блізкай раднёй маладога едуць у госці да бацькоў нявесты. Яе бацькі частуюць іх пірагамі.

**Пахаванне (хаўтуры)**. Так, як і дзень хіліцца к вечару, а сонца рухаецца да захаду, жыццё чалавека ідзе да старасці, і, нарэшце, кожны з нас памірае. Кранальна і жалобна праходзіць пахаванне нябожчыка. Родзічы памёршага галосяць, хвалячы яго заслугі, пералічваючы дабрыню, чуласць і здольнасць.

Па даўняму звычаю, нябожчыка клалі на сена на кароткую лаву, што ля тарцовай сцяны, устаўлялі ў рукі свечку. Цесляры рабілі труну. Затым жанчыны мылі памёршага, апраналі ў святочнае адзенне, клалі яго ў труну, клалі таксама насоўку з меднай манетай для выкупу

месца. Незамужнюю дзеўку апраналі ва ўсё шлюбнае ўбранне, як для вянчання.

У труну звычайна клалі кветкі, падушку са стружак або з сена, традыцыйную кашулю, ручнік, пояс, настольнік, посцілку, любімыя рэчы памёршага, нават хлеб і зброю. Усё гэта дыктавалася верай людзей у замагільнае жыццё. Хворыя, калекі, жабракі часам клалі ў труну кавалачак хлеба, каб нябожчык хутчэй і іх забраў з сабой. Нябожчык знаходзіўся ў хаце не болей трох дзён. З хаты яго выносілі нагамі ўперад. Дзверы пакідалі адчыненымі, пакуль не вернуцца з могільніка. Выносячы памёршага, трэба разбудзіць таго, хто спіць. Гэта ў першую чаргу датычылася дзяцей.

У часе хаўтур у вёсцы спыняліся нават пільныя работы. Нават вяселле скарачалася, а хрэсьбіны пераносіліся на другі дзень.

На дварэ труну ставілі на сані або калёсы і запрагалі каня або вала. На труну клалі хлеб-соль, якія на могільніку аддавалі жабраку. І вось пахавальная працэсія адпраўлялася на могільнік. Спачатку мужчына нёс крыж, а ў другой руцэ — званочак, якім званіў усю дарогу. Пасля ішлі 2-3 пажылыя мужчыны з харугвамі; за імі везлі нябожчыка, а далей — павольна крочылі ўсе астатнія з непакрытымі галовамі (у мужчын).

Труну ставілі каля долу, запальвалі свечкі. Блізкія родзічы памёршага цалуюць яго ў рукі і лоб, галосячы.

Сярод мноства розных галашэнняў прыводзім тут найбольш тыповы плач жонкі па мужу:

Мой ты гаспадарчык!
А каму ж ты пакінуў дзетачак?
Яны дужа маленькія.
А хто іх будзе даглядаць?
А ты, бывала, куды пойдзеш —
Яны ж цябе на вуліцы пільнуюць:
Адно сядзіць пад плотам,
Другое — пад замётам,
І яны ж цябе даждуцца;
А цяпер ніколі не даждуць
І дамоў ніколі не прывядуць.

Нябожчыку развязваюць рукі і ногі, якія былі звязаны тасёмкай. Цесляры закрываюць труну і забіваюць яе цвікамі. Родзічы кідаюць у магілу дробную манету — выкупляюць месца для сваяка. Праваслаўныя клалі нябожчыка галавой на захад. Раней труну ў дол апускалі на наметках або ручніках. Кожны родзіч браў жменяй і тройчы сыпаў пясок на труну.

Паводле традыцыі і абраду славяне ў дахрысціянскі перыяд спальвалі трупы, радзей хавалі ў зямлю, насыпаючы курган. З канца X — пачатку XI ст. нябожчыкаў адпяваў поп. Хаваць памёршых у дашчатай труне ў ямах на могільніку ў сельскай мясцовасці пачалі ў XIII-XIV стст. На магіле насыпалі невялічкі ўзгорак і ля галавы ставілі крыж.

Вялікай павагай карыстаўся той конь, які вёз нябожчыка. Каню кланялася да пояса радня памёршага. Вярнуўшыся з могільніка, выціралі рукі аб печ, прымаўляючы: «Няхай паўміраюць прусакі ды тараканы, а не людзі», а пасля старанна мылі рукі.

Усе садзіліся за стол і спраўлялі памінкі — агульнае частаванне за жалобным сталом. Памінкі паўтараліся ў памінальныя дні: трэці, шосты, дзевяты, саракавы (сарачыны), паўгодкі і гадавіна пасля смерці, а таксама абавязкова на радаўніцу і дзяды. На памінках выконвалі пэўныя рытуалы, успаміналі памёршага, елі канун, клецкі, бліны, пакідалі яду нябожчыку. Канун — каша з вадою, падсалоджаная мёдам або цукрам. На поўдні Беларусі ў салодкую ваду кідалі пшанічныя каржы і называлі канун. Гэтую абрадавую страву падавалі ў пачатку і ў канцы вячэры.

## Дзе казка з песняй сябруе

Цяжкай і нуднай была праца селяніна. Чым больш настойліва ён чакаў плёну сваёй працы, тым больш доўгімі здаваліся будні дні і кароткімі — святочныя. Ні радыё, ні тэлевізара не было. Рэдка хто ўмеў чытаць і пісаць. І ўсё-такі жыццё ў вёсцы ў старыя часы не было такім сумным, як можа здавацца нам цяпер. Сяляне ўмелі весяліцца, умелі аблегчыць працу, зняўшы тугу песняй, жартам, казкай, гульнёй. І сведкай таму незвычайнае колькаснае багацце вусна-па- этычных твораў, складзенае беларускім народам.

У каляндарна-аграрнай, як і ў сямейнай абраднасці і паэзіі, да XX ст. захоўваліся рысы язычаскай і хрысціянскай вер. Згодна са стаоажытнымі ўяўленнямі, кожная пара года мела свайго міфічнага апекуна: вясна — Лёлю, лета — Цёцю, восень — Жытня, зіма — Зюзю. Жыцень уяўляўся як маленькі дзядок з доўгай барадою. Яго паважалі як духа багацця і дабрабыту, славілі ў песнях, называючы багачом, спарышом, раем. Зжынаючы жыта, у яго гонар «завівалі бараду» і клалі хлеб-соль, дзе ён быццам будзе мець прыстанішча. Зюзя, бог холаду, уяўляўся лысым, барадатым дзедам, які ходзіць па снезе босым і сваім подыхам уздымае завіруху і лютай сцюжай наганяе страх на ўсё жывое.

Нашы продкі ўшаноўвалі Ярылу — бога Сонца і ўрадлівасці, апекуна земляробства. А галоўнага бога — Перуна — уладальніка і даравальніка дажджу, які катаецца па небе ў залатой калясцы, баяліся і асцерагаліся. У гонар Жыжаля — бога агню і кавальскага рамяства — праводзілі ўвосень гульню «Жаніцьба коміна».

У мінулым прыроду не толькі абагатваралі, але і насялялі яе рознымі духамі. Гаспадаром лесу быў лясун, святла — бялун, духам вады — вадзянік, духам палёў і лугоў — палявік, самае непрывабнае месца — балота — беларус насяляў чарцямі. У народзе паважалі і ўшаноўвалі хатняга апекуна Чура.

У мінулыя стагоддзі народ верыў у святыя месцы — «прошчы». Гэта былі крыніцы, калодзежы, азёры, горы, камені. Такі калодзеж да нядаўняга часу быў каля вёскі Дарасіно Слуцкага павета.

У барацьбе з таямнічымі невядомымі сіламі прыроды скарыстоўвалі розныя прымхі і замовы. Так, калі чалавек у лесе заблудзіцца, то ў гэтым вінілі лесавіка, які нібыта гарэзнічае. Яго ашуквалі: пераварочвалі шапку ці хустку задам наперад.

У выніку судакранання і цеснага яднання з прыродай узнікалі не толькі фантастычныя ўяўленні аб ёй, але ўскрываліся прычынна-ўзаемазвязаныя змяненні з'яў, паступова адкрываліся магчымасці разумення наваколля. Так набываліся веды па аграноміі і народнай метэаралогіі. Жыццё сялян тады было цесна звязана з прыродай, а таму ўсе гадавыя народныя святы былі суаднесены з сельскагаспадарчым календаром, які цалкам залежаў ад пораў года. Кожны месяц беларусы называлі ў залежнасці ад стану прыроды і віду сваёй працы: студзень, люты, сакавік, красавік, май, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік, лістапад, снежань.

У Старажытнай Русі год пачынаўся 1 сакавіка; з канца XV ст.— 1 верасня. Менавіта ўвосень селянін бачыў усе вынікі сваёй працы. Быў сабраны ўраджай. Прыступіў да сяўбы жыта — асновы ўраджаю будучага года. Пазней Новы год быў перанесены на сярэдзіну зімы. Такім чынам, на сярэдзіну зімы прыйшліся два святы: каляды (25 снежня) і Новы год.

На каляды стаялі траскучыя маразы, гулялі завеі, а люд весяліўся. Уся сям'я была дома, бо вярнуліся парабкі і служанкі, якіх наймалі паны на работу. Адносны дастатак сялянскай сям'і і даваў магчымасць весяліцца. Перад калядамі забівалі свінню (калолі «каляду»). На каляды абавязковай стравай была верашчака, якая звычайна варылася з сала, касцей, каўбас. Пасля падлеткі і дарослыя забаўляліся арэхамі, гадаючы, цот ці лішка, лушчылі і елі сланечнік. На Палессі вечарам асобна дзеці і асобна дарослыя ішлі калядаваць. Хадзілі па

хатах і спявалі песні, якімі велічалі гаспадара. Пры гэтым часта насілі звязду, у якой гарэла запаленая свечка. Калядпікам давалі пірагі або частавалі чым-небудзь іншым.

Песні-калядкі і шчадроўкі сваім зместам скіраваны гаспадару, гаспадыні, сыну, дачцэ з пажаданнем дабрабыту, сямейнага шчасця. Менавіта шчадраванне на Новы год паслужыла пралогам для зараджэння народнага тэатра.

Звычай шчадраваць перад старым Новым годам захоўваецца і зараз у некаторых вёсках Беларусі.

У народным календары ёсць тры святы, якія прысвечаны вадзе: вадохрышча, Аляксей і мокры спас. Зімой 6(19) студзеня веруючыя святкуюць вадохрышча. У гэты дзень поп свянціў ваду ў калодзежы каля царквы або на бліжэйшай рацэ. Кожная сям'я запасалася гэтай вадой і трымала яе амаль год. З тае прычыны, што ў тую ваду траплялі іоны серабра, вада не закісала і таму лічылася гаючай. У наш час у медыцынскай практыцы выкарыстоўваюць сярэбраную ваду, атрыманую ў спецыяльных прыборах,— іанатарах.

На мяжы паміж зімовымі і веснавымі святамі была масленіца. На гэта свята каталіся з горак на саначках і перакуленых зэдліках, ездзілі на вазках, у якія былі запрэжаны коні, што мелі на шыях шалгуны. Здаралася, палілі жаночае чучала, якое сімвалізавала зіму. Дзеці рабілі снежную бабу, гушкаліся на арэлях. Гучалі масленічныя песні, якія ў сваёй аснове маюць мелодыку веснавых песень. Гэта дало магчымасць этнографам меркаваць, што некалі масленіца святкавалася вясной.

Пасля масленіцы адзначалі некалькі веснавых свят, звязаных з прыроднымі з'явамі і земляробчай працай: Ізбор, саракі, Аляксей, благавешчанне, вялікдзень, сёмуха.

Саракі адзначалі 9(22) сакавіка як сустрэчу птушак. Па павер'ю, прылятае вырай з 40 відаў птушак. Каб аблегчыць іх прылёт, дзетвара перакідвала трэскі праз стрэхі хат. А каб мець поспех у адшуканні птушыных гнёзд, дзеці стараліся ўстаць як мага раней, прынесці найбольш дроў да печы. У гэты дзень пяклі з хлебнага цеста печыва ў выглядзе розных фігур птушак. «На саракі — паляціць снег да ракі»,— гаварылі ў народзе.

Вясна абуджала ўсю прыроду. Яе чакалі і заклікалі. Абрадавае закліканне або гуканне вясны адбывалася на благавешчанне (25 сакавіка па старому стылю). На гэта свята дзяўчаты на ўзгорках або на стрэхах гумнаў песнямі-вяснянкамі заклікалі вясну.

Прыдзі, прыдзі, вясна,
Прыдзі, прыдзі, красна,

К нам у танчык!
Жаваранкі, прыляціце,
Вясну красную прынясіце,
Каб сонейка засвяціла...

У час спявання падкідвалі ўтору выпечаных з цеста жаўрукоў, а мужчыны трубілі на берасцяных пастухоўскіх трубах.

У вёсцы Тышкавічы (каля Моталя на Брэстчыне) у гэты дзень пякуць хлябцы ў выглядзе бараны, сярпа і бусловых лап. Як ласунак іх даюць дзецям і падлеткам: хлопчыкам — «барану», дзяўчынкам — «лапы буські». Тыя носяць хлябцы ў кішэнях, а як убачаць бусла, крычаць:

— Буська, буська, на табе лапкі...

Гэты цікавы звычай бытуе і ў наш час. У ім — паклон зямлі і прыродзе, у ім — ушанаванне сельскіх прылад працы, у ім — праяўленне павагі да бусла — вешчуна вясны.

У народзе лічылася, што на благавешчанне бусел садзіцца на гняздо. Нават склалі прымаўку пра бусла: «Хоць снегам падаўлюся, але на благавешчанне яўлюся».

Самым урачыстым веснавым святам быў вялікдзень (вялікадне). Свята гэта мае язычаскія карэнні і некалі ў славян адзначалася ў дні вясенняга раўнадзенства. Доўгі час захоўваўся ў вёсцы Касарычы Глускага раёна звычай пячы к вялікадню прэсны хлеб у выглядзе сахі і бараны. У гэтым бачна даніна павагі зямельцы-маці, якую апрацоўваюць гэтымі прыладамі.

Раніцай у першы дзень вялікадня ўсюды частавалася толькі свая радня; хадзілі глядзець «ігру» сонца. Пасля полудня можна было ісці і ў госці. Пасха (пірог) ляжала на стале ўсе тры дні. За гэты час яе з'ядалі, акрамя таго, што адносілі дзядам на могільнік.

Увечары раздавалася гучанне дуды, пішчанне скрыпкі і песні — гэта ішлі валачобнікі (дарослыя мужчыны, радзей і жанчыны). Яны спявалі пад вокнамі валачобныя песні кожнаму гаспадару або гаспадыні, іх дзецям. Мэта спеваў — павіншаваць вяскоўцаў з цёплай вясной, пажадаць ім здзяйснення светлых мар і надзей. Узнагароды за віншаванне насіў механоша. Для валачобных песень характэрны прыпевы: «Зялёны явар кудравы», «Спявайце, малойцы, спявайце» і іншыя. Валачобныя песні па сваёй функцыі нагадваюць калядкі і шчадроўкі, але па тэматыцы і сваіх сюжэтах адрозніваюцца больш канкрэтным асвятленнем палявых работ. У некаторыя песні ўводзяцца міфалагічныя вобразы. У ролі працаўнікоў выступаюць святыя Ляксей, Ізбор, Юрый, Мікола, Барыс, Пятро, Ілля. І кожнае свята, як і кожны святы, непасрэдна звязаны з пэўнай сезоннай работай.

Кожны святы — памагаты і апякун пэўнай дзейнасці селяніна. Вось Юр'я, паводле старажытнай славянскай міфалогіі, лічыўся апекуном хатняй жывёлы і земляробства. Святкавалі Юр'я 23 красавіка старога стылю. У гэты дзень, упершыню пасля зімы, вярбовымі дубцамі выганялі жывёлу на юр'еўскую расу. Гэты выган абстаўляўся магічнымі дзеяннямі, спачатку абкурвалі статак купальскімі травамі, ядлоўцам, запаленым у гаршку.

Пад вечар жанчыны ішлі да жытняй руні, частаваліся і спявалі песні пад ігру дуды. Гаспадар клаў у рунь каравай, каб, прымяраючы яго да вышыні руні, меркаваць аб будучым ураджаі.

Аблюбаванымі месцамі, дзе моладзь бавіла свой вольны час у нядзельныя і святочныя дні, былі поплаў каля ракі, луг каля вёскі і г. д. Тут дзяўчаты вадзілі карагоды, спявалі вяснянкі:

— А ты, вясна, а ты, красна,
А што ж ты нам прынясла?
— Я прынясла, прынясла,
Цёпленькай вадзіцы,
Зялёненькай травіцы,
Старым бабкам — па кiёчку,
Малодачкам — па сыночку,
Пастушкам — па дубчыку,
А конюшкам па коніку,
Малым дзеткам — па яечку,
А кароўкам — па цялятку,
Красным дзеўкам — па вяночку.

Вясну земляробы ўяўлялі прыгожай дзяўчынай у вянку з кветак і зялёным убранні. У гонар яе спявалі песні, вадзілі, карагоды. Адным словам, сустракалі і славілі вясну, якая адмыкала зямліцу, несла з сабой травіцу, цвіценне і цёплае сонейка.

Радаўніца (дзень памяці памёршых) была на 9 дзень пасля вялікадня, у аўторак. Пра радаўніцу складзена прыказка: «Раніцай пашуць (аруць), у поўдзень плачуць, а вечарам скачуць».

Напярэдадні позняга веснавога свята — сёмухі дзяўчаты, упрыгожаныя вянкамі, ішлі на луг або ў гай завіваць бярозкі. Сяброўкі завівалі вяршкі двух бярозак і праз гэты вянок цалаваліся — што азначала, што яны «пакуміліся» (парадніліся). Дзяўчаты вярталіся з гаю з «маем» — з бярозкамі, кветкамі, кляновымі галінкамі. Зялёным «маем» упрыгожвалі хату унутры і знадворку: яго ўтыкалі пад бэлькі, каля вокнаў, каля дзвярэй. Каля дзвярэй сенцаў, знадворку і каля брамы прымацоўвалі па баках па бярозцы. На жуjравель калодзежа

вешалі кляновы вянок. Сёмуха прысвячалася ўшанаванню расліннасці, святкавалі яе некалькі дзён.

На сёмуху спявалі сёмушныя або траецкія песні; большасць з іх — на тэму замужжа. Сёмуха была парой вяселляў, бо былі скончаны палявыя работы і яшчэ не пачаўся сенакос. Былі сярод траецкіх песень і непасрэдна абрадавыя. У некаторых вёсках на Палессі на другі дзень сёмухі дзяўчаты вадзілі «куст» і спявалі куставыя песні. У ролі «куста» выступала абраная дзяўчына, якая ўся ўпрыгожана кляновымі галінкамі і вянком на галаве з кляновых лісцяў. «Куст» праводзілі да кожнай хаты, спыняліся каля дзвярэй і спявалі песню, у якой казачна велічалі гаспадара. Тую самую песню, замяніўшы слова «дзядзька» на «цётку», спявалі гаспадыні. Пасля слоў падзякі «куст» вялі далей.

Усё часцей і часцей селянін скіроўваў свой позірк да сонца. Дні яшчэ былі доўгія, але з другой палавіны чэрвеня дзень пачынае карацець. У час летняга сонцастаяння наладжвалася ўрачыстасць у гонар сонца — купалле, якое адзначалася ў ноч з 23 на 24 чэрвеня па ст.ст. (з 6 на 7 ліпеня). Купалле — адно з прыгажэйшых свят беларускага народа.

Днём дзяўчаты збіралі зёлкі — браткі, купальнік і іншыя. Вечарам каля рэк, жытоў, лесу раскладвалі касцёр; на высокім шасце запальвалі кола. Ля кастроў юнакі і дзяўчаты вадзілі карагод, танцавалі, скакалі праз касцёр. Пасля дзяўчаты пускалі вянкі на ваду ў рацэ, жадаючы адгадаць свой будучы лёс.

А на Івана Купала
Дзеўка траву ірвала,
На цвяточкі гадала —
На ціхі Дунай пускала.
— Вы, цвяточкі-васількі,
Усю праўду скажыце.

Так спяваецца ў купальскай песні. А спявалі ў гэту ноч шмат. Дзяўчаты ў песнях кпілі над хлопцамі, выкрываючы іх недахопы. Начное гулянне раніцай заканчвалася купаннем у рацэ. Паводле старажытнага ўяўлення людзей, у гэту ноч дрэвы і звяры могуць размаўляць, а сонца ўзыходзіць іграючы. Толькі ў гэту ноч цвіце папараць. А хто знойдзе і зможа сарваць іскрыстую кветку, стане відушчым і шчаслівым. Гэтай легендай выражалася адвечная мара людзей аб шчасці, імкненне да лепшай долі, да пазнання таямніц жыцця.

Купальская ноч, як лічылі, поўна чараў і прымхаў. Таму вокны хат, дзверы і аконцы хлявоў абтыкалі лісцямі папараці і крапівы: каб

чараўніца не пранікла. Менавіта на купалле чараўнікі і ведзьмы, карыстаючыся дапамогай злых духаў, наносяць людзям і жывёле вялікую шкоду. Часцей за ўсё яны адбіраюць у кароў малако. І з гэтай прычыны, відаць, у рацэ тапілі саламянае чучала ведзьмы.

Купалле — адно са старажытнейшых народных свят. Аб ім упамінаецца ў пісьмовых помніках яшчэ ў XII ст. Дарэмна змагалася хрысціянская царква з купальскімі агнямі. Купалле трывала захоўвалася. Не перамогшы купалу, царква прыстасавала да яго святкаванне Яна (Івана). Гэта знайшло адлюстраванне ў песнях. Возьмем, напрыклад: «Сягоння — купалле, заўтра — Ян».

Да нашага часу купалле не страціла свайго чароўнага маляўнічага харaства. Свята гэта спраўляюць у Наддзвінні і ў Навагрудскім раёне, на Мядзельшчыне і Маладзечаншчыне. У вёсцы Вязынка і іншых месцах нашай рэспублікі яно адзначаецца, як дзень паэзіі Янкі Купалы. Купалле на Беларусі заслугоўвае таго, каб стаць сапраўдным святам сонца, народнай паэзіі.

На пяты дзень пасля Яна святкавалі Пятра. Абрадавы бок Пятра выражаны слаба. У цёплы час людзі адпачывалі на лаўках, абменьваліся сваімі думкамі, спявалі пятроўскія песні, якія часцей за ўсё былі жартоўнага характару.

Ад Пятра да Іллі — час касьбы і пачатак жніва — вялікіх свят не было. Стаіць гарачая пара ў прамым і пераносным сэнсе (пільніца) — трэба пільна звозіць сена і жаць жыта. Свята Ілля адзначалася 20 ліпеня (2 жніўня). У народнай міфалогіі ён уяўляўся Перуном, які ездзіў у залатой калясніцы па небе і грымеў калёсамі. Звычайна ў гэту пару былі моцныя навальніцы. Як тлумачаць вучоныя, напэўна, на Русі да прыняцця хрысціянства наладжвалася святкаванне ў гонар Перуна, а пазней было выцеснена і заменена святам у гонар хрысціянскага прарока Іллі. Святы Пятро і Ілля настолькі моцна ўпляліся ў народны каляндар, што малапісьменныя і непісьменныя сяляне адносна іх вызначалі час і тэрмін пэўных работ. Характар Іллі і яго гадавое становішча адлюстраваліся ў прымаўках: «Ілля наробіць гнілля», «Прыйшоў Пятрок — адпаў лісток, прыйшоў Ілля — адпала два, прыйшла восень — адпала восем».

8(21) верасня святкавалі багача ці багатуху. Этнограф А. Я. Багдановіч (бацька Максіма Багдановіча) пісаў, што святкаванне багача ў верасні больш або менш супадае з часам асенняга раўнадзенства, што часткова ўказвае на прыналежнасць гэтага свята да сонечнага культу. Магчыма, свята багача святкавалі нашы продкі ў І тысячагоддзі таксама ўрачыста, як і каляды або купалле. Пасля багач канчаткова быў выцеснен хрысціянскім святам у гонар боскай маці.

У народным светапоглядзе святы маюць уласныя імёны, звязаны з пэўнай сезоннай працай або з'явай прыроды.

Увесь народны каляндар арыентаваўся на пэўныя святы, якія ў асноўным залежалі ад астранамічнага календара.

У кожнай мясцовасці, вёсцы існавалі і свае тутэйшыя святы. Свята памінання продкаў «дзяды» адзначаліся ў розных вёсках у розны час, адзін або некалькі разоў.

Святкаванне дзядоў тры-чатыры разы ў год лішні раз гаворыць аб вялікай павазе да сваіх продкаў. У некаторых вёсках да цяперашняга часу захоўваецца гэта традыцыя.

У кожнай царкве было сваё прастольнае свята, якое адносілася да якой-небудзь тутэйшай падзеі. У мінулым у дзень свят у той вёсцы, дзе была царква, наладжваліся кірмашы або фэсты. Кірмаш у Полацку вядомы з XV ст. У той жа час нарадзіўся і кірмашовы тэатр, які ўключаў у сябе выступленні скамарохаў, фокуснікаў і асілкаў. Хоць кірмаш узнік як свята царквы, у хуткім часе ён становіцца па сваёй сутнасці свецкім святам. Шырокую вядомасць набылі Міхайлаўскі кірмаш у Нясвіжы, Кобрынскі на Палессі, Зэльвенскі ў Прынямонні, Бешанковіцкі ў Прыдзвінні. Большасць з іх былі кантрактавыя, калі з'язджаліся на іх паны і паўпанкі, шляхта і мяшчане. Тут заключалі розныя кантракты, наймаліся на службу, сустракаліся знаёмыя і сябры. Гулянне працягвалася некалькі дзён. У мястэчку Мір на 9 мая і 6 снежня (па ст.ст. былі конскія кірмашы, на якіх ішоў гандаль коньмі.

Сельскія кірмашы ў адрозненне ад гарадскіх і местачковых праходзілі болей сціпла. Праўда, у вёсках каля Століна, некалі разыгрывалася бяспройгрышная латарэя, былі птушыныя аўкцыёны, турніры асілкаў. На ўсіх кірмашах купцы, крамары, рамеснікі і сяляне вывозілі розныя тавары. Кірмаш адкрываўся на плошчы. Ехалі сюды хлопцы, дзяўчаты і сямейныя за некалькі вёрст. Крыўдна было таму, да каго ў дзень кірмашу не прыязджалі здалёк родзічы. На кірмаш прыходзілі ў канцы абедні згоджаныя на вечарынку музыкі: скрыпач, лірнік, гусляр, дудар, бубніст, а ў пазнейшы час — гарманіст і цымбаліст. Часам яны спаборнічалі паміж сабой, паказваючы сваё майстэрства. У канцы XIX — пачатку XX ст. на кірмашах пачалі з'яўляцца музыкі з шарманкамі.

Да самай раніцы не спала вёска, да самай раніцы не сціхала гулянне, да самага відна раздавалася музыка, пакуль іх не спыняў певень. Нарэшце трубіў своеасаблівы найгрыш пастух, збіраючы статак. Моладзь разыходзілася па хатах, госці спяшаліся дамоў у далёкія вёскі.

Святы садзейнічалі калектыўнаму адпачынку і збліжэнню людзей. У гэтым іх станоўчае значэнне. Аднак большасць з названых тут свят нясуць на сабе адбітак хрысціянскай ідэалогіі. Шмат якія з іх ужо забыты і не святкуюцца.

У 1981-1982 гг. работнікі культуры, мінскія студэнты зрабілі спробу адрадзіць на новай бытавой аснове старыя народныя святы: кірмаш, калядкі, масленіцу, гуканне вясны і купалле. Святы прайшлі цікава, сабраўшы вялікую колькасць людзей. Напрыклад, на Столінскім кірмашы ў 1981 г. было каля 20 тысяч чалавек. Надоўга запомніліся жыхарам Заслаўя каляндарныя святы, што былі ўзноўлены культработнікамі і студэнтамі ў 1982 г.

Цяпер старыя народныя святы напаўняюцца новым зместам і адпавядаюць сучаснасці. Вячоркі і кірмашы сталі своеасаблівымі канцэртамі мастацкай самадзейнасці.

Якое ж свята без песні?! Да традыцыйных свят дабавіліся і новыя. Гэта: Кастрычнік, Першамай, Дзень Перамогі, Дзень партызана, Дзень ведаў, выпускны вечар і іншыя. Кожнае з іх мае сваю абраднасць і сваю сімволіку. У Дзень Перамогі арганізуюць сустрэчы з удзельнікамі вайны і мітынгі каля брацкіх магіл з ускладаннем кветак, а ў Дзень партызана — сустрэчы партызан на месцах былых стаянак і зямлянак, партызанскія кастры і мітынгі.

Папулярнымі з'яўляюцца прафесійныя святы: Дзень будаўніка, Дзень работніка сельскай гаспадаркі і г. д.

## Народныя ўзоры

Бадай самымі старажытнымі відамі мастацтва былі карагоды, народныя гульні і каляндарна-абрадавыя песні — тыя віды мастацтва, якія некалі ў дахрысціянскую эпоху былі непасрэдна звязаны з язычаскімі абрадамі і святамі. Карагод — від народнай масавай гульні, якая ўключае харавыя спевы, элементы танца і драматычнага дзеяння. Карагод — адзін са старажытнейшых відаў мастацтва, у якім яшчэ песня не аддзялялася ад танца, ад дзеяння. Першыя летапісныя звесткі пра карагоды адносяцца да XI ст. Вадзілі карагоды на лужку, каля арэляў, на вуліцы, у зімовы час у хаце. Удзельнікі карагоду трымаліся за рукі або за рагі хустачак і ўтваралі круг, які рухаўся па сонцу. Напэўна, некалі карагоды прысвячаліся сонцу і гулялі іх у пэўныя дні. Ва ўсякім выпадку кругавыя карагоды імітуюць рух сонца, сімвалізуюць вянок з жывых кветак — дзяўчат. Само зараджэнне карагодаў звязана са старажытнымі абрадамі.

Больш за ўсё карагодаў прыпадала на вясну. З веснавых тыповымі з'яўляюцца кругавыя: «Перапёлачка», «Ой, венча, мой венча». Моладзь бавілася карагодамі і ў іншыя поры года. Да нашага часу карагоды водзяць калектывы мастацкай самадзейнасці ў час масавых гулянняў. Карагоды змянілі сваю форму бытавання, звузілі шырыню распаўсюджанасці.

А без гульняў, забаў і песень хіба ж бывае свята? Да нашага часу захаваліся народныя гульні, у якія гуляюць у вольны час дарослыя і дзеці. Самі гульні спалучаюць у сабе элементы танца, песеннага і славеснага фальклору, тэатра, працоўнага і спартыўнага майстэрства. Узніклі яны ў глыбокай старажытнасці, а таму нясуць на сабе сляды цэлых эпох. Захаваліся гульні з паляўнічымі і сельскагаспадарчымі сюжэтамі. У некаторых адбіліся гістарычныя, ваенныя падзеі і сацыяльна-эканамічныя адносіны. На Беларусі вядома каля 400 гульняў. Цікавая дзіцячая гульня «Яшчур». Вельмі пашыраны гульні спартыўнага характару. Гэта: «У жмуркі», «Апука».

Самыя старажытныя віды мастацтва (карагоды і гульні) садзейнічалі станаўленню іншых відаў народнай творчасці і жанраў: хора і песні, танца і тэатра. У беларускім фальклоры па колькасці твораў першае месца належала песні, другое — казцы. У песнях і казках людзі выказвалі ў паэтычнай форме свой настрой, свае спадзяванні і мары.

Вялікае значэнне для вясковых забаў мелі музыкі. Апрача такіх інструментаў, як ліра, скрыпка, бубен, дуда, цытра, гуслі, музыкі скарыстоўвалі і даволі прымітыўныя: брусочкі, свісцёлкі, дудку, жалейку, рог і нават драўляны грэбень. Напэўна, вялікая цяга была ў людзей да прыгожага, каб прымусіць іграць бярösту, дрэва і гліну, каб атрымаць чароўныя гукі з нягучных матэрыялаў.

У пачатку нашага стагоддзя ліру і дуду сталі выцясняць цымбалы і гармонік. Музыкі сталі часта выступаць у ансамблях: скрыпка, гармонік, бубен або цымбалы, гармонік і бубен (ці жалейка). Дарэчы, беларуская зямля дала свету нямала вядомых кампазітараў (Міхаіл Агінскі, Станіслаў Манюшка, Антон Абрамовіч).

А колькі было невядомых сельскіх самавучак- музыкаў, слава якіх абмяжоўвалася толькі навакольнымі вёскамі! Без іх не абыходзілася ніводная вечарынка, ніводнае свята. Пад іх чароўную ігру скакалі народныя танцы: «Мяцеліцу», «Лявоніху», «Трасуху» («Пацяруху»), «Крыжачок», «Вянок», «Журавель» і іншыя. Некаторыя з іх, акрамя музыкі, суправаджаліся песнямі. У танцах народа так або інакш адлюстравалася навакольная прырода і працоўная дзейнасць беларуса. Відаць, і самі танцы тыя ствараліся на працягу вякоў.

Найбольш старажытныя з іх у мастацкай форме імітуюць з'явы прыроды («Мяцеліца», «Віхор», «Чарот»), павадкі жывёл і птушак («Казачка», «Бычок», «Верабей», «Зязюля»), паказваюць працоўную дзейнасць чалавека («Млынок», «Лянок», «Касцы», «Церніца»); крыху пазнейшыя адлюстроўваюць характар народа і чалавека («Лявоніха», «Юрачка», «Мікіта», «Казачок»). Малюнкі «Лявоніхі» і «Крыжачка» напамінаюць прыгожыя арнаменты народнай вышыўкі. Такім чынам, усе названыя танцы самабытныя і непасрэдна былі звязаны з жыццём людзей.

Некаторыя гульні, шчадроўшчыкі, вандроўныя музыкі і скамарохі садзейнічалі станаўленню і развіццю народнага тэатра. Час яго ўзнікнення губляецца ў глыбіні вякоў. Элементы тэатралізаванага дзеяння маюцца ў народных гульнях («Жаніцьба Цярэшка і «Яшчур»), у каляндарнай і сямейнай абраднасці.

Скамарохі вадзілі з сабой мядзведзя і давалі прадстаўленні. У мястэчку Смаргонь у XVII ст. была створана спецыяльная ўстанова, у якой дрэсіравалі мядзведзяў для прадстаўленняў. У народзе яна атрымала жартоўную назву «Смаргонская акадэмія».

Вандроўны тэатр лялек (батлейка) вядомы з XVI ст. Спачатку на драўляных лялькаах паказваліся сцэны, звязаныя са святам каляд, і іншыя. У пачатку XX ст. паявіўся новы тып батлейкі, які жыва адгукаўся на розныя мясцовыя падзеі. Так, у докшыцкай батлейцы Патупчыка побач з традыцыйнымі персанажамі дзейнічалі тутэйшыя паны, паліцэйскія і чыноўнікі. Шмат батлеечнікаў жыло ў Віцебску і Докшыцах, адкуль яны з небагатым рэквізітам накіроўваліся ў розныя вёскі і мястэчкі Беларусі.

У XIX ст. батлеечныя сцэны выконвалі жывыя акцёры, імі станавіліся рамеснікі і сяляне. Яны ставілі невялікія камедыйныя сцэнкі (інтэрмедыі), а таксама п'есы. З інтэрмедый часта выконваліся «Мацей і доктар», «Цыган і цыганка», персанажы якіх былі асабліва папулярныя. Сярод п'ес найбольш пашырана была народная драма «Цар Максіміліян», канфлікт якой паміж царом-тыранам Максіміліянам і яго сынам Адольфам меў шырокі водгук у народзе.

Беларускі народ мае даўнія тэатральныя традыцыі. Апрача скамарохаў і батлеечнікаў, яшчэ ў XVI ст. давалі прадстаўленні школьныя тэатры, якія існавалі пры брацкіх і іншых школах. Вялікі ўплыў на школьны тэатр зрабіла дзейнасць Сімяона Полацкага, аўтара п'есы «Камедыя прытчы пра блуднага сына».

Вялікую папулярнасць набыў Завельскі школьны тэатр, што існаваў у 80-90-я гг. XVIII ст. і размяшчаўся каля вёскі Валынцы (на Полаччыне). Тут вучні пад кіраўніцтвам настаўнікаў ставілі трагедыі,

камедыі, арыгінальныя «оперы». Наведвальнікамі і гледачамі гэтага тэатра былі школьнікі і сяляне.

Тэатральны вопыт беларускіх народных акцёраў быў скарыстаны ў дзейнасці першага ў Рускай дзяржаве прыдворнага тэатра, які быў адкрыты ў 1672 г. у Маскве. Большасць акцёраў у ім былі беларусы, якія перасяліліся ў Рускую дзяржаву.

У XVIII-XIX стст. на тэрыторыі Беларусі было некалькі прыгонных тэатраў, якія належалі магнатам і служылі для іх пацехі. Просты люд мог разлічваць толькі на вандроўных батлеечнікаў і скамарохаў.

Цяпер у рэспубліцы існуюць звыш 10 прафесіянальных тэатраў розных жанраў і каля 40 народных. Развіццю іншых відаў народнай творчасці садзейнічаюць калектывы мастацкай самадзейнасці, для якіх створаны добрыя ўмовы, а іх дзейнасць розным чынам заахвочваецца.

## Заключэнне

Наша падарожжа падышло к канцу і сцежкі, па якіх мы вандравалі, зноў выводзяць нас у сучаснасць. І тут, здаецца, лёгка іх згубіць, не заўважыць у вірлівым сучасным жыцці. Куды ж скіраваны тыя сцежкі зараз? Напэўна, перш за ўсё ў музей? Так, але не толькі ў музей. Вы ўжо маглі заўважыць, што не ўсё тое, чым карысталіся нашы продкі, знікла без слядоў. Шмат чаго прапала назаўсёды, але нямала і ўдасканалілася, атрымала новае развіццё. Нездарма ва ўсіх кутках Беларусі супрацоўнікі музеяў і, у прыватнасці, Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту шукаюць старасвецкія рэчы і будынкі. Яны ствараюць музей, які будуецца на пагорках каля ракі Пціч, непадалёку ад Мінска. Першая чарга яго будзе пабудавана да 1987 г., калі ён прыме першых наведвальнікаў.

Тады мы з вамі, дарагія чытачы, зможам зрабіць двухгадзінную экскурсію да нашых продкаў у вёску XIX ст., зможам паглядзець рэчы, якімі карысталіся прадзеды. Вы ўбачыце там старыя хаты і хлявы, гумны і клеці, ветракі і карчму. З цягам часу музей народнай архітэктуры і быту стане буйной этнаграфічнай установай рэспублікі.

Этнаграфічныя музеі — гэта цэнтры не толькі навуковага вывучэння і сістэматызацыі культурнай спадчыны народа, але і месца захавання і паказу старых рэчаў побыту для шырокай публікі. Каб захаваць, вывучаць і прапагандаваць спадчыну народнай культуры, сіламі адных толькі музеяў не абысціся. Гэта важная справа павінна знайсці працяг у стварэнні рэгіянальных і мясцовых этнаграфічных музеяў. Шмат чаго ў гэтым напрамку ўжо робіцца.

Ствараюцца краязнаўчыя музеі ў школах, калгасах, у раённых цэнтрах. Памяшканнямі для тутэйшых музеяў служаць старыя будынкі. Таму добрыя прыклады: этнаграфічныя музеі ў школе ў вёсцы Новы Свержань Стаўбцоўскага і ў калгасе «Новы быт» Мінскага раёнаў, краязнаўчыя — у Семежаў- скай сярэдняй школе Капыльскага і ў калгасе «Рассвет» Вілейскага раёнаў. Апошні размясціўся ў вёсцы Іжа ў драўлянай царкве, паказаўшы тым самым добры прыклад разумнага выкарыстання помніка народнай архітэктуры. А ў вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна этнаграфічны музей размясціўся ў адноўленай сялянскай хаце мінулага стагоддзя.

Мясцовыя музеі ахоўваюць помнікі культуры і распаўсюджваюць этнаграфічныя веды сярод насельніцтва, што садзейнічае больш шырокаму прыцягненню грамадскасці да аховы культурнай спадчыны народа. Шмат чаго ў гэтай пачэснай справе могуць зрабіць настаўнікі і школьнікі. Цікавы музей, музей народнай творчасці,

створаны навучэнцамі і выкладчыкамі Бабруйскага мастацка-тэхнічнага вучылішча.

Вялікае значэнне для папулярызацыі помнікаў мінулага маюць такія музеі, як музей народных рамёстваў і промыслаў у Заслаўі і музей народнага мастацтва ў Раўбічах Мінскага раёна. Ствараецца музей народнай творчасці ў вёсцы Моталь Іванаўскага раёна.

Зразумела, нельга звезці ўсе помнікі драўлянай архітэктуры ў музей, а таму важна іх рэстаўрацыя і захаванне на месцы. Так плануецца рэстаўрацыя ветрака ў вёсцы Адэльск Гродзенскага раёна і свірна ў горадзе Мсціслаўлі.

Ахова гістарычнай забудовы гарадоў стала звыклай справай, а вось аб захаванні гістарычнай забудовы вёскі сталі думаць зусім нядаўна. Некаторыя кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, перабудоўваючы вёскі, імкнуцца захаваць тую ці іншую частку вуліцы са старымі хатамі, што стварае характэрную забудову мінулага.

Не толькі ў музеі вядуць сцежкі мінулага. Шмат чаго колішняга арганічна ўвайшло ў наша жыццё. Дзе-нідзе яшчэ ўжываюцца старажытныя прылады працы сялян і рамеснікаў. На прысядзібным участку не абысціся без плуга, бараны, акучніка, касы і сярпа. У некаторых вёсках жанчыны настройваюць кросны з крамных нітак і ткуць прыгожыя посцілкі, абрусы і ручнікі. Радуюць вока вышыванні жанчын у вёсках Ганцавіцкага раёна. Не, не знікаюць добрыя традыцыі нашых працавітых і таленавітых продкаў. Жывуць яны нашым жыццём побач з намі. Хто не ведае сёння дабротных прыгожых кажушкоў з вёскі Моталь Іванаўскага раёна! Хто не бачыў неглюбскіх ручнікоў і не чуў пра іх сусветную славу! Старажытнейшае майстэрства краўцоў і ткачых і сёння служыць на карысць людзям.

Напэўна, многія ведаюць, якой папулярнасцю карыстаюцца вырабы івянецкіх ганчароў. Івянецкая кераміка вядома далёка за межамі рэспублікі. Пляценне з саломкі ў наш час ператварылася ў сапраўднае прыкладное мастацтва, што стала асновай для развіцця сучаснай мастацкай сувенірнай вытворчасці. З добрым густам сплецены сувеніры з саломкі на Магілёўскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Не залежваюцца ў магазінах ручнікі, абрусы і посцілкі, якія вытканы ў народных традыцыях на многіх фабрыках мастацкіх вырабаў. Для іх вытворчасці скарыстоўваюцца льняныя, баваўняныя і віскозна-шоўкавыя ніткі. Народныя традыцыі ткацтва і рамёстваў вывучаюць супрацоўнікі Мастацка-эксперыментальнай лабараторыі Міністэрства мясцовай прамысловасці. Узоры, што ткалі нашы бабулі, вывучаюцца мастакамі і этнографамі. На аснове народных традыцый мадэльеры ствараюць модныя ўзоры сучаснага адзення. З поспехам

прайшла выстаўка беларускага нацыянальнага касцюма ў Парыжы ў 1982 г., якую падрыхтаваў Мінскі Дом мадэлей і Дзяржаўны музей БССР.

Быт і духоўная культура беларускага народа знайшлі адлюстраванне ў творах вядомых беларускіх, рускіх і польскіх пісьменнікаў. Гэта: «Шчароўскія дажынкі», «Купалле», «Вечарніцы» В. Дуніна-Марцінкевіча; «Паўлінка» Я. Купалы; «Новая зямля» Я. Коласа; «Людзі на балоце» І. Мележа; «Алеся» А. Купрына; «Дзяды» А. Міцкевіча; «Дзюрдзі» Э. Ажэшкі і іншыя.

Фалькларыст З. Мажэйка і кінарэжысёр Н. Сава стварылі навукова-папулярныя кінафільмы «Калядкі», «Галасы стагоддзяў», «Памяць вечнасці». Гэтыя кінафільмы сталі выдатнымі помнікамі этнаграфіі і духоўнай культуры нашага народа.

Традыцыі народнага мастацтва працягваюць далейшае жыццё ў прафесійных і самадзейных калектывах. Нагадаем Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу БССР імя Р. Р. Шырмы, Дзяржаўны народны хор БССР, фальклорна-харэаграфічны ансамбль «кароткі», вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры», фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Лявоніха» саўгаса «Сцяг Кастрычніка» Бярэзінскага раёна, ансамбль народнай песні «Валачобнікі» Мінскага інстытута культуры і іншыя.

Фальклор працягвае новае бытаванне ў калектывах мастацкай самадзейнасці. Узніклі і бытуюць у народзе новыя песні, прыказкі, якія адлюстроўваюць асаблівасці сацыялістычнага быту, гістарычныя падзеі сучаснасці.

Разнастайнасць і багацце сучаснай народнай культуры робяць значны ўплыў на ўсе бакі жыцця. Падтрымаць лепшае, вызначыць галоўныя напрамкі ў гэтым працэсе магчыма толькі пры сур'ёзным навуковым вывучэнні народнай культуры. Гэтымі і іншымі навуковымі праблемамі займаюцца Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр па народнай творчасці і культурна-асветніцкай рабоце. Задача апошняга — падтрымка і прапаганда ўсяго лепшага, што ствараецца ў розных галінах народнай творчасці. З гэтай мэтай праводзяцца конкурсы, выстаўкі, кірмашы, фестывалі, на якіх народныя аматары могуць прадэманстраваць свае творчыя дасягненні ў мастацтве. Прапаганда помнікаў этнаграфіі і народнай творчасці вядзецца на старонках бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», часопіса «Мастацтва Беларусі», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», у перадачах «Фальклор» і «Крыніца» Беларускага радыё і тэлебачання.

Як бачым, сцежкі нашых продкаў уліліся ў шырокую дарогу сучаснай культуры — нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу. Лепшыя традыцыі народнай спадчыны развіваюць светапогляд людзей і нацыянальную свядомасць, садзейнічаюць выхаванню ў нашчадкаў любві да роднай зямлі, роднага народа.

## Што чытаць па этнаграфіі Беларусі

Андрианов Б. В. На Великой Русской равнине.— М.: Рус. яз., 1981.

Беларускае народнае жыллё/Пад рэд. В. К. Бандарчыка.— Мн.: Навука і тэхніка, 1973.

Болотникова В. А., Вапельник Л. М., Корзун И. П. и др. Белорусская кухня,— Мн.: Ураджай, 1977.

Гринблат М. Я. Белорусы: Очерки этнической истории и происхождения.— Мн.: Наука и техника, 1968.

Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах.— Мн.: Нар. асвета, 1979.

Дзіцячы фальклор/Пад рэд. К. П. Кабашнікава.— Мн.: Навука і тэхніка, 1972.

Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі.— Мн.: Маст. літ., 1977.

Курманович И. С. Мастерство, фантазия, щедрость.— Мн.: Полымя, 1984.

Молчанова Л. А. Материальная культура белорусов.— Мн.: Наука и техника, 1968.

Назина И. Д. Белорусские народные музыкальные инструменты.— Мн.: Наука и техника, 1979.

Помнікі этнаграфіі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1981.

Промыслы і рамёствы Беларусі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1984.

Пилипенко М. Ф. Этнография Белоруссии.— Мн.: Выш. шк., 1981.

Песні народных свят і абрадаў/ Укл. і рэд. Н. С. Гілевіча,— Мн.: выд. БДУ, 1974.

Раманюк М. Ф. Беларускае народнае адзенне: Альбом.— Мн.: Беларусь, 1981.

Сахута Я. М. Фарбы роднай зямлі: Нарысы пра народнае мастацтва Беларусі. Кніга для вучняў.— Мн.: Нар. асвета, 1985.

Титов В. С. Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов XIX — нач. XX в.— Мн.: Наука и техника, 1983.

Чантурия В. История архитектуры Белоруссии.— Мн.: Выш. шк., 1969.

Этнаграфія беларусаў.— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.

Яніцкая М. М. Гісторыя шкляной вясёлкі.— Мн.: Нар. асвета, 1986.

## ЗМЕСТ

Локотко Александр Иванович
Борис Семен Викентьевич
ДЕДОВСКИМИ ТРОПАМИ
Этнографические очерки
Книга для учащихся

Минск издательство «Народная асвета»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Ю. М. Сувораў
Рэдактар Я. С. Гучок
Малодшы рэдактар Ф. П. Пінчук
Мастак Ю. М. Цюрын
Мастацкі рэдактар Н. І. Яўменава
Тэхнічны рэдактар З. У. Раманкевіч
Карэктар Р. С. Ахрэмчык

Выдавецтва «Народная асвета» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600 Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005 Мінск, Чырвоная, 23.

**Сцежкамі дзядоў**: Этнагр. нарысы: Кн. для вучняў,— Мн.: Нар. асвета, 1986,— 174 с.: іл.

Кніга навукова-папулярных этнаграфічных нарысаў расказвае аб народнай архітэктуры, сялянскай працы, звычаях, абрадах і адпачынку нашых продкаў. Таксама ідзе гаворка аб зменах, што адбыліся ў жыццядзейнасці сельскага насельніцтва ў апошні час. Для вучняў сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту.